ISSN 0234—1387

# крыніца

7
1988



■ ЯКІМ БЫЦЬ «ЖЫЛЛЮ БУДУЧАГА»

«МЫ МОЖАМ УВАЙСЦІ Ў ЛЮБЫЯ ДЗВЕРЫ»

НЕФАРМАЛЫ З «СЯМЁРКІ»

«ЧАМУ Я ПАВІНЕН МАЎЧАЦЬ!»




Роздум
Аляксандра ЛАПЦЕВА,
фармоўшчыка МАЗа,
дэлегата XX з'езда ВЛКСМ,
камсорга

# ФОРМА І ЗМЕСТ



— Ведаеце, якая тэмпература ў гарачага металу? Прыкладна 1500 градусаў. І колер у яго белы. А ў халоднага — чырвоны. Дык вось, халодным металам форму ніколі не зальеш — неадменна будзе брак. Але ж льюць, спяшаюцца коўш вызваліць. Тут ужо ніякая форма не ўратуе зместу...

Вось так і з людзьмі бывае. Перабудова — форма сённяшняга жыцця. Змест — людзі, іх справы і ўчынкі. Адзін гатовы жыць інакш, другі ходзіць паўсонны і паўглухі — усіх у адну форму. Ды як мага хутчэй, час не чакае. Але, час не чакае, толькі не чакае ён і бракаваных адлівак.

Чаму ж такое здараецца? Чаму мудрыя, вельмі патрэбныя краіне і народу ідэі даходзяць да нізоў амаль ужо астылыя?..

Калі кажаш праўду ў вочы, не зважаючы на чыны і твары, цябе адразу ж спяшаюцца абрадаваць адкрыццём добразычліўцы: «Ты смелы, таму што — рабочы. Табе губляць няма чаго». І дададуць з кіслаю ўхмылкаю: «Акрамя сваіх ланцугоў (што ланцугі гэтыя — яны самі, наўрад ці прыходзіць ім у галаву).

Што ж, атрымліваецца цікава. Раз мне губляць няма чаго, дык, значыцца, без сумненняў падстаўляй першы свой лоб, а тыя, каму ёсць за што чапляцца, здалёку будуць назіраць...

З бракаваным ліццём няма праблем. Кінуў на пераплаўку — і ўсё. З людзьмі так не выйдзе. Чаму ж у іх душах сядзіць яшчэ страх за магчымыя вынікі? Чаму ж такая вялікая сіла інерцыі? Няўжо ўсур'ёз можна жыць надзеямі на лепшае, нічэга для іх не робячы?

Вядома, словы гэтыя датычацца не кожнага, з кім я працую. Але ўся бяда ў тым, што такіх астылых людзей не дзесяткі, нават не сотні. Трэба, напрыклад, штосьці ці кагосьці падтрымаць, адобрыць — падтрымаюць. Цяжка штосьці падняць і апусціць руку. А спытайся праз пяць хвілін, што яны аднадушна адабралі, бадай, і не ўспомняць.

Я разумею, усё гэта — вынікі застойнага перыяду. Усведамляю, што з людзьмі старэйшага пакалення, праз лёс якіх пракаціўся не адзін вал навацый і рэарганізацый, гаварыць няпроста. Ну, а з маімі равеснікамі? Ім чаго баяцца? Навошта ім увесь час азірацца па баках ды прыкідваць: а што будзе са мною, калі я зраблю, як загадвае сумленне. Хіба гэта не галоўнае?

Заканчэнне на стар. 5



МАЙСТЭРНЯ

Ігар МАРОЗАЎ

# ФАНТАЗІЯ ЦІ РЭАЛЬНАСЦЬ?

Згадаем песенныя радкі пра блакітныя без назвы гарады, якія сняцца нам іншы раз. Немудрагелістыя нібыта словы, а ў іх жа выяўлена, можа, вызначальная рыса чалавечага розуму — незгасальнае жаданне марыць, уменне зазірнуць у будучыню і фантазіраваць.

На жаль, навука пакуль не адказала і пакінула нам неразгаданай таямніцаю тое, калі ж, у які час зямнога свайго існавання наш паўдзікі яшчэ продак летуценна задумаўся і пачаў свядома і мэтанакіравана пераўтвараць, удасканальваць і аздабляць сваё жытло. Якім яно бачылася першабытнаму летуценніку! Можна толькі меркаваць, што вяршыняй усіх жаданняў тысячы гадоў заставалася для яго цёплая, сухая, утульная і недаступная ветру пячора непадалёк ад добрых для палявання мясцін, пасярод урадлівых зямель.

Кожная эпоха мела самабытныя, непаўторныя ідэі адносна свайго жытла. Мары старажытнага егіпцяніна ці аўстралійскага абарыгена, суродзічаў цяперашніх славян ці маяскіх ваяроў дакалумбавай Амерыкі, элінскага селяніна ці сярэдневяковага рамесніка часам перарасталі (як гэта здарылася ў Томаса Мора з яго знакамітай «Утопіяй») у філасофскі светапогляд, сэнс усяго жыцця.

А сёння! Хіба кожнаму з нас, няхай сабе ў рознай ступені, не ўласцівае гэтае натуральнае імкненне, што дасталася нам ад продкаў, да ўдасканальвання свайго дома!

Перспектывы, футуралагічныя прагнозы горадабудаўніцтва зацікавяць, бадай, любога. Аднак ёсць катэгорыя людзей, для якой «жыллё будучага» не проста фантазія, а прызванне, прафесія, штодзённая праца.

Дойліды. Менавіта ў іхняй уладзе будучыня «блакітных гарадоў», іх прыгажосць, утульнасць, гарманічнасць. А раз ствараць прыходзіцца ў канкрэтны час, для ўсіх, яны павінны ў пэўнай ступені заставацца рэалістамі, усяляк абгрунтоўваць свае рашэнні. Але ніштo не можа стрымаць іх дзёрзкія парывы, імклівы палёт фантазіі. Дык якія ж гарады «сняцца» ім, архітэктарам!

(Артыкул «Як запраектаваць будучыню» глядзі ў наступным нумары)

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

крыніца

№ 7
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

Рэдакцыя рукапісы
па пошце не вяртае

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР па справах выдавецтваў,
паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.05.88.
Падпісана да друку 17.06.88.
АТ 06233.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 8,7.
Зак. 963.
Тыраж 26 700 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79



## ПРА ІНГУ І ПРА СВЕТУ...

Яна ўвайшла хутка, звяртаючы на сябе ўвагу. Распранулася і, паціраючы замерзлыя рукі, сказала:

— Дзяўчаткі, я жудасна замерзла,— і без якогасьці пераходу дадала: — Дайце касметыку, калі ўзялі з сабою.

Вось так пачыналася маё знаёмства з Інгаю, якое перарасло потым у моцнае сяброўства, хоць жыве яна ў іншым горадзе і сустракацца з ёй прыходзіцца нячаста.

Есць такое слова — абаяльнасць. Каля Інгі не трэба гадаць, што гэта такое. Не сказаць, каб яна была прыгожая. Сваю прыгажосць Інга зрабіла сама: на галаве «хімія», на твары сяброўчына касметыка, модныя шмоткі. Карацей, увагу да сябе яна прыцягвала. Дый тэмы для размоў заўсёды магла знаходзіць, як казала сама, «лажовыя»: пра пацаноў, пра дыскатэкі, пра сваю кампанію — «балота».

— Вы не ўяўляеце, як клёва на «балоце». Дома я амаль не бываю, вяртаюся ў дванаццаць ночы. А бацькі? Спачатку сварыліся, цяпер маўчаць. Абрыдла мне, дый ім такœ сама.

У той вечар нашы дзяўчаткі шушукаліся з ёю ў калідоры: «Ну і дзяўчынка! Жаргон, думкі! У галаве адны хлопчыкі». Але неўзабаве такі погляд на яе лопнуў, як мыльная бурбалка. З Інгаю было весела і лёгка, невырашальныя, здавалася, праблемы знікалі.

Калі наша размова сышла аднойчы на вучобу, Інга, пазяхнуўшы, ляніва кінула:

— Збіраюся ў інстытут паступаць. Але, калі шчыра, вучыцца не хочацца. І потым, шкада з «балотам» развітвацца.

Вы спытаецеся, як наконт сучасных рытмаў, курэння і гэтак далей? Курыць Інга спрабавала, але не ўцягнулася. З сучаснымі рытмамі ў яе ўсё ў парадку. Увогуле, сучасная жвавая дзяўчына, са сваёй кампаніяй, дзе прыемна можна правесці час, са сваёй моваю і са сваімі ўласнымі думкамі.

Але разам з усімі сваімі недахопамі. Інга — шчыры і адкрыты чалавек. Яна за справядлівасць. Дзеля якой слоў, а іншы раз і кулакоў не шкадавала. «Прыдурак! Падхалім! Дзе цябе толькі вучылі?!» — звальвалася на гэтага чалавека груда не дужа прыемных слоў. Інга была хутчэй рэзкая і грубая, чым тактоўная. Яе пабойваліся і паважалі.

Але не ведалі многія, не маглі і ўявіць (хлопцы нават, а ўжо пра дарослых няма чаго і казаць), з якой пяшчотаю ў вачах і добрай усмешкаю на твары расказвала Інга, гэты «цяжкі падлетак, што не паддаецца выхаванню», пра свайго адзінага хлопца, якой дабрынёю свяціўся яе позірк, калі глядзела яна на дзятву.

А яшчэ Інга піша аповесці і апавяданні пра іншапланецян. Па сакрэту скажу: яна верыць у тое, што жыццё існуе не толькі на Зямлі, але і на іншых планетах. Любіць сваіх бацькоў, хоць амаль ніколі не слухае іх. Лічыць, што да ўсяго трэба дакапацца самой.

І яшчэ адна сяброўка... Вельмі «добрая, сумленная і з усіх бакоў узорная». Галоўнае яе захапленне — улезці ў душу другога чалавека. Галоўны недахоп — неразуменне душы гэтага чалавека. З «добрым» чалавечкам немагчыма пагаварыць проста так, з ім прыходзіцца гаварыць, як са следчым, нават горш — як з інквізітарам. Цяжка табе? Выкладвай усё Светцы. Думкамі падзяліся, пачуццямі таксама. Не хочаш гэтага сам? Ну і што? Светка хоча. Вось які «добры» яна чалавек.

Падманваць дрэнна, утойваць праўду несумленна, карыстацца спагадаю настаўніка недапушчальна. Праўда, гэта яе не датычыць. Яна ж і так «сумленная».

Брэйк, «метал» — гэта жудасна дрэнна. Бо дарослыя супраць іх. А яна з імі заадно.

Вучыцца Света выдатна. Настаўнікаў слухаецца, даручэнні выконвае. Прымае актыўны ўдзел у грамадскай рабоце. Аднакласнікаў лічыць «неадказнымі дзецьмі». «Ох, калі б усе былі такія,— прачытаўшы гэтыя радкі, скажуць дарослыя.— Выдатны прыклад для пераймання». Самастойная, сумленная, лідэр класа. Аднакласнікі ж яе ненавідзяць. Я не баюся гэтага слова. Ненавідзяць менавіта за «сумленнасць, дабрыню, справядлівасць». Чаму? Гэта ж паняцці вечныя, яны былі, ёсць і будуць. І дабрыня заўсёды застанецца дабрынёю. За гэта ж нельга ненавідзець. Чуеце? Нельга! Але ў Светкі ўсё гэта наадварот. Яе «сумленнасць» гучыць як здрадніцтва, «дабрыня» — насмешка, «справядлівасць» — выгодная пазіцыя. І больш нічога. Пустэча.

Холадна са Светаю. З ёю цяжка і страшна. Яна прытрымліваецца даўно вядомых ісцін.

Няхай будзе болей Інг! Светы страшныя. Вы не згодныя са мною? Тады давайце спрачацца!

Ларыса НЕХВЯДОВІЧ
Гродзенская вобласць

## Я І МЫ

**Усяго паўгода я вучуся ва універсітэце, а як жа я змянілася! Змяніліся мае густы, погляды, паняцці... Я нават, па-мойму, наўрад ці стала разумнейшая. Раней у мяне былі такія цвярозыя думкі, а цяпер у галаве каша. Думаць не хочацца ні пра што. Неўладкаванасць грамадства! Цяпер на гэтую тэму столькі пішуць, вакол яе столькі размоў, што, здаецца, спецыяльна нашпігоўваюць цябе чужымі думкамі, каб ты не дадумаўся да чаго-небудзь свайго. Смешна...**

**Усе кінуліся перабудоўвацца. Менавіта так: перабудоўвацца, падладжвацца пад новыя ўмовы, новыя патрабаванні. Раней нельга было чагосьці пісаць, а цяпер — пішы колькі ўлезе. Сенсацыя! Народ сенсацыі любіць. Яму падабаецца, яму цікава.**

**Гвалт вакол усяго. Раней усіх хвалілі, цяпер лаюць; раней усё было добрае, мала таго — выдатнае, цяпер — жахлівае. Па-мойму, перагнулі палку, аж занадта перагнулі.**

**Пра што я думаю яшчэ?**

**Пра людзей... Пра людзей благіх і добрых. Бо не ўсё чорнае — чорнае, а белае — толькі белае. Ёсць яшчэ сотні нябачных з першага погляду адценняў, пераліваў... Усё складана. Усё шмат больш складана, чым звычайна здаецца на першы погляд... Усё больш складана і лепш. Навошта столькі непрыемнасцей, навошта ўсё ўскладняць? Хочацца крычаць: навошта, навошта, навошта! Каму гэта трэба!**

**Гэта ж так выдатна, калі цябе ўсе разумеюць, калі вакол сябе ты бачыш сапраўдных сяброў, а не напускныя маскі двудушных хлусаў... Маскі — гэта ж страшна! Маска... А хіба ёсць хто-небудзь без яе, з сапраўдным уласным тварам!..**

А. КАПЫТОВА
Мінск, Белдзяржуніверсітэт






Роздум
Аляксандра ЛАПЦЕВА,
фармоўшчыка МАЗа,
дэлегата
XX з'езда ВЛКСМ,
камсорга




# ФОРМА І ЗМЕСТ



Заканчэнне. Пачатак на стар. 2

Не так даўно сабралі нас на пленум заводскага камсамола. Што будзем рашаць — ніхто не ведае. Аказваецца: арганізацыйнае пытанне. Выбраць трэба намесніка сакратара камітэта камсамола. І кандыдатура гатовая. Не вытрымаў я першы. «Ды што ж гэта атрымліваецца,— кажу.— Краіна жыве па-новаму, а ў нас тут, як у мядзведжым кутку. Употайкі, за нашымі спінамі падабралі чалавека, а цяпер хочаце, каб мы, як паслухмяныя робаты, за яго ж прагаласавалі. Не выйдзе! Мы паклічам тых, каго сапраўды ведаем. І галасаваць за іх будзем».

Прапанавалі яшчэ дзве кандыдатуры. І, вядома, выбралі не таго, каго камітэт камсамола ціхенька рыхтаваў і з кім ужо пагаварылі ў парткоме...

Вось так прыходзіць вельмі важнае для нашага складанага часу адчуванне сваёй сілы, сваіх магчымасцей, а галоўнае — упэўненасці, што няма нічога раз і назаўжды ўсталяванага, непахіснага. Што з руціна можна змагацца і перамагаць яе.

Вялікую шкоду справе перабудовы прыносіць паказуха, жаданне выдаць за перабудову тое, што само сабою зразумела. Спытайцеся ў любога рабочага, што ён думае пра камуністычныя суботнікі і, напэўна, пачуеце, што камуністычнымі яны і не пахнуць. Затое неарганізаванасці, лайдацтва, фармалізму, пагроз і прынуздзілайкі — аж занадта. Звычайна прыйдзеш у гэты дзень на завод, не паспееш і вымазацца — здымай робу. Адзявайся і тупай дахаты: усё роўна працы не будзе. Вяртаешся з праклёнам у душы — дзень проста змарнаваны.

Сёлета быў у нас суботнік, як і належана яму быць. Поўная рабочая загрузка, грымела музыка, чырвоныя сукенкі выдаваліся, дзе гэта магчыма. І па радыё перадавалі аператыўную інфармацыю, што і колькі зроблена. Так і павінна быць. Але некаму ўжо не цярпіцца адрапартаваць — перабудаваліся. А хіба тое, што з самага пачатку, само па сабе павінна быць такім,— перабудова? Я разумею перабудову перш за ўсё там і ў тым, што, як кажуць, душу прае. Напрыклад, тыя ж «чорныя суботы». На год іх дваццаць. Дваццаць сваіх выхадных кожны год выкрэслі з жыцця, аплачваючы тым самым чыюсьці цяльпукаватасць, несамавітасць, неарганізаванасць, несамастойнасць і іншыя, іншыя «не». Адгулы не могуць служыць паўнацэннай кампенсацыяй, бо ідзеш на працу ў суботні дзень з цяжкім сэрцам: справы зазвычай хапае да гадзіны дня. Выходзіць, увесь дзень — кату пад хвост.

Ці возьміце тыя ж расцэнкі. Ёсць у нашым цэху наждачнікі, яны ж — абрубшчыкі. Іх задача — знясць усё лішняе пасля ліцця. Праца вельмі цяжкая. Рукі ў іх ад пастаяннай напругі дрыжаць, як у алкашоў. «Колькі,— пытаюся,— ты зарабіў да абеду?» — «Чырвончык будзе».— «А пасля абеду?» — «Яшчэ рублі два — астатняе ж зрэжуць». Вось і выходзіць, што працуе чалавек ад сілы 5 гадзін. Астатні час вымушаны прыкідвацца, што працуе. Не даюць людзям зарабіць. Ды яшчэ прыкрываюцца дзяржаўным клопатам. А на самай справе — падманваюць яго...

Як дэлегат з'езда разам з калегамі быў я на прыёме ў міністра аўтамабільнай прамысловасці. А на заводзе ў той час быў непарадак з аўтаматычнай фармовачнай лініяй, далей няма куды. Штат укамплектавалі, а калі лінію пусцяць — ніхто сказаць не можа. Людзі месяцамі не атрымліваюць зарплаты, сям'ю няма чым карміць. Вось я і кажу міністру: «Калі будзеце ў нас на МАЗе, таварыш міністр, зайдзіце, калі ласка, у гэты цэх, паглядзіце, у якіх умовах знаходзяцца людзі...»—«Непадменна,— кажа.— Я якраз да вас і збіраюся». Ён сапраўды прыехаў. Але глядзеў толькі тое, што блішчыць і зіхаціць. У ліцейку яго не павялі — каму хочацца паказваць дрэннае...

Пасля з'езда камсамола адчуў я ў сабе сілы незвычайныя. І словы Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова пра тое, што з мандатамі дэлегатаў з'езда мы можам увайсці ў любыя дзверы, добра запомніў. Яшчэ па дарозе дадому цвёрда вырашыў: займуся МЖК. Чаго б гэта ні каштавала. Павел Лоўчаў, былы сакратар камітэта камсамола (цяпер ён працуе ў ЦК камсамола рэспублікі) выслухаў мяне без энтузіязму. Спрабаваў нават адгаварыць — справа, маўляў, архіскладаная, клапатлівая, дый невядома яшчэ, як генеральны дырэктар да гэтага паставіцца. «Вось ты з ім сустрэнься і ўсё абгавары». Паабяцаў. Але доўга валаводзіўся. Адным словам, дзейнічаў, як заўзяты бюракрат, пакуль гаркам не ўмяшаўся.

Падтрымаў нашую ідэю і генеральны дырэктар, і мясцовы камітэт. І пайшла справа. Так, не адразу, не раптам. Але пайшла! Калі і далей будзе так ісці, дык праз гады тры будзе ў камсамола МАЗа свой МЖК. А гэта — чатыры дамы (каля трохсот кватэр), дзіцячыя яслі, плавацельны басейн, кафэ-клуб, зімовы сад, магазін «Зрабі сам» і многае іншае, без чаго МЖК — не МЖК.

Мала хацець. Трэба магчы. Трэба ўмець. А галоўнае — дзейнічаць. Вось гэта і ёсць перабудова.

СПАДЧЫНА

Адным з ідэолагаў беларускай нацыянальнай самабытнасці быў паэт М. Арол. Сапраўднае яго імя і прозвішча Сцяпан Пятэльскі. Нарадзіўся ён каля 1890 года на Беласточчыне, беларуска-польскім этнаграфічным памежжы, у Гарадку. Жыццёвы шлях М. Арла вельмі падобны да шляху многіх беларускіх інтэлігентаў у першым калене. Паходзіў ён з шматдзетнай сялянскай сям'і, вучыўся ў царкоўна-настаўніцкай школе ў Ялоўцы Беластоцкага павета і з 1909 г. настаўнічаў на Беласточчыне і Гродзеншчыне. У гэты ж час М. Арол друкуе ў «Нашай Ніве» вершы, артыкулы, карэспандэнцыі, закранаючы найважнейшыя пытанні фарміравання беларускага народа. Ён спрабуе акрэсліць асноўныя духоўныя каштоўнасці нацыі, прысвячае некалькі артыкулаў фальклору, перакладае ўрыўкі з В. Бялінскага па надзённых для беларусаў пытаннях вызначэння нацыі, прызначэння літаратуры. Да 1914 г. М. Арол падрыхтаваў зборнік вершаў «Лірнік» (традыцыйны для таго часу музычны назоў), але пачалася першая сусветная вайна, яго мабілізавалі ў войска, і зборнік так і не ўбачыў свету. Далейшыя падзеі ягонага жыцця разгортваліся вельмі драматычна. У 1916 г. М. Арол за храбрасць быў узнагароджаны георгіеўскім крыжам, а на мяжы 1917—1918 гг. недзе на Украіне, маючы ўсяго 28 гадоў, ён памёр ад тыфу.

Паэтычны талент М. Арла толькі ўбіраўся ў сілу. Цалкам раскрыцца, на жаль, яму не было дадзена. Тое, што засталося, пераконвае ў несумненнай адоранасці паэта.

Верш «Арфа» перадрукоўваецца з хрэстаматыі Ігната Дварчаніна, два іншыя вершы — з газеты «Наша Ніва».

Алесь БЯЛЯЦКІ

М. АРОЛ

## АРФА

Калі к Саулу прыступаў
Дух цёмнай нуднасці і злобы
І горш ад цяжкае хваробы
Яму спакою не даваў,—

Тады Давіда зваў Саул,
І з арфаю Давід яўляўся.
І ад Саула адступаўся
Злы дух пад дзіўны арфы гул.

І цар спакойна засыпаў.
Нуда, трывогі адступалі,
І цёмны думкі не чапалі,
Пакуль Давід на арфе граў.

Як арфа — ты маёй душой
Уладарыш, ў родны край надзея!
Пакуль твой луч у сэрцы тлее,
Я знаю радасць і спакой.

✦ ✦ ✦

Часта мне жыць не пад сілу
прыходзіцца,
Сумная думка ў душы маёй родзіцца,
Сэрца нудою шчыміць,
Як пагляджу, што навокал нас
дзееццца:

Сіл нет, веры на жыццё надзеяцца:
Ажно не хочацца жыць!
Усё, што ўзрасціла старонка любімая,
Усё, што магла даць, як матка
радзімая,
Усё на сынкоў аддала.
Чым жа яны ёй за ўсё адгадзіліся!
Тым, што зусім ад яе адхіліліся,
Быццам не маць ім была...
Сэрца ад гневу маё разрываецца,
З губаў праклянцце, сынкі, вам
зрываецца,
Вам, Беларусі сыны,
Вы адракліся, забылі, пакінулі,
Вы для старонкі радзімае згінулі,
Вы не яе ўжо сыны!
Усё што магла аддала вам любімая,
Быццам як матка для дзетак радзімая,
Ждала адплаты, уцех!..
Доўгу ж свайго вы прад ёю не
споўнілі:
Грабіць — аграбілі, а не напоўнілі...
Ці ж вам не стыдна, не грэх!!

1911?

## НАДЗЕЯ

Праходзіць ноч, за ёю дзень
Ідзе сваёю чарадою,
І гоніць ночы сумны цень,
К жыццю ўздымае ўсё жывое.

І кожны раз дзень новы я
З трывогай ў сэрцы сустрачаю,
І жджэ з тугой душа мая,
Чаго! — я сам не знаю.

І жду я кожны Божы дзень,
І душу мне надзея грэе,
А дзень міне, і ночы цень
На сэрцы смерцю мне павее.

А толькі ўздымецца зара
І сонца першы луч заіграе,
З душы спадае боль-гара
І зноў надзея ажывае.

1913?


Аляксандр БАЙЧОРАЎ,
доктар
філасофскіх
навук


# КОНТРКУЛЬТУРА І ТРОХІ ПРА НЕФАРМАЛАЎ

Вялікі паэт рэвалюцыі Уладзімір Маякоўскі лічыў, што нам пры сацыялізме неабходна «шмат паэтаў, добрых і розных». Гэтая формула Маякоўскага, натуральна, стасуецца і да сацыяльна-духоўнай сферы, і да матэрыяльнай вытворчасці. Але засвоілі мы з яе самае простае: «шмат». У гады першых пяцігодак у гэтым быў свой рэзон: тады ў нас амаль усяго было мала. Сёння аказваецца, што «шмат» дрэннага абутку, нямодных паліто, нізкасортнай сталі, крохкай цэглы, састарэлых трактароў, пасрэднай музыкі, «шэрых» вершаў і г. д.— нашмат горш, калі б іх не было зусім. Цяпер мы спасцігаем, як кажуць, «на ўласнай шкуры» справядлівасць другой часткі сцвярджэння Маякоўскага: усё, што робім, павінна быць якасным.

Але вось яшчэ адна праблема: ці можна атрымаць якасць без стымулявання разнастайнасці? Аказваецца, не. Былі і могуць быць асобныя прарывы: могуць з'яўляцца творы асобных вялікіх талентаў, але агульнага высокага ўзроўню культуры без разнастайнасці не атрымаеш.

Адной з праяў разнастайнасці ва ўзаемаадносінах і дзейнасці моладзі, разнастайнасці, якая ўсё больш і больш узрастае, сталі нефармальныя аб'яднанні. Адразу трэба сказаць, што нефармалы не былі народжаны перабудоваю. У той ці іншай форме, у тым ці іншым маштабе яны існавалі практычна ўсе гады Савецкай улады. Згадайце хоць бы «стыляг» ці «хіпі» 60-х — 70-х гадоў. Свае «нефармалы» былі і ў 20-я і ў 30-я гады. Цікавасць у моладзі да нефармальных аб'яднанняў цяпер відавочна гіпертрафіраваная з тае прычыны, што многія гады пра іх або ўвогуле нічога не паведамлялася (і ішла пагалоска), або яны знаходзіліся на паўлегальным становішчы (а забаронены плод заўсёды салодкі).

Летась у жніўні ў Маскве адбыўся злёт маскоўскіх нефармалаў, на якім былі прадстаўлены больш як 30 аб'яднанняў, а таксама госці з Ленінграда, Пермі і некаторых іншых гарадоў. Культурна-сацыяльныя ўстаноўкі прадстаўленых на злёце арганізацый вылучаліся багатай разнастайнасцю, але што іх аб'ядноўвала, дык гэта нянавісць да стэрэатыпаў. І перш за ўсё да стэрэатыпаў часоў застою. У барацьбе з імі нефармалы спрабуюць сфарміраваць уласную маладзёжную субкультуру. А раз мы маем справу з маладымі людзьмі, якія з уласцівым ім максімалізмам спрабуюць змагацца супраць забюракратызаванага свету «дарослых», імкнучыся проціпаставіць гэтаму свету нешта сваё, бо створаная нефармаламі субкультура ўбірае ў сябе многія нормы і каштоўнасці, уласцівыя маладзёжнай контркультуры Захаду 60-х і 70-х гадоў.

Асобныя тэарэтыкі контркультуры на Захадзе проціпастаўлялі яе не толькі сучаснай «масавай культуры» імперыялізму, але і культурнай традыцыі ўвогуле. Некаторыя савецкія даследчыкі (Ю. Давыдаў) атаясамлівалі яе з «антыкультурай». Тэарэтыкі ж контркультуры на Захадзе трактуюць паняцце культуры зазвычай гэтак шырока, што маладзёжная контркультура аказваецца толькі адным з яе гранічных выпадкаў.

Неабходнасць проціпастаўлення ў маладзёжным асяроддзі ўзнікае звычайна тады, калі асоба не бачыць магчымасцей самарэалізацыі ў сістэме наяўнай культуры і спрабуе адшукаць іх у нечым зусім з ёю не звязаным. Тым часам вынік дваццацігадовага вопыту контркультуры ў ЗША паказвае, што яна аказалася няздольнаю перадолець «масавую культуру» дзяржаўна-манапалістычнага капіталізму. Бо контркультура не так адмаўляла «масавую культуру», колькі выносіла яе за дужкі, адсоўвала ад сябе ўбок.

Так што атрымлівалася аб'ектыўна, што контркультура выконвала тую ж грамадскую функцыю, што і «масавая культура». І як нявечыць, даводзіць да абсурду магчымасць рацыянальнага асваення рэчаіснасці «масавая культура», так і контркультура, спрабуючы знайсці выхад у містыцы, «кайфе», сексе, асуджае чалавека на псеўдарэалізацыю яго ўнутранай сутнасці.

Контркультура выступае і як сукупнасць каштоўнасцей інфантылізму, што нібыта апраўдвае ўласцівае многім маладым людзям жаданне неяк прадоўжыць магчымасць адкладваць выбар свайго месца ў жыцці, а значыцца, і пазбягаць усяе паўнаты сацыяльнай і асабістай адказнасці. Што ж да сацыяльна-крытычнага зараду контркультуры (які звычайна падкрэсліваецца ў працах яе тэарэтыкаў — Т. Хэйдэна, Э. Фрома, Г. Маркузэ, Т. Розака,



Ч. Рэйча і іншых), дык ён, па-першае, накіраваны не на разбурэнне ці «расхістванне» капіталізму, а на татальнае яго адмаўленне; па-другое, апелюе не да «свядомасці мас», а хутчэй да падсвядомасці, да ірацыянальных, сексуальных патэнцый індывіда; па-трэцяе, адмаўляючы каштоўнасць рацыянальнага, аб'ектыўна-навуковага пазнання рэчаіснасці, ён не здольны раскрыць рэальныя хібы і антаганізмы грамадства.

Увогуле контркультура Захаду, як і нігілізм Расіі XIX стагоддзя, адрозніваецца сацыяльна-псіхалагічнай разнароднасцю. Гэта своеасаблівы «плавільны тыгель», праз які праходзіць моладзь грамадства адчужэння. «Таму,— лічыць савецкі даследчык В. І. Скурлатаў,— наўрад ці варта асуджаць разам усю «контркультуру», усіх гэтых безумоўна сумленных юнакоў і дзяўчат, што, як калісь Феафіл і Марыя, юродствуюць на плошчах. Гэта падобна на пакуты родаў. Тут і боль, і гора бацькоў, і кроў і воды. Тут і магчымасць выхаду на сапраўдны шлях — шлях рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадства».

Для нефармальных аб'яднанняў у нашай краіне ўласцівыя розныя рысы і грані контркультуры Захаду, але, бадай, найбольш агульнымі сталі: выступленне супраць стэрэатыпаў свядомасці, барацьба супраць бюракратызацыі розных сфер грамадскага жыцця, жаданне раскавацца ў пачуццёва-эмацыянальных адносінах. Метады барацьбы нефармальных аб'яднанняў за вырашэнне гэтых задач разнастайныя. У шэрагу выпадкаў дзейнасць нефармалаў прымае настолькі нездаровы характар, што становіцца блізкай да сацыяльнай паталогіі.

Што ж да барацьбы са стэрэатыпамі, дык хачу напомніць, што сама па сабе наяўнасць стэрэатыпаў свядомасці — ні «дрэнна», ні «добра». Стэрэатыпы, якія выпрацаваліся ў чалавека ў працэсе эвалюцыі, выступаюць як своеасаблівыя алгарытмы, спосабы найбольш зручнага і эканомнага фарміравання ўяўленняў і вобразаў. Механізм стэрэатыпізацыі мысліцельных рэакцый чалавека дазваляе перапрацоўваць велізарны аб'ём інфармацыі, што павялічваецца з кожным днём, дазваляе ў літаральным сэнсе слова выжыць нашай псіхіцы, нашай свядомасці. Адначасова сфармаваны раней стэрэатып аказвае моцны ўплыў на непасрэднае ўспрыняцце любой новай сітуацыі.

У першы момант мы нібыта разумеем, што ў дадзенай канкрэтнай сітуацыі загад няправільны. Але ўсплывае замацаваны стэрэатып: начальнік заўсёды мае рацыю — і вось ужо мы сумняваемся: а раптам ён ведае нешта недаступнае нам?

Але калі ўжо ставіць задачу барацьбы са стэрэатыпамі мыслення, то гаворку тут варта весці не пра адмаўленне ад стэрэатыпаў увогуле (што, у прынцыпе, немагчыма), а пра адмаўленне ад падманных або састарэлых стэрэатыпаў.

Пісьменніца і публіцыст Святлана Алексіевіч разважае ў адным са сваіх выступленняў з гэтай нагоды так: «Чыноўнае, я сказала б нават казарменна-бюракратычнае стаўленне да чалавека прарастала дзесяткі гадоў. Яно дэфармавала душы не аднаго пакалення. Страх перад начальствам, страх перад уласнай жонкаю, страх перад дурнем... Страх сёння, думаю,— перашкода нумар адзін. І мы з месца не зрушымся, пакуль не пераможам яго ў сабе».

Прыкладам вельмі распаўсюджанага стэрэатыпу з'яўляецца і ўсім знаёмае меркаванне: моладзь — гэта будучыня. А калі ўдумацца, дык пастулат гэты з'яўляецца грубай і аднабаковай догмаю, якая наносіць і ўжо нанесла сур'ёзную шкоду справе выхавання моладзі. Бо моладзь — гэта не ў меншай ступені і будучыня...

Ёсць у гэтага стэрэатыпу і яшчэ адна «праява»: юнакі і дзяўчаты разглядваюцца не як самабытныя, самакаштоўныя асобы, а як асабовыя загатоўкі, няздольныя ўзяць на сябе ўсю паўнату адказнасці за свае ўчынкі. А значыцца, іх варта вучыць, выхоўваць і ўсяляк падцягваць да ўзроўню паўнаважнай рабочай сілы. Тым часам абсалютна ігнараваўся той факт, што самакаштоўны кожны этап чалавечага жыцця. Ці не таму і выклікаюць такое непрыязнае, а ў лепшым выпадку асцярожнае стаўленне многіх дарослых нефармальныя групы і аб'яднанні, што выяўляюць яны (свядома ці несвядома) самакаштоўнасць моладзі?.. Прынятыя ў апошнія гады, да лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС, рашэнні аб розных рэформах сістэмы адукацыі якраз і мелі той агульны недахоп, што прадугледжвалі, што і як «мы» (дзяржава, настаўнікі, грамадскасць) будзем рабіць з «імі» (маладымі людзьмі —, аб'ектам), замест таго каб забяспечыць умовы, якія дазваляюць маладым самастойна выяўляць сваю актыўнасць у якасці адказнага і самабытнага суб'екта.

Варта мець на ўвазе, што выяўленне, вызначэнне састарэлых і падманных стэрэатыпаў — толькі першы крок на доўгім і цяжкім шляху сцвярджэння новага мыслення. Грамадская свядомасць аб'ектыўная, заканамерна адстае ад грамадскага быцця. Змяненне быцця — развіццё гасразліку і дэмакратызацыя — будзе весці, натуральна, да перамен у свядомасці. Але састарэлыя стэрэатыпы, як асаджаныя крэпасці, будуць змагацца да апошняга. А ўзяць іх мы павінны: за нас гэтага не зробіць ніхто.

На снежаньскім 1987 года Пленуме ЦК ВЛКСМ у справаздачы першага сакратара В. Міроненкі было заяўлена, што «неабходна адмовіцца ад спажывецкага стаўлення да моладзі». У краіне ідзе падрыхтоўка праекта Закону аб моладзі. Пры правільным да яго падыходзе гэты закон зможа прабіць мураваныя крэпасці падманных стэрэатыпаў, якія стаяць на шляху перабудовы.

Аднак самыя разнастайныя бюракратычныя структуры і працэдуры, супраць якіх актыўна выступаюць цяпер нефармалы, аказваецца, ствараліся не толькі ў «застойны» час. Каб больш правільна разумець праблемы, якія хвалююць нефармалаў у гэтай галіне, неабходна ісці на дыялог з імі. Адным з першых крокаў тут стала, напрыклад, сустрэча прадстаўнікоў некаторых нефармальных аб'яднанняў Беларусі, праведзеная 26—27 снежня 1987 г. сумесна з ЦК ЛКСМБ. Актыўнае ўключэнне ў барацьбу з бюракратызмам камсамола будзе безумоўна спрыяць росту яго аўтарытэту ў маладзёжным асяроддзі.

Бадай, найбольш распаўсюджанай формаю разнявolення пачуццёва-эмацыянальнай сферы жыццядзейнасці сучаснага маладога чалавека стала захапленне рок-музыкай. Досыць доўгі час попыт маладых у гэтай галіне культуры задавальняўся з дапамогаю імпартнай прадукцыі і паўпраўдзівай інфармацыі, распаўсюджанай некаторымі зноў жа нефармальнымі аб'яднаннямі. Сёння фірма «Мелодыя» пачала выдаваць альбомы многіх рок-музыкантаў.

Сфарміраваная сістэма выхавання робіць тут, вядома, толькі першыя спробы. Кіраўнікам традыцыйных маладзёжных арганізацый проста неабходна вызваляцца ад ранейшых стэрэатыпаў у дачыненні да рок-музыкі.

Кожны чалавек мае права ставіцца да яе па-свойму. А той факт, што рок стаў у 80-я гады самым папулярным музычным рухам моладзі планеты, сведчыць пра тое, што ён аб'ектыўна адказвае некаторым натуральна-ўзроставым патрэбнасцям чалавека. (Трыццацігадовая гісторыя року на Захадзе і ў прыватнасці ў ЗША паказвае, што захопленасць ім адваротна прапарцыянальная ўзросту.) «Рок — не прыхамаць,— лічыць вядомы спецыяліст па мозгу акадэмік Н. Бехцярава.— Думаю, насуперак погляду многіх, што патрэбны ён моладзі не для знешняга свету, не для эпатажу дарослых — толькі для сябе. У арганізма ў перыяд росту ёсць патрэбнасць у трацe энергіі і падкачцы яе, у рухавай актыўнасці, у раскаванасці, у эмацыянальнай аддачы. Мозг падлеткаў — перш за ўсё эмацыянальна-рухавы інструмент. Ён яшчэ фарміруецца для абстрактнага лагічнага мыслення, і рок адказвае попыту такога мозга — сёння, у гэтым складаным свеце».

Аднак часта рок-музыка набывае гіпертрафіраваныя, а ў частцы «рокераў» — нават пачварныя формы. Забарончы сверб, які яшчэ сустракаецца ў работнікаў сферы культуры, можа прынесці тут толькі шкоду. У дадзенай сітуацыі, думаю, неабходна, з аднаго боку, прапагандаваць усімі магчымымі сродкамі лепшыя ўзоры нашай і замежнай рок-музыкі, ствараючы тым самым умовы для фарміравання культуры самога року, а з другога боку, шукаць і папулярызаваць іншыя формы пачуццёва-эмацыянальнай і рухавай «кампенсацыі». Чаму б не даць студэнтам і старшакласнікам магчымасць працаваць за рэальную заработную плату ў вольны ад вучобы час у сферы абслугі, а ўлетку — у сферы будаўніцтва і сельскай гаспадаркі? Чаму б не праводзіць танцавальныя марафоны (па розных відах танцаў), спартыўныя і эстрадна-музычныя спаборніцтвы (паміж класамі, дварамі, вучылішчамі, нефармальнымі аб'яднаннямі), турысцкія паходы ўсіх відаў (у тым ліку і такія, калі 14—15-гадовыя юнакі і дзяўчаты не будуць сядзець поседам змену, а то і дзве ў адным і тым самым піянерскім лагеры, а пройдуць па дзесятках лагераў у розных частках рэспублікі)? Важна, каб усе гэтыя формы эмацыянальна-рухавай кампенсацыі не былі арганізаваныя «зверху», а каб былі створаны рэальныя магчымасці і ўмовы для іх арганізацыі самімі юнакамі і дзяўчатамі.

Гісторыя вучыць, што нельга доўга кантраляваць усіх і ўсё. Бо карысці ад гэтага ў выніку не будзе ні тым, каго кантралююць, ні тым, хто кантралюе. З часам, думаецца, адамруць або ператорацца ў малапапулярныя секты тыя экстрэмісцкія нефармальныя аб'яднанні, якія ў сваіх установках у большай ступені спекулявалі на асобных негатыўных рысах сацыяльных узаемаадносін перыяду застою. Паняцце ж «нефармалы» дый сама гэтая з'ява ў маладзёжным асяроддзі, безумоўна, застанецца. Хочацца толькі спадзявацца, што ў будучыні ў нашай маладзёжнай субкультуры фармальных і нефармальных аб'яднанняў будзе шмат не толькі розных, але і добрых.





Уладзімір ГРАЎЦОЎ

# «ПІЖОНЫ» І «КРЭСТЫ»

## НАТАТКІ ДЫРЭКТАРА ШКОЛЫ

**— Ну как тебе твоя группа!**
**— А-а, одни кресты собрались!**
**— И у меня! Прямо колхоз настоящий!..**

(З размовы двух першакурснікаў у «Рамонку»)

...З фільма ішлі. Спачатку адзін — нясмела, сарамліва, потым яшчэ адзін, потым маладая пара, з выклікам ляпаючы спінкамі крэслаў, пасля ўжо натоўпамі, нязмушана, на поўны рост, ішлі да выхаду. Ішлі з фільма, які прынята называць цяжкім, «элітарным».

Аднакурснік, які зацягнуў мяне ў кінатэатр на ўскраіне Мінска, не вытрымаў.

— К-калгас пайшоў!..— працадзіў ён скрозь зубы.

...Гэта здарылася на першай «бульбе». Ён, кволы, флегматычны, у акулярах, не паслухаўся нас і ў першы ж вечар пайшоў у мясцовы клуб «паглядзець Феліні». Чалавек ён тыпова гарадскі, нават бабулі ў яго ў вёсцы не было, і ён, не ведаючы няпісаных вясковых законаў, застаўся пасля фільма на «дыскатэцы». І мала таго што застаўся, дык уздумалася яму яшчэ адну мясцовую прыгажуню запрасіць — «так, дзяцінства згадаць: розныя там вальсы, танга...». Вынік гэтае задумы быў жахлівы і... заканамерны. Яго «выклікалі» на вуліцу і там, адвёўшы за рог, пачалі лупцаваць. Спачатку ён не разумеў, чаго ад яго хочуць, і толькі здзіўлена ўсхліпваў:

— Хлопцы, за што?!.. Што я вам такое зрабіў?..

— Маўчы, піжон, а то яшчэ ўвалім! — змрочна адказвалі яны і працягвалі сваю чорную справу.

...Цяпер ён сядзеў у кінатэатры і, узнервавана сцяўшы вусны, стараўся не глядзець на гэтых учарашніх вяскоўцаў, што забрылі сюды з суседняга рабочага інтэрната. І калі б хто ўгледзеўся цяпер у яго твар, то ўбачыў бы на ім пагарду...

Прайшло некалькі гадоў. Я ўжо скончыў універсітэт і працаваў у сельскай школе настаўнікам рускай мовы і літаратуры. Аднаго разу, у якасці члена настаўніцкай камсамольскай дружыны, дзяжурыў у мясцовым клубе.

Майскі суботні вечар. Танцы ў самым разгары: зала амаль поўная, аглушальна равуць калонкі, мільгаціць святламузыка, ходзяць туды-сюды дзелавітыя дзесяцікласніцы — адным словам, субота. Я стаяў

Заканчэнне на стар. 12



**Наталля ГРОМАВА**

# ...І ДОБРАЕ СЛОВА СКАЖАЦЦА ЎСЛЕД

**Эсэ**

«Час збіраць каменні...» Да кожнага ён прыходзіць у свой тэрмін. Прыходзіць — і глядзіць вачамі такіх, здавалася, прывычных, добра знаёмых на працягу многіх гадоў людзей... І, мабыць, упершыню няма ў гэтым іх поглядзе былой ўпэўненасці, устойлівасці і мяккай павучальнасці, якою па праву старэйшых ахоўвалі яны цябе некалі, калі былі моцныя, здаровыя і ва ўсім упэўненыя. Але — няма нічога вечнага. І вось сёння ўжо ты — іх сіла. І ты глядзіш цяпер на іх спакойным поглядам, усё разумеючы. А яны, твае дарослыя дарагія людзі,— нібы дзеці, як і ты калісьці, гэты твой погляд ловяць, чакаюць, ім супакойваюцца...

Азіраючыся на мінулае, прыходзіш раптам да вельмі простай і яснай высновы: цябе ж не было б такога, які ты ёсць сёння, калі б у жыцці тваім не было тых самых людзей, якія, растраціўшы сябе па кроплі, ці ўвогуле пакінулі жыццё, ці глядзяць цяпер трывожнымі вачамі...

«Ды каму ўсё гэта трэба!» — стукае ў галаве нецярплівы, спешны чыйсьці вокліч, спроба спыніць «эфемерныя», «красамоўныя», «пустыя развагі» і вярнуцца да такога прывычнага, такога рэальнага, да такога штодзённага...

Сёння стала, на жаль, непапулярным над нечым задумвацца, нават калі гэтае «нешта» — ты сам і тваё жыццё. Таму што «жыць будзе няма калі». (?!.) Хачу адказаць на гэта ў сваё апраўданне, што жыццё — яно, вядома, не спыніцца. Будзе працягвацца. Да пары да часу.

А потым — усё роўна надыходзіць час «збіраць каменні». Да ўсіх без выключэння.

На адну з маіх публікацый прыйшоў ліст. Смешны і нейкі нязграбны. «Дзівак-чалавек!» — пацiснула плячыма. Адклала канверт убок. А потым — зноў да сябе пасунула.

«Жыць можна толькі тады, калі ёсць моцны падмурак, здаровы пачатак. А ў мяне — нічога,— пісаў нехта,— ні ведаў, ні таленту. Нічога. А пражыў ужо чвэрць стагоддзя».

— Колькі-колькі? — спытаўся б тут сёй-той з маіх знаёмых. 25? Гэта не «ўжо», а «яшчэ». Не інакш як вар'ят.

А «вар'ят», між тым, працягваў: «Я дрэнна пішу, але заўсёды шмат чаго хочацца сказаць... Не ведаю, што мяне падштурхнула напісаць на гэты раз... Мабыць, пачуццё адзіноты? Нічога няма больш страшнага...»

Уяўляеце, як цяжка бывае чалавеку, калі ён раптам бярэцца аднойчы за пяро і піша: кудысьці, камусьці, чамусьці — з адной толькі патаемнай надзеяй: каб пачулі.

І я ўявіла, як адчуваюць сябе тыя, «маўклівыя», якія нікуды нікому не пішуць, а проста ціха жывуць побач, часам глядзяць на вас употай позіркам больш доўгім, чым заўсёды...

Надыходзіць час — і гэтыя людзі нас пакідаюць.

А яшчэ надыходзіць час — і вы раптам пачынаеце разумець: як шмат вы маглі, як шмат вы былі павінны зрабіць і як шмат не зрабілі...

Хачу цяпер дадаць: я ўдзячная. Ужо ведаю: можна быць удзячнай не толькі тым, хто сеяў у табе дабро. У роўнай ступені варта быць удзячным самаму рознаму вопыту. Інакш ці магла б развівацца ў душы неабходнасць процiборства?

Мая першая настаўніца. Памятаю толькі прозвішча: Еўсікава. Памятаю, як засаромелася я адразу ж, не паступіўшы нават яшчэ і ў школу: вялізны цяжкі званочак, які уручылі мне, будучай першакласніцы, на ўрачыстай лінейцы, раптам недарэчна зазваніў у самы неадпаведны момант: калі слова трымаў дырэктар. Усе адразу ж павярнуліся да мяне. Перавярнуўшы званок і разглядваючы, што там, усярэдзіне, я была гатовая тады праваліцца праз пясчанае пакрыццё школьнага стадыёна, па якім хутка трэба было бегчы, «абводзячы круг»...

Настаўніца гучна сказала, што нельга званіць, калі гаворыць дырэктар. Гэты пастулат я засвоіла добра і таму, каб не дапусціць у будучыні тую прыкрую памылку, проста ўцягвала галаву ў плечы, калі бачыла кожнага, хто хоць неяк нагадваў дырэктара. І ўжо старалася, вядома, маўчаць.

Выявілася, што школа — рэч цікавая. Тым больш што займаліся мы ў ёй не толькі ўрокамі ў першапачатковым іх сэнсе. Мы шмат падарожнічалі: я маю на ўвазе экскурсіі, якія арганізоўвала для нас усё тая ж першая настаўніца тады, калі яшчэ не было ў школьнай праграме для першакласнікаў такога прадмета, як «азнаямленне з навакольным асяроддзем». Мы знаёміліся з ім непасрэдна.

Памятаю, у адну з далёкіх паездак мама дала мне тры рублі на той выпадак, калі мы прагаладаемся і давядзецца купляць якую-небудзь ежу. Купляць яе і сапраўды давялося. Але без канфузу не абышлося і гэтым разам. Не ўяўляючы сабе дакладна, колькі гэта — тры рублі і што на іх можна купіць, я спыніла свой выбар на нейкай вэнджанай каўбасе, што клубком ляжала на прылаўку.

— Колькі табе, дзяўчынка? — спытала прадаўшчыца.

— На ўсе,— доўга не раздумваючы, адказала я, і блізка не ўяўляючы сабе, колькі гэта можа атрымацца.

А атрымалася вельмі шмат. Столькі, што ў гандлёвай зале пачуўся дружны рогат усіх, хто там быў. Мне ўручылі пакет, а ад яго яшчэ цягнуўся доўгі-доўгі каўбасны хвост...

Настаўніца пачырванела і з раздражненнем і непрыязю паглядзела на мяне:

— Цябе што, дома не кормяць?

Мяне дома кармілі, але ў той момант гэта не мела ўжо значэння.

Пра экскурсію я расказала ў першым сваім школьным сачыненні. Адзнака магла б быць выдатнай, калі б я ўтрымалася ад частых паўтарэнняў таго, што адкрыла для сябе ў падарожжы і чым жадала цяпер падзяліцца з усімі.

— Усім і так усё даўно ўжо ясна,— сказала настаўніца, і я, згадзіўшыся, недарэчна пацiснула плячыма...

«А пры чым тут, уласна, усе гэтыя вашы «званочна-каўбасныя» ўспаміны?»—можа спытаць, напэўна, той ці іншы чытач. І я адкажу з гатоўнасцю, што, можа, вядома, і ні пры чым. Толькі калі захоча раптам хто-небудзь разабрацца неяк з сабою і з тым, што адбываецца навокал — згадак (тых ці іншых) не абмінуць. Таму што менавіта ў іх — адказ на пытанне, чаму свет «сканструяваўся» ў нашай свядомасці такім, якім мы яго сёння ўспрымаем.

Урок ідзе, як вядома, усяго 45 хвілін. Але як быць, калі ёсць неабходнасць выслухаць ці выказацца? Наша мудрая настаўніца рускай мовы і літаратуры Валянціна Сямёнаўна Іванова заўсёды знаходзіла для нас, сваіх вучняў, такую магчымасць. Як шмат дала мне гэтая магчымасць, магу ацаніць толькі цяпер. А тады — змагла, дзякуючы ёй, «зафіксаваць» у школьным сачыненні і сваёй свядомасці вобраз раз і назаўсёды любімага мною Пячорына, разгледзеўшы ў ім разгубленасць і адхіленасць...

Як гэта важна, разумею цяпер, у свой час услухацца і разгледзець. Урок ідзе ўсяго 45 хвілін — настаўнікі, давайце хоць калі-небудзь сваім вучням такую магчымасць.

Мая настаўніца ўсё сваё жыццё пражыла адна, страціўшы каханага на вайне, а пасля — баючыся пайсці на кампраміс (у жыцці яны здараюцца нярэдка),— каб дагадзіць нам, яе няўдзячным вучням, якія нічога тады не падазравалі: «а раптам словы аб шчырасці,— баялася,— разыдуцца са справай?..» Я даведалася пра гэта ўжо незадоўга да яе смерці, у момант роспачнай шчырасці, які бывае часам у адзінокіх людзей.

Пра тое, што гняло ўсё жыццё дарагога майго настаўніка Аляксея Пятровіча Граса, я і ўвогуле не даведалася... Думаю сёння аб гэтым, і пачуццё віны не праходзіць... Шмат дала б зараз, каб вярнуць магчымасць прыйсці, пагаварыць, вызваліць, пераняць... Толькі позна ўжо.

Ён вучыў нас выклікаць гук з нябыту, трымаць яго ў руках; чатыры гады я вучылася гэтаму майстэрству, не падазраючы нават пра тое, што гукі ўзнікаюць зусім не з нябыту: яны льюцца ад аднаго чалавека да другога, і калі з'ядноўваць гэтыя амаль няўлоўныя струны ў адзін шматгалосы арган, атрымліваецца ХОР... А сапраўдны хор гучыць толькі тады, калі чуваць кожнага з тых, хто яго стварае. Але для таго, каб зразумець і адчуць гэта, трэба ўслухоўвацца. Доўга і ўважліва.

Многім з сённяшняй моладзі такія развагі могуць здацца трохі дзіўнымі. Дапускаю нават, што модны цяпер пастулат «жыві сённяшнім днём і, па магчымасці, без лішняга клопату» ў нечым, мабыць, і больш дасканалы: хаця б у тым, што просты, што не патрабуе асаблівых маральных і душэўных намаганняў. Аднак я ўпэўнена: чалавек не можа быць свабодным ад людзей вакол сябе, колькі б да гэтага ні імкнуўся. Перасячэнне рана ці позна насцігне. Нечаканай расплатай за глухату, слепату, немату...

«Не выслухала, не разгледзела, не павіншавала, не падарыла ў свой час кветкі, не ўсміхнулася камусьці расквечанай усмешкаю...»

Гэтыя мае журботныя думкі раптам спыняе бадзёры тэлефонны званок.

— Ты паглядзі, якое сонца на дварэ! — крычыць мне ў трубку мая сяброўка.

Я ўзнімаю вочы ад пісьмовага стала, гляджу ў акно: і сапраўды — сонца...



# «ПІЖОНЫ» І «КРЕСТЫ»

Заканчэнне. Пачатак на стар. 9

убаку, перакідваючыся словамі з мясцовымі хлопцамі, «не заўважаючы» цікаўных твараў маіх сямікласнікаў, што прыліплі да аконнага шкла. Дзесяцікласнікі выходзілі на двор накурыцца за рогам клуба. Да выпускнога вечара заставаліся лічаныя месяцы, і гэты «нейтральны» час яны вытрымлівалі з гонарам — ніводзін настаўнік не бачыў іх дагэтуль з цыгарэтаю.

...Нечакана ў клуб увалілася група падлеткаў.

— У, піжоны з'явіліся! З пасёлка,— растлумачыў мне знаёмы шафёр.— А вунь тыя з Мінска, відаць...

І праўда, на выгляд ім было гадоў па 15—16, але трымаліся яны шмат смялей за «нашых»: курылі, гучна смяяліся, абдымаліся адно з адным не саромеючыся нікога. Усе яны, як хлопчыкі, так і дзяўчынкі, былі ў модных «бананах», стракатых футболках, са звышсучаснымі прычоскамі. Яны ўвайшлі ў залу і, стварыўшы невялікае кола, пачалі танцаваць. Мудрагелістыя «па», элементы «брэйка», рок-н-рола былі накіраваны на адно — здзівіць публіку. І публіка ўступіла. Мясцовыя хлопцы, якія ўжо на працягу гадзіны танцавалі досыць проста і аднастайна, расступіліся, потым зусім адышлі ўбок. «Госці» адчулі сябе ў цэнтры ўвагі. Некалькі «нашых» паспрабавалі пацягацца з імі, але не вытрымалі і выйшлі са спаборніцтва. Вясковыя дзяўчаты трохі насмешліва, але ўсё-такі захоплена назіралі за «гарадскімі».

Танец скончыўся, і «госці» выйшлі на вуліцу перавесці дух. Услед за імі няспешна пабрылі і «нашы».

Не паспеў я выслухаць разважанні знаёмага трактарыста пра гарадскіх дзяўчат, як за акном пачуліся глухія ўдары, крыкі і дзявочы віск. Міма нас устрывожана пачалі выбягаць з залы маладыя трактарысты, шафёры — усе тыя, хто непрыкметна стаяў увесь гэты час ля сцен. Выбеглі і мы.

На вуліцы, дакладней, на ганку і ля яго, ішла бойка. І калі ў зале тон задавалі «госці», дык тут перавага была на баку «нашых», вясковых. Яны адцяснілі «гарадскіх» да плота і раз'юшана калашмацілі. Госці, паспрабаваўшы ўжыць «кіношныя» прыёмы каратэ, неўзабаве змяклі і, засланіўшы твары рукамі, моўчкі пераносілі ўдары. Іх сяброўкі, стоўпіліся ўбаку і нема крычалі.

Нечакана пачуўся трэск: ламалі плот. Першы з тых, хто падляцеў з самаробнай «дубінкаю», быў Юра М.— наш дзесяцікласнік. Потым яшчэ адзін — таксама школьнік. Я рвануўся да іх...

— Адыдзі... це, настаўнік! — прастагнаў адзін з іх і, вырваўшыся, шмыгануў у натоўп. За ім другі. Яны падбеглі да худзенькага гарадскога хлопчыка і...

Так і запомнілася: гэты Юра і той хлопец, які чымсьці нагадаў мне... майго аднакурсніка-кіналюба.

Прайшло некалькі дзён. Яны сядзелі на маім уроку і паглядвалі раз-пораз у акно на школьны двор, які вабіў свежасцю і цеплынёю. Думкі іх былі далёкія ад Горкага, якога мы тады праходзілі, і яго герояў, пра якіх, магчыма, ім прыйдзецца пісаць у сачыненні на выпускных экзаменах. Я ўсё ж стараўся неяк захапіць іх спрэчкаю паміж Лукой і Саціным. Патроху, сам таго не заўважаючы, я загаварыў пра жорсткае асяроддзе, у якім прыйшлося жыць героям п'есы і самому Горкаму.

— Ужо за адно тое,— усклікнуў я,— што ён прайшоў праз такі бруд, выпрабаванні, цяжкасці і выйшаў з усяго гэтага найкультурнейшым і найадукаванейшым чалавекам свайго часу, ён заслугоўвае найвялікшае пашаны. А многія і не спрабуюць вырвацца са стыхіі боек і п'янай зухаватасці,— уздыхнуў я, міжволі зірнуўшы на твары падлеткаў.

— А чаго яны? —прабурчэў адзін з хлопцаў.— Прыехалі як піжоны і...

— А што? Што значыць піжоны? — загарэўся я.

Але хлопцы маўчалі.

— Як вы не разумееце,— прарвала мяне.— Вы ж самі ствараеце замкнёнае кола: вы іх лупцуеце кулакамі, а яны вас потым — пагардаю.

Ні слова адказу.

Я міжволі ўспомніў эпізод з тэлесерыялу «Народжаная рэвалюцыяй», дзе галоўны герой, спачатку цёмны і забіты, растрачваў сябе ў кулачных баях, «сценка на сценку». Быць бы яму пешкаю ў крымінальным свеце, ды сустрэў добрых людзей і знайшоў сябе ў сапраўднай, сур'ёзнай справе. І ўжо ў апошніх серыях і герою, і нам, тэлегледачам, здаецца неверагодным, што жыццё яго магло скласціся неяк інакш...

Уся мая істота, розум пратэставалі супраць такога ненавуковага параўнання, а сэрца пыталася: «А гэтых? Гэтых як? Ды не потым, а зараз!..»

Я глядзеў на іх, гэтых Юраў, Коляў, Мішаў, і бачыў іх рукі — цяжкія, навярэджаныя, сялянскія, на якую толькі працу не здольныя, але такія бездапаможныя перад вострым слоўцам, раскаванымі паводзінамі тых, кім яны пагарджалі і чыёй нязмушанасці... зайздросцілі.

Але, можа, ніякай праблемы і няма? Можа, гэта ўсё надумана? І «піжоны», і «кресты», і іх узаемаадносіны?.. Але нікуды не дзецца ад успамінаў: добраахвотныя «санітары» ачышчаюць гарадскія вакзалы і танцпляцоўкі ад нязваных чужынцаў-«крестов», а тыя, у сваю чаргу, ачышчаюць свае вясковыя танцы і вяселлі ад чужынцаў-«піжонаў».

— Э-э,— чую я раздражнёны голас.— Трэба шукаць не адрозненні, а тое, што аб'ядноўвае!..

Я таксама падумаў так і паспрабаваў разам з маімі дзесяцікласнікамі знайсці гэта агульнае.

— А чаму ўсё-такі не сябраваць вам? — спытаўся я.— Няўжо няма ў вас агульных інтарэсаў, га? Нібыта ж па адных падручніках вучыцеся, адны і тыя ж фільмы глядзіце?

— Ну-у? — узнялі вочы хлопцы.

— Урэшце, вы ўсе ж члены аднаго маладзёжнага саюза?

Яны ў недаўменні залыпалі вачыма, але ацанілі гэта як жарт і засмяяліся...

— Э-э,— зноў чуецца мне раздражнёны голас.— Няма такой праблемы! Выдумка ўсё. Хуліган, ён паўсюды хуліган, незалежна ад таго, у горадзе жыве ці ў вёсцы.

Але як быць тады з Людай М.?

...Яна была з тых вучаніц, якія сваёй стараннасцю, упартасцю, імкненнем да ведаў кампенсуюць п'яную лаянку бацькі, недахоп яркіх уражанняў маленства і ў рэшце рэшт дасягаюць вынікаў, якія не ўступаюць поспехам тых, хто з дзяцінства прывык слухаць пушкінскія вершы і шапэнаўскія прэлюдыі. Яна заўсёды своечасова «здавала» вывучаныя на памяць вершы, пісала сачыненні, малявала прыгожыя рамачкі для храналагічных табліц пісьменнікаў.

З выгляду Люда была досыць абаяльная, сімпатычная дзяўчына, і было прыемна бачыць, якім поспехам яна карыстаецца на школьных вечарах. Ніхто асабліва і не здзівіўся, што яна, адзіная з класа, паступіла ў сталіцу ў ВНУ. Першы час яна прыязджала дамоў пры кожным зручным выпадку, і ўвечары яе можна было ўбачыць сярод сяброўак-аднакласніц, якія спяшаюцца ў клуб. Тым больш што амаль усе яе аднакласніцы засталіся ў родным калгасе, не паступіўшы ў тэхнікумы і вучылішчы. Але потым я перастаў бачыць яе. А аднаго разу сустрэў у Мінску. І ледзь прызнаў. Мала таго што на ёй было дарагое футра, модныя боцікі, але і сама змянілася: выцягнулася, стала больш раскаваная і, скажам так, жвавая. Мы разгаварыліся. І я адразу адчуў: яна ўжо не ранейшая.

Дый сама яна пацвердзіла з гонарам:
— Я ўжо гарадская!

Пагаварылі пра вучобу, пра выкладчыкаў.

— Ну, а на танцы тут ходзіш? — пацікавіўся я, памятаючы, што яна любіла танцаваць.

— Хаджу. Толькі не ў «горад», а ў «абшчагу»,— ахвотна адказала Люда.

— А чаго ж так?

— А,— прамовіла яна.— На гарадскіх «крестов» шмат, а ў нас свае, інстытуцкія, дый мінскія хлопцы да нас ходзяць. У нас свой рок-гурт ёсць. Вось!..

— Разумею,— сказаў я.— А дадому часта ездзіш?

— Не-а,— засумавала яна і, павагаўшыся, сказала: — Нудна мне там, у вёсцы. Я нібыта хачу з дзяўчынкамі сваімі быць як тады, у школе, а не выходзіць... Інтарэсы розныя, пагаварыць і то няма пра што. Не ўсё ж пра школу размаўляць.

— А вось Сашу... бачыш? — спытаўся я.

— Бачыла,— пачырванела яна.— Ён і ў інтэрнат да сябе запрашаў — была адзін раз: зменшчык яго ў армію адыходзіў. І на танцы схадзілі. Да іх, у іх ДК.

— Ну і?..

— А,— скрывілася яна.— «Кресты» адны!..

Відаць, адчуўшы, што сказала нешта не тое, стала развітвацца:

— Ну, я пайду. А то мне яшчэ ў бібліятэку трэба — курсавую пішу.

І, перакінуўшы цераз плячо сумачку, лёгка, ледзь не падскокваючы, пабегла да трамвая.

Я таксама павярнуўся і пайшоў да вакзала. Настаў час вяртацца да сваіх «крестов»...

в. Жорнаўка,
Асіповіцкі р-н



## ЗІМОВЫ ВЕРШ ПРА ЛЮБОЎ

Калі залямантуе завіруха,
і спатыкнецца ў чыстым полі вецер,
і стане чорна ў белым-белым свеце,
і я пачую ў дзверы ціхі стук...
Чакайце! Будзе ўсё інакш —
спачатку
я шчыльна аканіцы зачыню,
на сем замкоў замкну цяжкія дзверы,
згашу святло і радыё прыцішу,
прыціснуся да цела цёплай грубкі —
а ўжо тады пачнецца завіруха
і я пачую гэты ціхі стук...
Там будзе добры сябра мой стары,
здарожаны, скалелы і галодны,—
як мятлік, да майго прыб'ецца дома,
і ля дзвярэй, на сем замкоў замкнутых,
пачне марудна, як свяча, канаць.
І божа мой, які чароўны будзе вечар! —
то стук, то стогн парушыць цішыню,
завершыць зык мелодыі пра вечнасць,
штурхне істоту у хаос любові
і жудаснай пакуты чалавечай!..

## САВЕЛІЮ

Вядома, мілы дружа, я жыву
у доме, дзе усё здаецца дзіўным:
сюды не залятаюць матылі
і пастаўкі пад вокнамі не лепяць
сваіх, нібы шкарлупкі, крохкіх гнёздаў.
Калі засохла бедная герань,
я выкінула з клеткай канарэйку,
затое згатавала тлусты крупнік,
яго прасіў прад сконам грозны муж.
Вядома, мілы дружа, тут няма
партрэтаў у цяжкіх драўляных рамах,
замест сцягоў лунае на гаўбцы
блакітная самлелая бялізна,
а слуцкі габелен праела моль.
Сюды ўначы завітвае хвароба
і носіць па кутах тэмпературу,
і пакідае па сабе салодкі пах
цім'яну, валяр'яны і нуды.
Вядома, дружа, вам утульна тут —
вы мне зямляк
ці колішні знаёмец,
і мой адповяд вам не будзе дзіўны:
я не люблю вас.
Я люблю Шапэна.

## СЯСТРА

Даўно за поўнач. Самая пара.
І я свайму здарожанаму брату,
не верачы ні слугам, ні сябрам,
сама гатую горкую гарбату.

Ён мне чужынец, і яго сцяжыны
далёка ад дарог, дзе я іду.
Ён сёння госць. І сёння ён спачыне,
я не наклічу на яго бяду,

і буду ноч стаяць прад абразамі,
абы спакойны быў ягоны сон —
любоў і ціша стануць паміж намі,
і не ачнецца аніразу ён.

І раніцай, пасля чароўнай кавы
і недарэчных развітальных слоў,
амыю твар сляпой слязой гаркавай
і бласлаўлю юначае чало.

Калі ж памрэ ягоных крокаў рэха —
збяру сяброў і самых верных слуг:
хай поўняцца лясы і пушчы брэхам
і апануе свет гарачы рух.

Тады — ляці услед, мая пагоня!
І утапчы ў забраную зямлю
таго, хто кінуў гэты лес і гоні,
таго, каго любіла і люблю.



## Таццяна САПАЧ



◆ ◆ ◆

Надыдзе снежань. І аднойчы ранкам
я раптам анічога не пазнаю:
адменіцца і дзень, і свет, і дом —
і я сябе, напэўна, не пазнаю...
Я азірнуся, і убачу люстра,
і занатую: там жыве павук;
ён дзень і ноч бязбожна выплятае
бязважкія карункі і узоры
на твары тонкім, чыстым і ўрачыстым,
знаёмым мне — і, можа быць, маім...
І я яго пазбаўлю асалоды
змяняць такое дзіўнае аблічча,
і я прыцісну мастака да рамы —
брунатнай рамы, грубай і старой.
Што будзе потым? —
будзе ведаць снежань,
які пабеліць мой самотны дом
і намалюе ў люстры павука,
што дзень і ноч бязбожна выплятае
бязважкія карункі і узоры
на твары тонкім, чыстым і ўрачыстым,
знаёмым мне — і, можа быць, маім...

## АДЗІНОТА

О, гэта ноч!.. Стамляюцца змяняцца
сляпыя вочы вечных святлафораў,
і аціхаюць шолахі шалёных,
з абпаленымі крыламі, мятлух,
і ўладны над дарогай павадыр
няшчаснага вандроўніка-нябогі
са смехам і шкадобаю камечыць
ручнік, што звязваў рухі іхніх рук...
О, гэта ноч! І заміраюць шэпты
шчаслівых і зняможаных каханкаў,
і прачынаецца і тут гасцюе сон.
І зараз мне няма куды спяшацца —
падлічаны учора страты ловаў,
і меч яшчэ не высах ад крыві,
і, значыць, можна жыць цяпер спакойна.
Да часу! Будзе дзень і будзе дзея,
і той, хто быў сляпы, відушчым стане,
і будзе наш нябога ўладаром...
А толькі мне няма куды ісці,
і ўжо даўно няма куды ісці —
там
нехта ёсць,
і я яго баюся.

**Васіль ХОМЧАНКА**

# ЦАР
# СЯМЁН ІВАШКІН

*АПОВЕСЦЬ*

Добры быў вечар таго майскага доўгага дня. Дзень, насычаны пахамі тайгі, перадаваў і вечару гэты ж пах — жывіцы, маладой травы, ажыўленай цяплом зямлі. Пры дзённым святле павячэралі, да праверкі быў яшчэ час, і многія зэкі распалілі вогнішчы ці малыя цяпельцы. Сядзелі кружкамі вакол іх, гаварылі, лаяліся, смяяліся, зласловілі. Нехта спяваў, яму памагалі, прыстуквалі лыжкай аб міску. Сонца вісела над тайгой нізка, яго вячэрняе ружаватае святло абліло тайгу, сопку, што высілася недалёка ад калоніі на ўсходзе. Такою ціхамірнаю, шчасліва-прыгожаю і вечнаю здавалася цяпер гэтая зямля пад ціхім небам. Відаць, менавіта яна такою выглядала і тады, калі ўпершыню стала жывой і зялёнай. Машкара і камары яшчэ не ажылі, не запоўнілі сабой паветра, не лезлі заеддзю ў вочы, рот, вушы, не грызлі, не смакталі кроў. Цікаўная вавёрка-ляцяга, прысеўшы на суку сасны, пазірала на людзей, упершыню іх бачыла, бо два месяцы назад тут было ціха і бязлюдна.

Івашкін прысеў каля большага вогнішча, падкінуўшы спачатку некалькі паленцаў, працягнуў да агню рукі, павесялеў, калі цеплыня па руках палілася ва ўсё цела.

— Любата, прыгажосць вакол якая,— радаваўся ён, паказаўшы рукой на сонца.

— Табе любата, ты ж цар,— сказалі яму.

— А што, чым не любата? Вунь вакол якое раздолле, якая воля кругом, і мы сярод гэтай волі. Ну якія ж мы зэкі? Тайга табе адкрытая, ідзі куды хочаш. Кандзея няма. Мы — цары, цары прыроды.

На яго не злавалі, да яго прывыклі, слухалі з насмешкай, але слухалі, лічылі дзіваком, чалавекам з тараканам у галаве. Што з яго возьмеш, мужычок з кагаток... Малы, дробны, з дробным тварам, на якім клоччамі расце бясколерная валасістасць. Сінія вочы і па-дзіцячы адкрытая ўсмешка выклікалі да яго давер і прыязнасць, якія выклікаюць малыя, што яшчэ не навучыліся ні хітрыць, ні затойваць злосць.

— Вось ты,— паказаў ён пальцам на пажылога зэка з шырокай, пабітай сівізною чорнай барадой,— ты лічыш, што цябе пасадзілі бязвінна?

— Гасподзь бог можа пацвердзіць, што без віны сяджу,— адказаў той.

— А кім ты быў на волі?

— Клірашанінам у царкве. Ну прычотнік на клірасе, псалмы чытаў, спяваў.

— Во, во, значыцца, палічылі там,— паказаў ён угору,— што ты бескарысны, марны для сацыялізму чалавек. А тут ты прынясеш больш карысці. Дарогу пабудуеш праз тайгу. І ты, сэвэашнік,— нацэліў ён той жа палец на маладога хлопца,— сацыяльна ўрэдны элемент, таксама больш тут патрэбны. Таму нас сюды і прыгналі. Вось у чым загваздка,— сказаў Івашкін так цвёрда і рашуча, нібы толькі што сам зразумеў, чаму ён апынуўся тут.

— І трындзіш ты, Цар, і казырышся,— сказалі яму,— а то мы б сюды добраахвотна не паехалі, калі б паклікалі? Трапло. Пакуль тая дарога ляжа, нам усім кранты будуць, самі паляжам.

— Што ж, паміраць і так прыйдзецца.

— Дык ты, Цар, памры сёння, а я заўтра. Згодны?

Цар не адказаў, пачуў свіст птушкі. Свіст меладычны, кароткі — ціў-цсі... Ускінуў галаву, насцярожыўся, паднёс палец да рота, даў знак, каб змоўклі. Неўзабаве і другая птушка адказала свістам, толькі крыху іншым — ціў-ці-ціці...

— Рабчыкі, самец і самка пераклікаюцца. Вось бы злавіць.

Ён устаў і, утуліўшы плечы, на дыбачках падаўся на птушыны свіст. Увайшоў у гушчар тайгі, спыніўся. Самец зноў свіснуў сваё ціў-цсі, і самка яму адказала, але ўжо крыху цішэй, відаць, пераляцела далей. Івашкін пайшоў туды, на кліч самкі, ведаючы, што і самец там будзе. Адышоў ён ад калоніі далекавата. Тут на высокім месцы падсохла ўжо, свежа зелянеў верас, скрозь леташняе апалае лісце і шыпулле, спрасаванае за зіму цяжарам снегу, прабіваліся бледна-зялёныя стрэлкі нейкай расліннасці. Івашкін мякка ступаў па гэтым падгнілым покрыве. Сэрца яго радасна тахкала ад хвалявання і азарту, як некалі ў дзяцінстве, калі ён вось гэтак жа падкрадваўся на салаўіны спеў з надзеяй убачыць галасістую птушачку. Свіст пачуўся мацнейшы, гэта самец ужо бліжэй пераляцеў да самкі, і самка яму радасна адказала. Івашкін сцішыўся, схаваўся за камлём сасны, углядваўся ў кроны дрэў, шукаў птушак. Першага ўбачыў самца. Той перапырхнуў з дрэва на дрэва, нецярпліва-азартна патрос стракатым

(Заканчэнне. Пачатак у № 6)





хвастом і галавой з чубком, некалькі разоў свіснуў. Самка азвалася і пераляцела насустрач. Яны ўжо былі на адным дрэве, рабыя, нібы заплямленыя рыжай, бурай і белай фарбамі. Івашкін стоена сачыў за імі, чакаў іх вясельнага, радаснага юру. Вось самец падскочыў угору, лопнуў крыламі і бачком, бачком пачаў набліжацца да самкі...

І ў гэты момант недзе паблізу храбуснула — хтосьці ішоў. Птушкі пырхнулі і, шумна лапочучы крыламі, зніклі ў гушчары. Івашкін пачуў словы і ўбачыў двух зэкаў — Бута, пазнаўшы яго па незэкаўскім суконным пінжаку і шапцы-скуранцы, і Мардоўкіна. Гэтага пазнаў па голасе. Бут трымаў пад пахай скрутак, а ў руцэ — бляшанку кансерваў.

«Балявяць збіраюцца»,— падумаў Івашкін і ўзрадаваўся, паспадзяваўшыся, што і яму нешта перападзе.

Бут спыніўся каля паваленага дрэва, адкінуў з-пад яго камля лапнік і паклаў туды пакунак, потым бляшанку. Зноў усё прыкрыў тым жа лапнікам, прыціснуў паленам.

— Сёе-тое заначылі,— сказаў Бут,— цяпер верыш?

— Бачу,— адказаў Мардоўкін, і яны адразу пайшлі ад таго месца ў напрамку калоніі.

Івашкін пачакаў трохі і, палахліва гледзячы ім услед, падкраўся да схованкі. Нейкі момант стаяў у нерашучасці: баяўся, а раптам вернуцца? Усё ж не стрываў, адкінуў палена, лапнік, у вялікім дупле ўбачыў той скрутак, мяшэчак з сухарамі, тры бляшанкі кансерваў. Стаяў разгублены. Можна было б узяць ды перахаваць усё гэта, а потым пацiху сілкавацца. Так і зрабіў бы кожны зэк, а ён не адважыўся не таму, што быў дужа сумленны, ён зразумеў, для чаго гэта схованка. Вядома ж, рыхтуюцца да ўцёкаў, робяць запас на дарогу Бут і Жугор. Угаварылі і Мардоўкіна. Дык вось чаму той з імі здружыўся!

Івашкіну стала страшна стаяць перад схованкай, ён быццам адчуў, што за ім сочаць Бут і Жугор, скоранька заклаў дупло лапнікам, кінуў на яго палена і подбегам пайшоў далей ад таго месца.

Выйшаў у калонію якраз перад вячэрняй праверкай, стаў у строй, адгукнуўся, калі назвалі яго прозвішча, паслухаў там жа ў страі палітінфармацыю пампаліта пра ўдарную сяўбу ў калгасах і адразу пасля адбою ўлёгся на нары. Прафесар Гарбуз (яму, хвораму, можна было на праверку не станавіцца, хворых палічылі ў палатцы) ужо спаў і нешта праз сон мармытаў па-ўкраінску, можа, сваю навуку перадаваў студэнтам. Сусед справа, Мардоўкін, яшчэ недзе бавіўся, а з ім Івашкін якраз і хацеў пагаварыць, чакаў яго з нецярпеннем.

«Гэта ж яны бяруць яго за карову. А ён, дурань малады, верыць ім, волю хоча ўбачыць. Не ўбачыш, дурань, бяруць, каб з'есці ў тайзе, калі харчы скончацца. Ці ж ты пра такое не ведаеш?»

Прыйшоў Мардоўкін, калі амаль усе зэкі дрыхлі. Хто хроп, хто соп, хто ў сне мацюкаўся. Асцярожна, каб не штурхнуць суседзяў, улёгся на нарах.

— Дзе быў? — спытаў у яго Івашкін.

— Чытаў. Ахоўнік даў кнігу пачытаць.

— Кнігу? Цікава...— Загаварыць адразу пра тое, што непакоіла, Івашкін баяўся: мог пачуць хто з суседзяў.— Табе, граматнаму, толькі і чытаць, розуму набірацца. Але ж ты хоць і грамацей і сцішкі-вершыкі прыдумваеш, а цябе можна абдурыць, як кацяня малое.

Мардоўкін прыўзняўся, аблёгся на локаць.

— На што гэта ты намякаеш?

— А, здагадваешся! — узрадаваўся Івашкін. Прыблізіўся да яго, прашаптаў у самае вуха.— Сабраўся драла даць? З Бутам і Жугром, так?

У прыцемку вочы Мардоўкіна ўспыхнулі ртутным бляскам.

— Дык ты, Цар, высочваеш? — гэтак жа прашаптаў і ён, упершыню назваўшы яго не па прозвішчы.— Можа, стукнеш, заложыш?

— Што ты, бог з табой. Я не фіскал, не стукач. Я цябе шкадую, каго паслухаўся? Гэтых бандытаў? Яны ж цябе каровай бяруць. Дайшло? Закон тайгі. Калі двое ўгаворваюць трэцяга на ўцёкі, то ясна, што ён ім за карову патрэбны.

Мардоўкін сеў, рукі яго пагрозліва пацягнуліся да твару Івашкіна, той адхіснуўся.

— Ціха, не дурэй,— напалохаўся ён.— Я ж табе не вораг, дабра зычу... Пустое дзела надумаў. Куды адсюль можна ўцячы? На першай станцыі і сцапаюць. Паняў? Ва ўсім лагерным ты, як пудзіла, прыкметны. Жыві і цярпі ціха. Можа, яно ўсё заўтра і зменіцца. Можа, нашу праўду тыя там уверсе пачуюць. Не могуць жа не пачуць і не зразумець, што столькі народу сагналі ў тайгу. Не глухія.

Мардоўкін адказаў спакойна:

— А я тут усё адно не выжыву. У мяне яшчэ дзевяць гадоў такога пекла. Дзевяць! Я тут ці звар'яцею,— паляпаў ён сабе па лбе,— ці павешуся. А з Бутам і Жугром я да волі дабяруся.

— Без дакументаў? Шурупіць галавой трэба, студэнт. Ну навошта ты Жугру і Буту спатрэбіўся? Які ты ім памочнік, калі ім трэба пайсці на мокрае дзела? Яны што, сабе трэцяга такога бандыта не знайшлі?

Не ведаў у той вечар Івашкін, ці пераканаў ён хоць трохі Мардоўкіна, але быў упэўнены, што сумненні ў яго душы пасеяў, бо той пасля гаворкі доўга маўчаў, цяжка ўздыхаў, не спаў, а потым Івашкін пачуў ягоны шэпт. Шаптаў Мардоўкін верш.

— Я не могу бежать. Охрип от жалоб, телом изнемог. Судьбе покорно следую без капли сожаленья. И не пытаюсь снять с себя терновый свой венец. Пусть смерть спасет меня от жизненных тревог, пусть свой приход предсмертные мученья ускорят, принеся мне страшный роковой конец...

У калонію прыгналі яшчэ паўсотні зэкаў. Большасць з іх былі чацвертакі — зэкі, што атрымалі па дваццаць пяць гадоў. Яны паставілі сабе палатку і пачалі жыць гэтак жа, як і старажылы. Івашкін сярод іх знайшоў трох землякоў з Магілёўшчыны. І здзіўляўся Івашкін, што ім, простым калгаснікам, адвалілі такія вялікія тэрміны, спрабаваў выпытаць, за што вызначана такая кара, а яны і самі добра не разумелі, за што. Землякі паводзілі сябе ціха, не лаяліся, як блацякі, не крыўдзіліся на сваё становішча і ўвесь час ўспаміналі сем'і і вёскі, абмяркоўвалі справы, якія маглі там цяпер адбывацца: сяўбу, праполку, выган на пашу худобы. Ну, нібыта яны не ў лагеры былі, а ў сваіх Вішаньках, Крапіўні, Малінаўцы.

Аднойчы калонію ўздыбіла вестка: прыйшло распараджэнне адправіць двух чацвертакоў назад на радзіму для перасуду. Іх справу, значыць, будзе перагледаць новы суд. Начальнік аховы сказаў, што пачнецца перагляд усіх спраў і многіх зэкаў чакае воля. У калоніі цяпер толькі і гаварылі пра гэта, каэрдэшнікі павесялелі, уздыхнулі з палёгкай, паверылі ў перамены... Толькі паехалі тыя двое на перасыльны пункт, як новая вестка прыляцела: зэка Макарава, асуджанага на дзесяць гадоў за шкодніцтва, вызвалілі па чыстай, без ніякага перагляду далі волю. Макараў ад шчасця гаварыць не мог, плакаў так, што аж нос апух.

— Во, студэнт,— сказаў Івашкін Мардоўкіну, які сядзеў з Макаравым каля цяпельца,— чалавек дачакаўся волі. Ціха цярпеў, яго і пачулі. Можа, і на цябе дакумент вязуць. Ты ж пісаў скаргі?

— І ні на адну не адказалі.

— Адкажуць, вось пабачыш.— Івашкін пацiснуў Макараву руку, павіншаваў з вызваленнем і спытаў, завошта ён пакутваў.

— За шкодніцтва, па пяцьдзесят восьмай,— і расказаў, што з ім здарылася. А калі расказаў, усе рагаталі.

А гісторыя была сапраўды смешная. Макараў працаваў у калгасе конюхам. У яго быў напарнік, стары дзед. Палову коней даглядаў стары, палову — ён. Дык гэты стары не ўгледзеў, калі яго кабыла жарабілася. Заглянуў ранкам у канюшню, а каля кабылы — жарабя мёртвае. Ці яна такога жарабіла, ці неасцярожна прыціснула. Стары спалохаўся адказнасці і перанёс жарабя ў стойла да кабылы Макарава. Скандал, Макараў загубіў жарабя знарок, наўмысна, значыць, ён шкоднік, дыверсант. На расправу ў нас хуткія, Макарава пад суд, які і прыпаяў яму за шкодніцтва чырвонец. А праз тыдні тры-чатыры ў Макарава кабыла жарабілася. Назад круціць справу куды цяжэй і марудней. Але ўсё ж хоць праз два гады, ды адкруцілася, і вось Макараў атрымаў волю.

— Во следчыя, во суддзі,— рагатаў Івашкін,— з кабылай не маглі разабрацца. А як жа ім людзей давяраць?

— Бывае,— сур'ёзна заўважыў Кадыраў,— здараецца, што і дачка мулы грэшыць з суседам. Прамашку робіць.

— Вось быў бы я вярхоўным суддзёй ці пракурорам,— пачаў фантазіраваць Івашкін,— прыехаў бы ў калонію і ўсіх добрых людзей выпусціў бы на волю. Цябе, нарком,— ляпнуў ён Кадырава па плячы,— на волю, ідзі, кіруй, пладзі дзетак.

— Дзякуй,— пакланіўся Кадыраў, нібы яго ўжо і вызвалілі.

— Прафесара таксама на волю, студэнта, клірашаніна... А ты завошта сядзіш? — звярнуўся ён да маладога зэка.

— Ды з адным вуркаганам ў кватэру залезлі.

— З кім, значыцца, павядзешся, з тым і насядзішся,— заключыў Івашкін,— цябе і твайго вуркагана не выпусціў бы.

Засталіся каля цяпельца Івашкін, Мардоўкін, Гарбуз і Кадыраў. Пачала ўжо надакучаць заедзь — камары і мошкі. Бараніліся ад іх дымам, абкурвалі сябе, падкладваючы ў агонь сырое, каб больш дыміла, лаялі лагернае начальства, што не ўсім прывезлі накамарнікі, а толькі сабе.

— У нас такога гнюсу мала,— сказаў Кадыраў.

Гарбуз уздыхнуў.

— А я дык і не заўважыў, ці былі ў нас камары.

— Вось гэтую машкару ды неяк перарабіць бы,— загаварыў Івашкін,— няхай бы яна не кроў смактала, а сок з травы. Во была б у тайзе любата... А так п'юць нашу кроў ні за што ні пра што.— Ён памаўчаў і адразу ж загаварыў зусім пра іншае.— Цікава, столькі людзей лічаць сябе невінаватымі, а сядзяць, церпяць. Чаму так, га?

— А таму, што вераць у справядлівасць і чакаюць яе,— адказаў Кадыраў.

— Вера даўно страчана. Ад каго чакаць справядлівасці? — сказаў Мардоўкін.

Падтрымаў гаворку і Гарбуз.

— Няўжо там, у вярхах, не задумваюцца, што занадта ўжо многа ворагаў у краіне? Шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, тэрарыстаў...

— Ворагаў? — ускрыкнуў Кадыраў.— Я — вораг? З басмачамі ваяваў, быў паранены. Калгасы ствараў, завод будаваў... У партыі дзесяць гадоў. І раптам — вораг? Толькі вялікі вар'ят можа так думаць. Вар'ят... Калі нічога не зменіцца, уцяку, да Масквы дайду.

— Да Сталіна? — спытаў насмешліва Мардоўкін.— А то ён не ведае пра ўсё, а то ён ні пры чым. Гэта ж ён, мудры і стальны, такое і творыць...

Прафесар паглядзеў на Мардоўкіна апасліва, насцярожана — такое ляпнуць... І пра каго! Адсунуўся нават далей ад яго, заняўся цяпельцам, паджыўляў яго, падкідваючы сучкі.

— Глядзі ж ты,— крутнуў галавой Івашкін,— малы, няўцямны, кажуць, рабы, а такую ўладу здолеў узяць.

— Малы? Скарпіён таксама малы. А ты паспрабуй наступі на яго,— сказаў Кадыраў.

— Ад каго чакаць літасці? Ад Сталіна? — працягваў Мардоўкін, не заўважыўшы насцярожлівасці Гарбуза.— Мільёны загнаў у лагеры, мільёны расстраляны... Адзін выхад у нас — уцёкі.

— Уцякай,— паціснуў яму руку Кадыраў.— А потым і я ўцяку.

Гарбуз устаў і моўчкі пайшоў у палатку: баяўся такое слухаць.

У той жа вечар раздалі пісьмы. Атрымалі Гарбуз, Кадыраў, Мардоўкін. Івашкіну не было, і ён засмуціўся. Мардоўкін адразу ж тут, пры ўсіх, хто сышоўся да пампаліта, які раздаваў пісьмы, разарваў канверт, нервовым, нецярплівым рухам вырваў з яго невялікі аркушык, прачытаў і збялеў. Івашкін, назіраючы за ім, зразумеў, што навіну Мардоўкін атрымаў непрыемную, можа, нават цяжкую. Не стаў адразу распытваць, што за навіна, пачакаў, пакуль Мардоўкін адышоў ад людзей, тады і спытаў:

— Ад родных пісьмяцо?

Мардоўкін моўчкі падаў яму аркушык. На ім было не рукой напісана, а надрукавана на машынцы. Пісьмо, значыць, з казённага дому. Івашкін пачаў чытаць, варушачы губамі, Мардоўкін яго апярэдзіў.

— Пішуць, што падстаў для перагляду маёй справы няма, асуджаны правільна.

Сказаў — і як скамянеў. Івашкін не стаў лезці да яго ў душу са сваімі суцяшэннямі, маўчаў.

Ляжнёўку калонія цягнула ў два бакі — на захад і ўсход — і працягнула ўжо кіламетры на тры. Насустрач ім гэтак жа пасоўваліся суседнія калоніі, і за лета павінны былі злучыць свае ўчасткі.

Івашкін усе гэтыя дні быў на агульных работах, насіў бярвёны, і напарнікам яму траплялся пераменна Кадыраў, клірашанін, Гарбуз. «Во, дажыў,— смяяўся Івашкін,— ці ж думаў калі, што паведу дружбу з народным камісарам і прафесарам». Гарбузу, калі ў бервяне быў канец таўсцейшы, Івашкін даваў лягчэйшы, а пад цяжэйшы падстаўляў сваё плячо. Клірашанін, наадварот, браўся сам першы за таўсцейшы канец бервяна.

Кастравым з дня ў дзень прызначаўся Мардоўкін, чаму многія ў брыгадзе здзіўляліся. Толькі адзін Івашкін не здзіўляўся: ён усё ведаў. Ведаў, што Мардоўкін ад сваёй задумы ўцячы не адмовіўся, да ўцёкаў рыхтаваўся, кожны дзень аддзяляў ад пайкі лустачку, сушыў яе і хаваў, відаць, у тую ж агульную з Бутам і Жугром хованку. Івашкін не пакідаў адгаворваць Мардоўкіна ад гэтай небяспечнай задумы, але той толькі псіхаваў, злаваўся, што лезе да яго з такімі ўгаворамі. Але ў рэшце рэшт прызнаўся, чаму ён спатрэбіўся Буту і Жугру: на бліжэйшай адсюль станцыі жыве старэйшы брат Мардоўкіна, нават нейкі начальнік, ён можа памагчы ўцекачам уладкавацца на волі. Таму і бяруць яго Бут і Жугор з сабою.

— Дзівак,— засмучаўся Івашкін,— гэты бандыты і цябе, і твайго брата загубяць. Каму верыш? У іх свае планы.

Івашкін думаў, як усё ж такі перашкодзіць Мардоўкіну здзейсніць сваю рызыкоўную задуму. Спачатку ён хацеў напісаць запіску без подпісу і падкінуць ахове: прыміце меры, Жугроў і Бутэнка збіраюцца даць драла і хочуць з сабой узяць за карову Мардоўкіна. Няхай бы начальства прыхапіла Бута і Жугра ды загнала ў калонію са строгім рэжымам. Тады б і Мардоўкін супакоіўся, адзін бы не ўцёк. А потым зусім нечакана ўзнікла і другая ідэя, якую вельмі проста і лёгка ажыццявіць.

Бут сказаў Мардоўкіну, што ўцякаць вырашылі ў нядзелю. Паснедаюць і дадуць цягу. Да вячэрняй праверкі ахова не схопіцца, і за дзень вунь куды можна дапяць. Ды і потым, пакуль аб'явяць па трасе трывогу на кантрольныя пункты, яшчэ пройдзе колькі дзён.

Бут прымусіў зэка з чацвертакой аддаць Мардоўкіну спраўныя чаравікі ўзамен буцаў. Мардоўкіну шкада было крыўдзіць чалавека, але ж для далёкай дарогі буцы не гадзіліся. Жугроў раздаў Буту і Мардоўкіну па накамарніку, па карабку запалак, каб тыя схавалі ў розных кішэнях, для страхоўкі, на ўсякі выпадак. У Жугрова была фінка (дзе толькі ён яе дабыў?), вяроўчына, кацялок і тапор.

Суботнім вечарам Мардоўкін папрышываў мацней гузікі на адзенні, пазашываў дзіркі ў кішэнях і ў накамарніку і быў гатоў у дарогу. Адчуваў ён сябе ў той вечар неспакойна, трывожна, і адначасова цяплілася ў ім радасць, прыемна шчымела сэрца, нібы стаяў над незнаёмым вірам, збіраючыся туды скокнуць з высокага берага — і вельмі хацелася, і баяўся невядомага. Той адчай, які трымаў яго ў гэтыя апошнія дні пасля атрымання ім пісьма з суда, адчай, гатовы кінуць на самы рызыкоўны ўчынак, нават на смерць, знік, прыйшла заміранасць, супакаенне, прасветленасць на душы, хацелася рабіць усім дабро, дараваць дрэннае, усіх любіць. Ён сам здзіўляўся гэтаму свайму стану і настрою: ці не прадчуванне гэта нейкай значнай падзеі і пераменаў у яго жыцці? Невядома толькі якой — добрай, шчаслівай ці горкай, трагічнай? Прымушаў сябе спадзявацца на лепшае. Дзеля яго, лепшага, рызыкуе, ідзе ў тайгу, каб знайсці волю і праўду. Калі ён вяртаўся ў думках у сваё мінулае, шкадаваў сябе, бо адсюль, з гэтага свайго часу і становішча, бачыў, які ён быў тады наіўна-жаласлівы, умеў усім паспачуваць, за ўсіх заступіцца. Ён заступаўся, абараняў, а яго вось не абараніў ніхто, не заступіўся...

Вучыцца яму было цяжка, жыў на адной стыпендыі, вельмі часта клаўся спаць без вячэры. Ні бацькі, ні радня яму не маглі дапамагчы; наадварот, бацька сам аднойчы ў пісьме асцярожна папрасіў: можа б, выслаў, сынок, колькі грошай разлічыцца з падаткамі, бо на працадні зноў нічога не атрымалі. І пасля такога пісьма, усхваляваны Мардоўкін напісаў пра гэта ў сваім дзённіку і заключыў: «І ўсё гэта адбываецца пад шчаслівым сталінскім сонцам». Дзённік адзін студэнт прачытаў, данёс, і, вядома, з камсамола выключылі. Прагаласавалі за выключэнне аднагалосна. Не прынялі пад увагу апраўданні, што ён, запісваючы такое ў дзённіку, не на Сталіна ўскладваў віну за гаротнае жыццё ў калгасе, а на мясцовых галавацяпаў. Выключылі з камсамола, інстытута, а потым і сюды загналі. Прыпомнілі і ягоныя вершы ў насценнай газеце, назвалі іх нездаровымі, а значыць, антысавецкімі, хоць у іх ніякай палітыкі і антысаветчыны не было і ў паміне, а быў роздум аб сэнсе жыцця і смерці, месцы чалавека на зямлі — вечныя тэмы паэзіі.

Тое, што была за ім праўда, ён быў перакананы і тады, і цяпер. Здзіўляла і абурала тупая паслухмянасць масы, калі некага абвінавачвалі ў нечым. Чаму ўсе гатовы не абараняць, а вінаваціць, гатовы падняць рукі за пакаранне, не спрабуючы нават разабрацца? Ці ёсць віна ў таго, каго абвінавачваюць у злачынстве палітычным, і ці ёсць яно, злачынства? І, як упэўніўся Мардоўкін, чым цяжэйшае злачынства ставілася некаму ў віну, тым усе былі паслухмянейшыя і з большай гатоўнасцю падымалі рукі, каб прызнаць вінаватым і пакараць. Хто змяніў так людзей, адкуль усё пайшло гэта? Чаму такая жорсткасць, глухата да пакут і гора людзей?

Вось так думаў ён, успомніўшы свае студэнцтва, і больш не стаў пра гэта думаць. Не палез з успамінамі і далей, у дзяцінства: яно было таксама не радаснае, хутчэй горкае, галоднае, з вялікай доляй несправядлівасці. Улёгся на нары і заснуў лёгка, як перад нейкай чыстай, святой справай. Спаў спакойным, глыбокім сном чалавека, у якога наперадзе добрыя, ясныя дні. Прачнуўся да пад'ёму. Сусед клірашанін маліўся ціха, на паўголаса.

— От сна восстав, благодарю Тя, Господи, Царю небесный, утешителю, душе истины, иже везде сый и вся исполняяй, сокровище благих и жизни подателю, приди и вселись в ны и очисти ны от всякой скверны, и спаси, Блаже, души наша...

Мардоўкін, захоплены гэтымі ўрачыстымі малітоўнымі словамі, міжвольна перахрысціўся і паўтарыў услед за клірашанінам:

— Приди и вселися в ны и очисти ны от всякой скверны, и спаси, Блаже, души наша...

— Так, сынок, так,— пахваліў клірашанін,— з богам трэба жыць, без бога праведнага жыцця на зямлі не будзе. Таму і адракліся ад бога, каб не замінаў тварыць вось такое зло, якое творыцца. Я цябе навучу ўсім малітвам.

— Позна,— адказаў Мардоўкін, і клірашанін не зразумеў, чаму позна, не памірась жа сабраўся хлопец.

Некалькі зэкаў заспяшалі з палаткі, вядома ж, на кухню, каб якой паслугай кухару зарабіць чарпак баланды.

Устаў і Івашкін, пажадаў добрага ранку клірашаніну і Мардоўкіну. Учора ён бачыў, як студэнт мацаваў гузікі, зашываў кішэні, заўважыў і абнову на нагах — спраўныя чаравікі замест буцаў, і як Жугор даў яму накамарнік, і пра ўсё здагадаўся: уцякаць сабраліся сёння. Івашкін загаварыў з Мардоўкіным, стараючыся нешта выпытаць, але той ухіляўся ад размовы.

— Студэнт,— гаварыў Івашкін,— а я цябе ў сне бачыў. Ідзеш ты, смяешся і свой верш чытаеш пра мора, якое гнеўна бушуе. Ты такі прыгожы, на табе доўгая чырвоная кашуля. Ты мне кажаш: «Цар, хочаш памяняцца кашулямі? Я табе сваю чырвоную аддам, а ты мне лагерную». Я згадзіўся, мы памяняліся, ты і пабег ад мяне ў тайгу. Я табе крычу, каб спыніўся, сказаць нешта важнае хачу, ты ж не паслухаў... Што б гэта азначала, га?

— Ты, Цар, прыдумаў гэты сон? — спытаў Мардоўкін з трывогай у голасе.— Прызнавайся, ты ж выдумшчык.

— Вось табе хрэст, не хлушу.— Івашкін перахрысціўся.

Клірашанін улез у іх гаворку.

— Прабачце, але сон дрэнны. Вы абмяняецеся нейкай бядой. Асцярожней будзьце.

І больш да гэтага сну не вярталіся.

На ранішнюю праверку строіліся няспешліва — выхадны, не гарыць, могуць начальнікі і пачакаць. Гэтак жа непаспешліва потым снедалі.

І ў час снедання Івашкін не адставаў ад Мардоўкіна, уцягваў яго ў размову, ды той быў нязвыкла маўклівы, засяроджаны на нечым сваім, бадцам не чуў, не ўспрымаў, што яму казалі. Кашу пярловую Мардоўкін з'еў, а да пайкі хлеба не дакрануўся, схаваў яе ў торбачку. Не чапаў нават даважкі, прышпіленай трэсачкай да пайкі, яна так і засталася непачатая.

«Панятна,— сказаў сам сабе Івашкін,— сёння яны ўцякуць»,— і паспяшаў у тайгу зрабіць тое, што намысліў.

Ранішняя прахалода прыглушыла лёт машкары, бо яна не ажыла яшчэ пасля ночы. Сонца не прабілася праз чорныя навальнічныя хмары, якія густымі кучкамі наплывалі з усходу. Але навальніцы і дажджу не павінна быць, бо маўчалі, не нылі некалі зламаныя рабым Саўкам рэбры — яны ж заўсёды дакладна адзываліся на непагадзь, саднілі. Тайга, дзе ён ішоў, была завалена буралом. Праз рознае гнілле прабівалася бледная трава, на сухастоінах-лістоўніцах вісеў касматы, шэры, як густое павуцінне, мох. Пахла горкай прэласцю таго, што гніло на зямлі. Цікаўны паласацік-бурундук высунуўся з-пад калоды, сачыў за Івашкіным, а потым шмыгнуў у норку пад карані.

Івашкін падышоў да схованкі, пастаяў, агледзеўся, прыслухаўся. Было ціха, ніводнага гуку не далятала з калоніі, толькі ціхенька сакатала нейкая птушка.

Прадуктаў у схованцы прыбавілася, там ляжалі ажно пяць бляшанак рыбных кансерваў, сухары, буханка хлеба — яе, відаць, паклалі ўчора, бо яна была мяккая, не паспела ўчарсцвець. Івашкін усё гэта выграб, паклаў у торбу, узятую там жа, і бегма падаўся адтуль, азіраючыся на-



зад — гнаў страх. Кінуў торбу пад выварацень елкі, нагой засунуў далей, накідаў зверху ламачча. Перадыхнуў з палёгкай і з радасцю ад зробленага. Адчуў сябе добрым чалавекам, бо зрабіў дабро для бліжняга, для Мардоўкіна, ды і для тых жа Бута і Жугра — гэтыя няхай лепш пасядзяць у калоніі, чым на волі зноў будуць тварыць зло.

І ў гэты момант пачуў галасы. Гаварылі гучна, тон гаворкі злосны, пагрозлівы, відаць, сварыліся. Каб лепш пачуць, пачаў падкрадвацца бліжэй да тых, хто там сварыўся, і ўбачыў усю тройцу — Бута, Жугра і Мардоўкіна. Мардоўкін стаяў паміж тымі двума, тварам да Жугрова. У Жугрова ў руках блішчала фінка.

— Гніда, сяўка, гадзіна,— размахваў фінкай Жугроў,— пажывіцца, гад, захацеў, адзін надумаў змыцца! Дзе харч?

— Не браў я, клянуся,— стукаў сябе ў грудзі Мардоўкін.

— Не брашы, гніда, акрамя цябе ніхто не ведаў пра схованку. Кажы, а то ўсаджу пяро! — Жугроў нацэліў фінку яму ў грудзі.

Мардоўкін нешта ціха адказаў, Івашкін не пачуў, але ўбачыў, як на твары яго ўздрыгнула жаласная ўсмешка, ды так і застыла.

— Яшчэ смяешся, жлоб! —Жугроў тыцнуў яму кулаком пад грудзі, Мардоўкін пахіснуўся назад і ўпаў бы, ды ззаду Бут ударыў у спіну.

— Клянуся,— яшчэ раз пакляўся Мардоўкін,— не браў я. Гэта нехта падгледзеў. Ці звярок перацягаў.

— Звярок, значыць, перацягаў,— з'едліва, з яхіднай ухмылкай перадражніў Жугроў.— Ты мне не сып непадсяваную лухту. Хочаш жыць?

Бут зноў ударыў Мардоўкіна ў спіну, у бок, сказаў Жугрову:

— Канчай з ім. У нас жа яшчэ ёсць загашнік.

Жугроў перакінуў фінку з правай рукі ў левую, потым з левай зноў у правую, быццам яна гарачая была і пякла, адвёў руку назад за спіну. А Мардоўкін апусціў галаву, не мог зірнуць у твар Жугрову, нібы то быў твар смерці, а толькі для абароны працягнуў уперад рукі.

Івашкін зразумеў, што Жугроў зараз ударыць Мардоўкіна нажом.

— Эй, Жугор, не трэба! Што робіш! — крыкнуў ён і пайшоў да іх.— Невінаватага хочаш зарэзаць. Ці ж можна так?

Жугроў схаваў фінку ў рукаў, Бут адступіў ад Мардоўкіна.

— Гэта ты, Цар? — паказаў здзіўленне Бут.— Адзін?

— Я ж не ведаў, чыя схованка і што вы для дарогі назапасілі. Хадземце пакажу.

Яны пайшлі ўслед за ім. Каля вывартня елкі Івашкін спыніўся, паказаў, дзе ўсё ляжыць. Мардоўкін кінуўся да схованкі, раскінуў ламачча, схапіў за хахол торбу, кінуў Жугрову пад ногі.

— Вось жа яно ляжыць,— усміхнуўся ён павесялелай усмешкай.

Бут развязаў торбу, зірнуў туды,назіркам праверыў, ці ўсё цэлае.

— Нават сухарыка не ўзяў,— пахваліўся Івашкін.— А мог жа ўзяць.

Нейкі момант усе разгублена маўчалі. Бут і Жугроў пераглядваліся, кожны з іх нешта вырашаў ці ўжо вырашыў, толькі не казаў уголас. Яны адзін аднаго і без слоў разумелі.

— А ты, Цар, адкуль ведаеш, што мы ў дарогу навастрыліся? — спытаў Жугроў.

— А навошта запас рабіць? І дурному ясна. Толькі, хлопцы, не тое задумалі. Сабраліся, дык і ідзіце, а студэнта навошта з сабой цягнеце? Думаеце, не знаю, для чаго? — Івашкін узяў Мардоўкіна за руку, тузануў.— Хадзем, студэнт, у калонію, а яны няхай куды хочуць ідуць.— І павёў за сабою.

Мардоўкін ішоў нехаця, азіраўся назад, спрабаваў спыніцца, ды не ўпарта, і атрымлівалася, што Івашкін усё ж цягнуў яго. Яны не адышлі і крокаў на пятнаццаць, як Бут і Жугроў дагналі.

— Гад, дык ты адступіўся? — схапіў Жугроў Мардоўкіна за грудзіну бушлата.— Вільнуў хвастом? — І замахнуўся фінкай.

Мардоўкін маўчаў, ці ад страху анямеў, ці не знаходзіў, што адказаць, толькі абедзвюма рукамі спрабаваў адарваць руку Жугрова ад бушлата.

— Жугор, адпусці хлопца,— ступіў да яго Івашкін.— Яму жыць трэба, а вы ж яго за карову бераце.

У Жугрова п'яўкай звіліся губы, ён адвёў руку з фінкай назад, гледзячы, аднак, не на Івашкіна, а на Мардоўкіна халодна-спакойнымі, крыху выпуклымі вачамі, і Івашкін зразумеў, што фінка зараз храбусне ў цела Мардоўкіна. Каб папярэдзіць удар, засланіў Мардоўкіна. Тады Жугроў варсануў фінкай Івашкіну ў бок, у той самы, дзе зламаныя рэбры. Івашкін не ўпаў і не адступіўся, так і засланяў сабою Мардоўкіна, болю адразу не адчуў і не зразумеў напачатку, што ён паранены. Толькі калі рукой дакрануўся да бока і ўбачыў на ёй кроў, усё зразумеў.

— Жугор, ты што?.. Навошта так? Можна ж забіць. Фінкай у бок, ну і Жугор. І не шкада чалавека.— Умомант адчуў слабасць, млоснасць, пачаў прысядаць і раптам закрычаў: — Людзі, ратуйце! Забіваюць Жугор і Бут! Сюды!..

Нехта побач адклікнуўся, затрашчала галлё, значыць, беглі сюды. Гэта і напалохала Жугрова, ён кінуўся бегчы, за ім — Бут, і абодва зніклі ў таежным гушчары.

Івашкін сеў, а потым і лёг. Мардоўкін дрыжачымі рукамі падняў яго, але той упаў. Хацеў несці, ды не хапала сілы, дробны Івашкін аказаўся такі цяжкі...

— Я сам, сам дайду,— гаварыў ён, і сапраўды ўстаў, паклаў левую руку Мардоўкіну на плечы, правай заціскаючы рану.— Во і пайшлі... Так, яшчэ трохі... Сюды, тут раўней...

Да лекпома Івашкіна занеслі зэкі, што збегліся на крык Мардоўкіна. Лекпом абліў рану спіртам (як толькі ён у яго ўцалеў), перавязаў, даваў нешта піць, рабіў усё, чаму яго, зялёнага, навучылі ў фельчарскім вучылішчы.

— А сон твой у руку,— сказаў вінавата Мардоўкін.— Сваю чырвоную, крывавую, значыць, кашулю я табе аддаў. Памяняўся з табою смерцю, якая мне прызначалася.— І ўсхліпнуў.

Івашкін узяў яго за руку, лёгенька паціснуў, паспрабаваў усміхнуцца.

— Не шкадуй мяне, я — жывучы, я заўсёды выжываў. А калі і памру, дык у рай пападу. Ты не верыш у рай, а ён ёсць. Я ж нікому не рабіў зла, і не маю зла... А ты цярпі. Будзе яшчэ цяжэй, цярпі ўсё роўна. Ты павінен выжыць, каб потым кніжкі пісаць. Мае ўнукі прачытаюць твае кніжкі. Во...

Начальніку аховы, які адразу ж правёў допыт, Івашкін не сказаў усёй праўды. Жугроў быццам яго пырнуў нажом за тое, што яны паспрачаліся, і ні слова пра падрыхтоўку да ўцёкаў, пра тое, што тыя хацелі ўзяць з сабой Мардоўкіна за карову. Не па зэкаўскаму закону дакладваць начальству праўду, асабліва пра ўцёкі. Пра гэта маўчаць. Івашкін нават быў рады, што цяпер, калі Жугор і Бут засталіся ўдвух, то нехта з іх і будзе каровай. Вось і добра...

Канаў Івашкін дзён восем. Адмеранае яму богам жыццё працякала праз нягоды і пакуты, як яму здалося, даволі хутка і непрыкметна, нібы сухі пясок праз пальцы. Сляды яго жыцця, як сляды на сакавіцкім снезе, на які дыхнуў цёплы вецер, расталі, нічога не пакінуўшы. Ён быў шчаслівы толькі ў марах, у іх і панаваў, весела было яму, што яго называлі Царом. І вось перад самай смерцю зразумеў раптам, што злыя, страшныя законы жыцця ўрываюцца і ў царства мары, і ад іх не ўцячы і не ўратавацца.

Памёр у сне: заснуў і не прачнуўся. Ляжаў з застылай усмешкай, мабыць, бачыў сябе шчаслівым, можа, і багатым, у шыкоўным палацы разам з дочкамі, унукамі і праўнукамі, якія яшчэ народзяцца.

З магілы Івашкіна і пачаліся могілкі той калоніі. Зэкі па-мужчынску скупа пашкадавалі Цара, кліраshанін зрабіў з лістоўніцы крыж, паставіў на магіле, насуперак начальству, якое лічыла, што на магілах савецкіх зэкаў павінны стаяць слупкі з зоркамі, а не крыжы.

— Што ж, будзем цярпець і чакаць,— сказаў зміраны Мардоўкін Кадыраву.— Толькі, што ж нас чакае наперадзе?

А наперадзе была страшная і доўгая вайна, на якую пойдуць усе годныя да службы крымінальнікі. А тыя, хто застанецца за дротам, будуць аддаваць сябе дарэшты з верай у тое, што і іх пакуты і праца наблізяць свята Перамогі хоць на тыдзень, на дзень, хай сабе на некалькі гадзін, і тое добра.





НА ГРАНІ ФОЛУ

# ВЫДАТНАЯ «СЯМЁРКА»

Пётр РОГАЎ



Мы падняліся па вузкай, як на старых парусных брыгах, лесвіцы, узялі кавы і ўладкаваліся за столікам у кутку. Быў той час, калі бармены нудзіліся, аматары кавы з ліку пастаянных наведнікаў яшчэ знаходзіліся дзесьці па дарозе да свайго гняздзечка і зала пуставала.

У Алегу адчуваўся знаўца добрай кавы. Адап'е глыток, неяк асабліва засяродзіцца, заплюшчыць вочы, потым зробіць яшчэ глыток. Зрэшты, так цяпер, здаецца, п'юць каву ўсе — і гурманы, якія спасцігаюць смак шматгадовай трэніроўкай, і зусім яшчэ маладыя неафіты.

Мы пілі каву, а размова ніяк не атрымлівалася, хоць з Алегам пра гэтую сустрэчу мы дамовіліся без цяжкасці: ён зусім не здзівіўся маёй просьбе пагаварыць пра каманду «сямёрачнікаў». Шчыра кажучы, я адчуваў сябе трохі няўпэўнена, а ён трымаўся так, нібыта кожны дзень дае прэсе інтэрв'ю пра сваё нефармальнае аб'яднанне, якое складаецца з маладых людзей, што пазбягаюць службы ў арміі.

— Толькі не лічыце нас дэзерцірамі ці яшчэ чаго-небудзь там не прыдумайце,— сказаў Алег,— у нас усё як трэба, усё законна. Дзякуй роднаму артыкулу 7 Б. Малюсенькі такі артыкульчык, але затое я не хаджу цяпер у Афгане па гарах і не бегаю з поўнай выкладкай. Сяджу вось, культурна адпачываю. Хутка астатнія нашы падыдуць, дзяўчынкі.

— З-за гэтага самага 7 Б вы і завецеся «сямёрачнікамі»?

— Ага. Раней думаў, што гэта я адзін такі, а цяпер нас цэлая каманда падабралася. Бавім час, сустракаемся. Дэмакратыя ж. Ці нельга? — Ён раптам схамянуўся, палохаючыся, напэўна, сваёй шчырасці, і хуценька лезе ў нагрудную кішэню сіняга блузону.— Вось ваенны білет. Усё як мае быць, бачыце: нягодны...

Яго апошнія словы заглушаюцца рознагалосым хорам:

— Прывітанне, Алег! Яшчэ тры кавы! Ссоўвай крэслы...

Гэта ўвалілася каманда «сямёрачнікаў». Прыйшлі дакладна ў пяць, як на службу. Усе пышуць здароўем, усе ў «прыкідзе», усе вясёлыя, шчаслівыя і бестурботныя. Ва ўсіх у кішэнях, на ўсякі выпадак, ваенныя білеты з запісам у адпаведнай графе, што, згодна з артыкулам 7 Б, яны не падлягаюць прызыву ва Узброеныя Сілы. Для тых, хто не ў курсе справы, скажу коратка: 7 Б — гэта артыкул, у якім маецца на ўвазе разумовая непаўнацэннасць. Што і казаць, не такімі я ўяўляў сёння крэтынаў... А «сямёрачнікі» тым часам нязмушана дзеляцца навінамі — ідзе вясенні прызыў, і яны чакаюць папаўнення ў сваё нефармальнае аб'яднанне.

— Чуеш, Алег, што Лапа ўтварыў? Толькі зайшоў да доктара, кінуўся да фікуса і пачаў яго спажываць. Той ледзь з крэсла не зваліўся. Наш чалавек Лапа!

— Гы-гы-гы! — рэагуе нефармальнае аб'яднанне.— Малаток!

— А пра Юрку Чорнага чулі? Уяўляеце, на камісіі штаны абмачыў. Яму крычаць: «Ты што, хлопчык, прыбіральня побач». А ён ім: «У мяне гэта і днём і ноччу». Напэўна, закосіць на сямёрку.

— Чорны — малаток,— канстатуе каманда,— выдатна падкаваўся, усе сімптомы, сабака, вывучыў.

А вось пра нейкага Кныша гаварылі спачувальна. Ён пачаў выдумваць штосьці складанае, баяў пра нейкія дзённыя трызненні і так заблытаўся, што дактары яму сказалі: «Глядзі, браток, дрэнна скончыш». Кныш раскалоўся, падстрыгся пад «нуль», чакае позвы.

— Ну і «крест»,— адрэагаваў на паведамленне Алег,— зоны спалохаўся. Пасядзеў бы годзік, затое б вярнуўся хутка. А так будзе шліфаваць ботамі асфальт, пакуль ногі да каленяў не сатрэ.

— Гы-гы-гы! — ацаніла важакову метафару нефармальнае аб'яднанне.

Карацей, незабыўны выдаўся вечарок. За каваю і ў вясёлай кампаніі. Нефармалы з «сямёркі» з усяе сілы стараліся запэўніць мяне, што яны на сённяшні дзень самая крутая каманда ў горадзе, і не дай бог якім-небудзь панкам ці нават металістам стаць ім упоперак дарогі.

— Усе пад малаток трапяць,— пастукваў па стале рубам далоні Алег,— мы два разы на тыдзень збіраемся, качаемся, вучым кун-фу. З нашаю камандаю ніхто не хоча звязвацца. Думаюць, што мы псіхі. А трэба яшчэ разабрацца, хто разумнейшы будзе.

— Гы-гы-гы.

— А дзе вы працуеце?

— Пакуль пераважна нідзе. Чакаем, пакуль мітусня сунімецца. А потым хто куды. Я буду ва універсітэт паступаць, на юрыдычны. Думаеце, не прымуць? Там жа не пытаюцца, чаму не служыў. Хворы — і ўсё. Мала што, можа, у мяне жаўтуха была.

— Гы-гы-гы! — адгукнуліся нефармалы.

Назаўтра я прыйшоў у ваенны камісарыят раёна, дзе ў картатэцы ваеннаабавязаных ляжыць і мая асабістая справа, і расказаў камісару, элегантнаму, статнаму

палкоўніку пра сваю сустрэчу з выдатнаю «сямёркаю».

Дзівіцца камісар не стаў.

— Там, напэўна, і з нашага раёна ёсць пара экземпляраў. Не хачу грашыць на медыцыну, справа гэта тонкая — паспрабуй вызнач, ідыёт ён ці прыкідваецца, але апошнім часам 7 Б сапраўды стаў нейкім прылазам.

Згадаў я тут пра нядаўні суд над дактарамі, якія за хабар ад бацькоў прызыўнікоў падводзілі тых, хто не жадаў служыць у арміі, пад магічны артыкул 7 Б. Там, у адным з падмаскоўных гарадоў, справа была вельмі ўжо наладжаная. Нягоднымі да службы прызнаваліся юнакі, якія толькі што бліскуча скончылі школу, і тыя, нягледзячы на змрочны дыягназ, сходу паступалі ў прэстыжныя маскоўскія інстытуты.

— Ніяк не разумею,— казаў камісар, і па ягоным твары я бачыў, што ён сапраўды не разумее,— што такое дзеецца. У турму гатовыя, згодныя на ўсё жыццё атрымаць дыягназ «шызафрэнік», абы не служыць. Я ўжо не кажу пра Канстытуцыю, пра святы абавязак. Што тут утойваць, надта ўжо часта, і калі трэба, і калі не трэба, паўтараем мы высокія словы. Але ўсё-такі? Маладыя хлопцы ўвільваюць ад арміі. Дык там жа ты за адзін дзень больш адчуеш, чым за месяц «кайфу» ў Траецкім прадмесці, спецыяльнасць атрымаеш, сяброў знойдзеш. Мужчынам, урэшце, сапраўдным станеш. Нічога не разумею.

— А можа, Афган перапалохаў? — асцярожна краную я тэму, пра якую мы стараемся не гаварыць.

— Сапраўдныя хлопцы самі просяцца ў дэсантныя часці. Вось толькі што вярнуўся з прызыўной камісіі—скрозь «хачу ў дэсант». І не таму што хлопцы рамантыкі захацелі. Проста вельмі папулярная цяпер дэсантура. Высокі яе аўтарытэт... А гэтыя плюгаўцы з разумнікаў, што косяць на сёмы артыкул, ведаюць, што нікуды іх не пашлюць, але ўсё роўна жадаюць стаць шызафрэнікамі.

— Як вы думаеце, а можа, дзедаўшчына тут вінаватая? Раней жа таксама гэты артыкул існаваў, але ніхто не імкнуўся стаць дурнем?

— Дзедаўшчына — гэта складанае пытанне,— сумнее палкоўнік і задумена барабаніць пальцамі па шырокім стале.

Гаворачы пра тое, што сёння досыць шмат маладых людзей шукае розныя прычыны, каб не служыць у арміі, мы павінны асэнсаваць шмат розных праблем, пра якія раней не было прынята гаварыць уголас, бо іх нібыта і не было. І пакуль газеты друкавалі нудныя, напісаныя пад трафарэтку замалёўкі, тыпу «Як служаць нашы землякі», а хуткія на пад'ём рэжысёры спіхвалі ў свет мастацкія палотны, дзе армія паўставала перад гледачом у выглядзе лубка «Салдат Іван Броўкін» альбо наспех скалочанага сюжэта з канфліктам паміж камандзірам і нампалітам, у якім мудры генерал мірыў абодвух, у арміі развіваліся тыя ж працэсы, што і ў грамадстве.

З'явіліся і кумаўство, і пратэкцыянізм, і дэмагогія.

А ў салдацкім асяроддзі буйным чартапалохам заквітнела дзедаўшчына, ці, як яе сарамліва называюць вайскоўцы, «нестатутныя адносіны». Іншымі словамі, салдаты ранейшых прызываў здзекаваліся з маладых, прычым у некаторых фарміраваннях гэта рабілася пры поўным патуранні афіцэраў, якія згодна з часам галоўную задачу бачылі ў тым, каб усё ў ротах і на




батарэях было шыта-крыта.

Дысцыпліна стала падтрымлівацца кулакамі салдатаў ранейшых прызываў. Вельмі доўга армія не хацела выносіць смецце з хаты, і аповесць Юрыя Палякова «Сто дзён да загаду», дзе ўпершыню было сказана пра дзедаўшчыну, сустрэла ў штыкі. Нават на з'ездзе камсамола курсант Чмуроў сурова крытыкаваў яшчэ ненадрукаваную аповесць, назваў яе «ачарненнем» арміі... Гэх, курсант, заслужаны ветэран Афганістана, Герой Савецкага Саюза. Відаць, не адна смеласць патрэбная ў гэтым жыцці. Можа, не так ужо і лёгка назваць белае белым, а чорнае чорным...

Армія не любіць, калі яе крытыкуюць. Смелы рэжысёр, любімец гледачоў Эльдар Разанаў, напэўна, закаяўся, што ў сваім Астанкінскім тэлевечары няўдала пажартаваў з тае нагоды, што ў свой час не знайшла яго позва... Як толькі ні называюць яго сёння на старонках армейскіх газет! Нібыта і сапраўды Разанаў схаваўся ад прызыву! Словам, любы крытычны гук у бок арміі сустракаецца як напад. Зразумець гэта можна. Армія заўсёды была, ёсць і будзе ў пашане ў народа. Тут няма чаго і казаць!

Але калі замоўчваць армейскія праблемы ці гаварыць пра іх толькі ў вузкім коле, гэта арміі на карысць не пойдзе. Мы служым у ёй, рыхтуем да службы сваіх сыноў, нічога не шкадуем для арміі і маем права ведаць, што ў ёй робіцца. Не ў сэнсе ваенных таямніц, а ў сэнсе мікраклімату, у сэнсе ўзаемаадносін салдат. Нам важна ведаць, што слоўца «чурка» наш сын пачуў не ў арміі, нам неабходна ведаць, што страляць дакладна сяржанты вучылі яго не здзекуючыся, а прыбіральні ён драіў таму, што настала яго чарга, а не таму, што так захацелася яфрэйтарам.

Пакуль маўчалі афіцыйныя каналы інфармацыі, па краіне ішла пагалоска пра дзедаўшчыну. Шмат што ў ёй было хлуснёю ці перабольшваннем, але нястойкія юныя душы дранцвелі. Дый многія бацькі сталі баяцца за сыноў...

Служба ў арміі — не пікнік і не санаторый. Гэта зразумела. У арміі вучаць таму, што неабходна на вайне, і сантыменты арміі не ўласцівыя. Але ці дакладна адпавядаюць сённяшняму дню воінскія статуты, разлічаныя на салдата арміі, дзе сярэдняя адукацыя была найвялікшай вучонасцю? Сёння ў ротах не знайсці хлопца з сямікласнай адукацыяй, сёння салдаты і сяржанты іншыя. А статуты ўсё ранейшыя, і страявая падрыхтоўка дзе-нідзе ўсё яшчэ самая папулярная дысцыпліна...

Я не навязваю вайскоўцам сваёй думкі, я проста разважаю аб тым, чаму ў Мінску з'явілася такое агіднае нефармальнае аб'яднанне, як «сямёрка», дзе згуртаваліся юнакі, якія бачаць годнасць не ў тым, каб служыць у арміі, а ў тым, каб лічыцца дурнямі, пасмейвацца з аднагодкаў, якія надзелі форму. Працэсы за ўсё заклейміць гэтых «адшчапенцаў», напомніць чытачам пра слаўныя гераічныя традыцыі Савецкіх Узброеных Сіл, расказаць пра свае юнацтва, пра армейскіх таварышаў, пра строгіх і клапатлівых камандзіраў. Можна згадаць імёны сённяшніх воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Толькі, думаю, што пра ўсё гэта мы гаворым шмат і часта. Але ці дастаткова пераканаўча, калі сёння праблема стала такая відавочная, што замоўчваць яе проста немагчыма? Вядома, «сямёрачнікі» і розныя іншыя спрытнюгі (нядаўна я даведаўся пра тое, што ў Кіргізіі горныя чабаны рэгістравалі сваіх сыноў пад дзявочымі імёнамі, ведаю многіх начальнікаў, якія ўмеюць прыгожа пагаварыць пра патрыятызм, але чые сыны з нагоды «дзіўнай» выпадковасці праслужылі або ў Мінску, або ў навакольных гарнізонах)— проста нягоднікі. Але ці правільна гуляць у адны вароты, забывацца пра тое, што ў апошнія гады некаторыя тэндэнцыі ў арміі істотна паўплывалі на яе калісь бездакорны аўтарытэт. Працэсы за ўсё гаварыць пра «ачарненне» і вінавацiць Ю. Палякова ў «сенсацыйнасці». Нашмат больш складана зрабіць усё так, каб маладым чалавек не баяўся сутыкнуцца ў арміі з чыноўным бяздушшам да свайго лёсу, з высакамернасцю некаторых афіцэраў, з грубасцю саслужыўцаў.

Працэсы за ўсё сказаць, што гэтага няма, таму што гэтага быць не можа.

Я асабіста быў бы рады, калі б мяне пераканалі ў адваротным. Толькі куды дзець груду лістоў, якія прыйшлі да мяне ў адказ на адзін мой нарыс пра дзедаўшчыну? Паверце, гэта вельмі горкія лісты.

...Месяц таму я праводзіў у армію свайго суседа Валерку. Ішоў у армію хлопец, які не збянтэжыцца перад выпрабаваннем. Шырокія плечы, тры скачкі з парашутам, шафёрскае пасведчанне, разрад па дзюдо. Ішоў служыць упэўнены ў сабе чалавек. А вернецца яшчэ лепшым, упэўнены. Ён самавіта пацалаваў маці, абняў бацьку, моцна паціснуў мне руку і, трохі сарамеючыся, падышоў да сваёй дзяўчыны. Побач нехта брынкаў на гітары, нехта гучна смяяўся, нехта ўсхліпваў, напэўна, чыясьці маці, і ўсё-такі да нас данеслася, як Валерка цвёрда і па-мужчынску сказаў сваёй дзяўчыне:

— Ты, Наташа, чакай.

І, закінуўшы за плечы спартыўную сумку, махнуўшы на развітанне ўсім рукою, ён цвёрдым крокам пайшоў у вароты зборнага пункта.

А зусім непадалёк, аддзеленыя ад Валеркі вузкай ніткаю Свіслачы, сядзелі за сваёй каваю (аплачанай бацькамі) яго равеснікі, нефармалы з «сямёркі». Напэўна, яны абмяркоўвалі пытанне, якое вельмі іх хвалявала: ці лічаць іх самай крутой камандаю ў Мінску, ці не?

**Мінск**



Адам ГЛОБУС

ВЕРНІСАЖ

# ПОСТАЦІ І КОЛЕР

## РАЗМОВА З МАСТАЧКАЙ ІРЫНАЙ МАЛЕЦІНАЙ

**Вымаві слова «натуршчыца» і пабачыш, як на твары ў размоўцы з'явіцца ўсмешка, дарэчы, не заўсёды добразычлівая... Звычайна сарамлівая: маўляў, разумею. І адсюль маё першае пытанне да Ірыны:**

**— Як ты знаходзіш натуршчыц!**

**— А я іх не шукаю. Добра, што мінулі тыя часы, калі выкладчык прыводзіў у майстэрню натуршчыцу, ставіў пастаноўку, і мы — студэнты жывапіснага факультэта — пачыналі маляваць. А маляваць незнаёмага чалавека цяжка, бо пачынаеш змалёўваць абалонку, знешнасць, і ўсе намаганні ідуць на імітацыю вонкавага падабенства... Інстытут я скончыла, выкладчыкам падзякавала і зразумела, што ўсё, як ні крыўдна, трэба пачынаць з пачатку, трэба зноў пачынаць вучыцца. Што да натуршчыц, дык я звычайна прашу пазіраваць перад аб'ектывам сваіх сяброў і знаёмых, тых, каго разумею. Людзі любяць, калі іх малююць і фатаграфуюць.**



**— Іра, а пры чым тут фотаапарат? Ты ж мастачка, жывапісец!**

**— І фатограф. Па-мойму, у фотаплёнкі вялікія магчымасці. Значна большыя, чым у фарбы і палатна. Возьмем, напрыклад, партрэт. Можна зрабіць мноства кадраў, шмат варыянтаў. А потым можна павялічыць выяву да самых неверагодных памераў з дапамогаю праектара.**

**— Пераканаўча. Але ў мяне пытанне: чаму ты не пакінула жывапіс і не перайшла ў фотамастакі!**

**— Не люблю прафесійных «каст». А ў нас, як ты ведаеш, так атрымалася, што мастакі падзяляюцца на секцыі паводле вонкавых навідумляных прыкмет: жывапісцы, манументалісты, графікі... І калі ты трапіў у жывапісцы, дык пішы карціны; а калі ты графік — афармляй кнігі і драпай афорты... Такі падзел — шкодны, мастакі ператвараюцца ў рамеснікаў, якія сяк-так авалодалі прыёмамі і тэхнікай, але страцілі творчую думку. Ты толькі ўяві мастака, які не здатны думаць... Адсюль і нашая прафесійная прымаўка: мастак — што сабака: усё разумее, толькі сказаць не можа. Я ўпэўнена, што мастакі з «грамадскім» тэмпераментам, з шырокім прафесійным дыяпазонам дасягаюць большых поспехаў, чым тыя, хто толькі «жывапісуе». Між тым, рабіць выгляд, што існуе нейкая таямніца ў прафесіі мастака, якую ведаюць толькі выбраныя,— амаральна. Думаю, што працэс «размывання кастовых межаў» — з'ява аб'ектыўная. І адбываецца яна не толькі ў мастацтве, але і ў літаратуры, і ў музыцы, дый на вытворчасці... Чалавек стварае сам сябе — формула этыкі часоў Адраджэння зноў набывае актуальнасць.**

**— Іра, пытанне даволі празаічнае, але... Ці патрэбна табе прызнанне!**

**— Я не ведаю, што гэта такое. Для мяне ў гэтым паняцці зноў тоіцца падзел на прызнаных і непрызнаных. А ў сапраўдным мастацтве няма іерархіі — кожны мастак выключны і непаўторны. А званні, прэміі і ўзнагароды, на якія было такім шчодрым апошняе дзесяцігоддзе, прывялі да**

ўтварэння штучнай «эліты», якая любіць толькі сябе ў мастацтве. Ты згодны, што гэта не сапраўднае прызнанне. Гэта хутчэй прыніжэнне. Аднаму далі прэмію, увянчалі лаўрамі, другому не далі, не ўзнеслі... У выніку — канфлікт, зайздрасць, плёткі, нават даносы... Такое «прызнанне» мастаку непатрэбна. А працягваць тэму, дык колькі мастакоў атрымала ўзнагароды і засталося функцыянерамі з палітраю ў руцэ. І не дзіўна, што многія маладыя абралі шлях функцыянерства і імкнуцца атрымаць узнагароды. Як кажуць: яблык ад яблыні... Але ёсць і заўсёды былі іншыя, тыя, хто разумее, што Казімір Малевіч і Язэп Драздовіч пісалі вялікія творы без усялякіх прэмій і ўзнагарод, што сапраўднае мастацтва гэта не толькі стракатая знешнасць і бліскучая абалонка, а змястоўная форма. З-за прэміяшанавання ды чынадральства, якія пануюць у асяроддзі мастакоў, шмат каму давялося пакінуць рэспубліку. Чаму таленавіты беларускі скульптар Барыс Маркаў паехаў з Мінска? Чаму жывапісцы Валерый Мартынчык і Сяргей Малішэўскі экспануюць свае карціны ў Расіі і Эстоніі, а не ў Беларусі? Адказ просты: у нас вельмі рэакцыйныя выстаўкомы. А мастаку патрэбны дыялог з гледачом, з тым, дзеля каго ён працуе. Мастаку неабходна выстаўляць працы, а да нядаўняга часу паказаць карціну, калі ты працуеш не ў плыні «эліты», было амаль немагчыма. Цяпер інакш, і гэта добра. І гэта можна лічыць прызнаннем, калі кожны мастак мае магчымасць паказаць сваю працу гледачу.

Чытачам «Крыніцы» я прапаную пазнаёміцца з Ірынінымі каляровымі фотаэцюдамі. Чаму я выбраў фотаэцюды, а не жывапіс ці графіку? А таму, што з карцінамі і графічнымі аркушамі мастачкі можна было пазнаёміцца на яе персанальных выставах, якія адбываліся ў Мінску і Гомелі, а фотаэцюды не ўвайшлі ў экспазіцыі, але бясспрэчна заслугоўваюць увагі.





















# МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП

МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП
МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП
МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП
МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП

Сястра вядомага амерыканскага музыканта Майкла Джэксана Ла Тоя Джэксан (яе сінгл «Няўжо цябе ніхто не любіць!» вельмі папулярны цяпер у ЗША і Еўропе) паведаміла ў адным з інтэрв'ю, што яе знакаміты брат збіраецца ажаніцца з Сідай Гарэт, вакалісткаю, якая брала ўдзел у запісе апошняга альбома Майкла Джэксана «Благі».




У панядзелак 8 лютага 1988 года адбылася цырымонія ўручэння ўзнагарод «Брыціш фонагрэфік індастры» («Брытанская прамысловасць гуказапісу») рок-музыкантам, якія звярнулі летась на сябе найбольшую ўвагу. Гэтая цырымонія праводзілася ўжо сёмы год запар і выклікала вялікую цікавасць як у музычных крытыкаў Вялікабрытаніі, так і аматараў рок-музыкі, якімі была перапоўненая ў той вечар канцэртная зала «Роял Элбэрт Хол».



Японскія ўлады забаранілі продаж у краіне на працягу 25 гадоў пласцінак англійскага музыканта Боя Джорджа (былога лідэра групы «Калчэ Клаб»). Гэта тлумачыцца тым, што прэса выкрыла яго схільнасць да наркотыкаў. Паводле слоў прадстаўніка кампетэнтных японскіх арганізацый, «Бой Джордж з'яўляецца благім прыкладам для японскай моладзі». Прынятае рашэнне з'явілася вялікім ударам (як у камерцыйным плане, так і ў маральным) для музыканта, які зусім нядаўна дакляраваў, што яму ўдалося вылечыцца ад наркаманіі.

Джордж Майкл, які раней выступаў у дуэце «УЭМ!», вытрымаў моцную канкурэнцыю з боку Кліфа Рычарда, Крыса Ры, Стыва Уінвуда і Рыка Эстлі і стаў уладальнікам ўзнагароды «лепшаму выканаўцу Вялікабрытаніі» (лепшым выканаўцам свету быў названы Майкл Джэксан). Званне лепшай сярод жанчын брытанскай рок-музыкі дасталася вакалістцы Элісон Муаей, якая стала вядомай многім дзякуючы свайму супрацоўніцтву з сінтэзатаршчыкам Вінсам Кларкам у рамках групы «Езу».



Лепшым альбомам практычна аднагалосна была прызнана пласцінка былога вакаліста групы «Поліс» Стынга «...не параўнаецца нават сонца» (частка радка аднаго з шэкспіраўскіх санетаў). Цікава, што і першы сольны альбом Стынга «Сны блакітных чарапах», які выйшаў у 1985 годзе, быў адзначаны многім самых разнастайных прэмій і ўзнагарод.



Барабаншчык групы «Куін» Роджэр Тэйлар стварыў групу «Зэ Крос». Прычынаю гэтаму былі, паводле прызнання Тэйлара, занадта доўгія перыяды чакання над запісам чарговага альбома «Куін», падчас якіх яму «проста няма чаго рабіць». Цяпер Тэйлар працуе разам з «Куін» над новым студыйным альбомам, а ўвесну збіраецца адправіцца на гастролі разам са сваёй новай групаю.

Лідэр групы «Даер Стрэйтс» гітарыст Марк Нопфлер запісаў музыку да фільма «Гонар Прынцэсы» (гэта ўжо трэцяя яго праца ў кіно). Ствараючы яе, музыкант актыўна выкарыстоўвае найноўшы музычны камп'ютэр «Сінклавір», які дазваляе атрымаць любы існуючы ў прыродзе гук, а таксама гукі, што не маюць аналагаў. Крытыкі адзначаюць, што гэтым разам Нопфлер «эксперыментаваў з фальклорам, музыкаю барока і сімфанічнымі формамі, якія выклікаюць асацыяцыі з музыкаю Чайкоўскага». Апроч Нопфлера, у запісе гукавой дарожкі да фільма ўдзельнічаў таксама вядомы музыкант Вілі дэ Віль.






Лепшым дэбютантам быў названы вакаліст Тэрэнс Трэнт д'Арбі, а прыз за лепшы відэакліп атрымала група «Нью Одэ» (кампазіцыя «Сапраўдная праўда»).



Бадай самым хвалюючым момантам урачыстай цырымоніі стала ўручэнне ўзнагароды «За выдатны ўклад ў рок-музыку». Гэтым разам яе атрымалі музыканты групы «Зэ Ху», якой споўнілася 6 летась 25 гадоў. Група, якая даўно ўжо не выступае разам, спецыяльна сабралася з гэтай нагоды, і са сцэны «Роял Элбэрт Хола» прагучала адна з самых знакамітых кампазіцый «Зэ Ху» — «Маё пакаленне».

Лепшым сінглам (маленькай пласцінкай, запісанай на хуткасці 45 абаротаў у хвіліну) была прызнана кампазіцыя, выкананая маладым англійскім вакалістам Рыкам Эстлі,— «Ніколі ад цябе не адмоўлюся». Трэба адзначыць, што 1987 год стаў для Эстлі годам сапраўды феменальнага поспеху: усе іншыя выпушчаныя ім сінглы трапілі ў дваццатку лепшых песень Вялікабрытаніі і імгненна зрабілі яго знакамітым (сваім поспехам ён шмат абавязаны вельмі ўмелай працы сваіх прадзюсераў).





На прылаўках магазінаў з'явіўся сольны альбом клавішнікагітарыста вядучай амерыканскай «новахвалевай групы» «Токінг Хэдз» Джэры Харысана пад назваю «Выпадковыя багі». Гэта ўжо трэцяя сольная пласцінка, запісаная адным з музыкантаў «Токінг Хэдз» (раней свае альбомы запісалі Дэвід Бёрн і Ціна Уэймут). Перад гэтым Харысан з поспехам паспрабаваў сябе ў якасці прадзюсера, супрацоўнічаючы з вакалісткаю Нона Хэндрыкс і групамі «Ваялент Фам» і «Бо Дзінз».

Кандыдатамі на званне «лепшай брытанскай групы» былі ансамблі «Дэф Лэпэрд», «Бі Джыз», «Лэвэл-42», «Уайтснэйк» і «Пэт Шоп Бойз». Удача гэтым вечарам спадарожнічала апошняй групе, нягледзячы на адкрыта камерцыйны характар музыкі, якую выконваюць «Хлопцы з зоамагазіна» (так перакладаецца назва гэтага англійскага дуэта). Затое ў катэгорыі «лепшая група свету» перамог некамерцыйны падыход да року. Пераможцам была названа ірландская група «Ю Ту», чыя аскетычная музыка вось ужо некалькі гадоў прыцягвае да сябе ўвагу аматараў року.



Адказваючы на пытанне «Якія пласцінкі Вы ўзялі б з сабою на ненаселены востраў!», лідэр англійскай групы «Мэрыліян» Фіш назваў наступныя альбомы:

1. «Пінк Флойд» — «Адваротны бок Месяца»
2. Джоні Мітчэл — «Хэйра»
3. «Ес» — «Песні Ес»
4. «Ху» — «Квадрафенія»
5 «Пінк Флойд» — «Шкада, што цябе тут няма»
6. Пітэр Хэміл — «Канец»
7. «Джэнісіз» — «Ягня ляжыць на Брадвеі»
8. Рыкі Лі Джоўнз — «Піраты»
9. «Бітлз» — «Клуб адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера»
10. «Фры» — «Нарэшце вольны»

Джон Кэйл, музыкант легендарнай групы «Вэлвіт Андэграўнд», якая разам з «Пінк Флойд» стала адной з заснавальніц «псіхадэлічнага року», выйшаў да гледачоў з новым творам. У Амстэрдаме ўпершыню была выканана яго «Фолклендская сюіта» для хору і аркестра.

МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП
МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТА
МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП

МУЗЫЧНЫ ПРАСПЕКТ

Усевалад КРАМУШЧАНКА

# ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ ПАЗНАННЯ

Нататкі пра гродзенскі фестываль «РОК-КРОК»

Яшчэ летась пра рок-музыку было прынята гаварыць напаўголаса, а прэса пераважна друкавала паянкавыя артыкулы.

Але жыццё ідзе, і прыходзіцца выпускаць рок з падполля і даваць права ацэньваць музыку спецыялістам і аматарам. А не майстрам аглабельнай крытыкі, якія набілі руку на кан'юнктуры.

Гродзенскі фестываль быў арганізаваны гаркомам камсамола пры актыўным удзеле клуба «Паходня». Галоўным быў трэці, апошні, дзень, яго адкрылі маскоўскія групы «Начны праспект» і «Біяканструктар». На жаль (напэўна, ад непадрыхтаванасці гледачоў), музыка гэтых калектываў, далёкая ад традыцыйнай, успрымалася з цяжкасцю. Першая, пад кіраўніцтвам А. Барысава, выконвае тыповы пост-панк. Другая — камп'ютэрная.

У другой частцы праграмы выступілі рыжскія калектывы. Першы — «Зіг Заг», сапраўдная, як вонкава, так і з пункту гледжання тэкстаў і музыкі, панк-група. Яе ўдзельнікі — маладыя хлопцы, якія спяваюць аб праблемах сваіх равеснікаў, што часам зусім непадрыхтаваныя да самастойнага жыцця, «разбіваюць лбы аб асфальт нягод». Дарэчы, на пачатку сакавіка «Зіг Заг» і яшчэ тры рыжскія групы далі дабрачынны канцэрт, усе сабраныя грошы ад якога пералічаны на барацьбу з наркаманіяй. А кіраўнік «Зіг Зага» Гвіда прапанаваў беларускім музыкантам аб'яднацца з латышскімі калектывамі і наладзіць сумесную акцыю супраць гэтага сацыяльнага зла. Заклік высакародны. Выяўляецца, што пра музыку, асабліва такую спрэчную, як панк ці рок, не варта меркаваць толькі па экстравагантным знешнім выглядзе хлопцаў: гэта іх імідж — трэба рабіць высновы на падставе грамадскага рэзанансу, які гэтая музыка мае. Рызыкую, зыходзячы з уласнага вопыту, выказаць меркаванне, што часта думка куміра для многіх падлеткаў у сто разоў больш аўтарытэтная, чым думка ўсіх бацькоў і настаўнікаў разам узятых... На жаль, вядома...

Другі калектыў з Рыгі, які выступаў у Гродне, — «Доктар Фаўстус» — асноўны ўпор робіць на тэксты. На самай справе (гэта відаць нават па назве) некаторая філасафічнасць, падтрыманая традыцыйным хард-рокам, ім уласцівая. Дый не дзіва: большасць музыкантаў «Доктара Фаўстуса» — студэнты кансерваторыі.

Выступленнем латышскіх музыкантаў закончыліся канцэрты гасцей рэспублікі.

Увогуле заслугоўвае ўхвалы імкненне арганізатараў пазнаёміць слухачоў з разнастайнасцю музычнай палітры фестывалю. Але, як адзначыў адзін з арганізатараў «Рок-кроку» Ігар Ляговіч, «запрашаць групы прыходзіцца «на сляпую», ведаючы іх толькі завочна, тэарэтычна.

І часта сярод цікавых калектываў сустракаецца непрыхаваная халтура — дастаткова згадаць ленінградскую «ЭДС». Нічога не зробіш. Групы растуць, як грыбы пасля дажджу, а інфармацыя пра іх у прэсе (дзе ж ты, спецыялізаванае выданне?— **У. К.**), а тым больш запісы адсутнічаюць.

У афішах, і не толькі ў Гродне, указваюцца толькі дата і час выступлення груп. А хоць бы ў якім накірунку (не кажучы ўжо пра рэкламныя буклеты) іграе той ці іншы калектыў, не пішацца. Уся інфармацыя зведзена да мінімуму: «рок» — і ўсё тут. А кошт білета на адзін канцэрт — два рублі. Фестываль разлічаны пераважна на моладзь. Але агульная сума кошту білетаў на ўсе выступленні рок-груп атрымліваецца яўна не для моладзі. У выніку прыблізна чвэрць залы на конкурснай праграме пуставала. Затое на апошнім канцэрце ўсе праходы былі забіты людзьмі, на кожным крэсле сядзела па два чалавекі — відовішча неверагоднае.

Вось так, аддай тры рублі (а цана на галаканцэрт была менавіта такая) і пастой тры гадзіны ў цеснаце і духаце...

Выступае «Рокаш» («Упе-рад») — маладая група з Наваполацка. На гэты калектыў, як на прадстаўніка зусім маладой беларускай рок-культуры, ускладаліся вялікія надзеі. Але...

...Калі ты лічыш сябе рок-музыкантам, апрач духоўнага асэнсавання культуры свайго народа, трэба валодаць культурай выканання. І ніякіх спасылак на адсутнасць добрых інструментаў ці часу на рэпетыцыі, або на тое, што «мы сабраліся ўсяго два месяцы таму», быць не павінна. Гледача гэта не цікавіць. Твая задача — з дапамогаю гармоніі музыкі, тэатралізацыі тэкстаў данесці да кожнага ў зале сваю думку.

Пасля цяжкай музыкі папярэдніх рок-выканаўцаў нават неяк настальгічна прыемна загучала ваўкавыская «Піраміда». Калектыў іграе музыку ў стылі ранняга «бітлаўскага» біг-біту. І пераймае пачынальнікаў року (а паводле заўваг гледачоў — ленінградскі «Сакрэт») не толькі ў музыцы, але і ў прычосках, касцюмах, манеры выканання. Мне здаецца, што ім час ужо знайсці ўласны твар.

З вялікім аптымізмам, у лепшых ленінградскіх традыцыях выступіла мінская панк-група «Зарціпо» (экс-«Блізняты»). Са зменаю назвы і складу ў калектыве з'явілася новае гучанне, новыя тэксты. Арыгінальны пачатак песні «На камандных вышынях» (пародыя на застойны перыяд) адразу ж усхваляваў гродзенскую публіку:

Мне положена медаль:
Я уважаю нашу сталь.
На раны сыплю нашу
соль,
В шкафах лелею нашу
моль.

Яшчэ ў выкананні «Зарціпо» прагучалі: «Жаночая песня», «Калона «А», «Блюз-перакос»... Усе яны маюць вострасацыяльную накіраванасць, аднак настолькі дакладна абазначаную, што (напэўна, праз боязь, каб чаго не выйшла) прыз абласнога камітэта камсамола за змястоўнасць і сацыяльную накіраванасць тэкстаў было вырашана аддаць групе «Дэбют» з гарадскога пасёлка Рось, хаця нічым асаблівым гэтая група не вылучалася. Ні ў музыцы (усё той жа «хард'н'хэві»), ні ў яе падачы, ні ў тэкстах. Зрэшты, мяркуйце самі:

За горизонт уходит век,
Чего достиг ты, человек?
А может, ты не знаешь
сам,
Что только рок поможет
нам?

Ну і гэтак далей.

Лаўрэат (прыз глядацкіх сімпатый) «рок-кроку» — беларускі рок-гурт «Мроя» — быў сустрэты гледачамі дружнымі апладысментамі. Летась на гродзенскім фестывалі калектыў таксама быў лаўрэатам. І ўжо тады, пэўна, запомніўся ўсім сваім неардынарным падыходам да творчасці. «Мроя» змагаецца супраць бездухоўнасці, абывацельшчыны, бюракратыі. Яе зброя — песня:

Я рок-музыкант старых
традыцый,
Гэта не прызванне —
гэта пазіцыя.
Я супраць блакітных
і залатых,
Я не выношу пустыя
вочы.
Ведайце, я не з тых,
Хто жыве па законах
ночы.

(З песні «Я рок-музыкант».)

Але вось жа ў чым парадокс: у рэспубліцы «Мроя» карыстаецца шырокай папулярнасцю. Доказам таму можа служыць факт шматразовага лаўрэацтва гурта на фестывалях, першыя радкі ў хіт-парадах Беларускага радыё, актыўная жыццёвая пазіцыя і... неверагоднае бяздушша чыноўнікаў ад культуры. «Няхай нам няма дзе рэпеціраваць. Няхай няма апаратуры, дык яшчэ ж і на радыё бегаюць, каб нас з хіт-парада выключылі. Ці ж не пара ўжо перастаць проціпастаўляць творчасці свае асабістыя амбіцыі?» — сказаў мне бас-гітарыст гурта Ю. Ляўкоў. Лепшую шоу-праграму паказала добра вядомая нам група «Бонда».

І яшчэ адзін мікрапартрэт — уладальнік галоўнага прыза фестывалю гродзенская група «Тэатр». Усе яе ўдзельнікі працуюць у Гродзенскім драматычным тэатры. Магчымасці гэтага калектыву даюць падставу называць яго групаю з вельмі шырокім музычным дыяпазонам. З аднолькавым майстэрствам былі сыграны інструментальныя п'есы ў стылі меладычнага хард-року («Паломніцтва ў краіну Усходу», «Апошняя рэліквія»), рэгей («Ноч у тропіках»), блюза («Блюз-вяртанне»). Музыка «Тэатра» празрыстая, бы хрусталь, узнёслая.

Цікава, ці звяртаюць увагу на такія фестывалі нашы філарманічныя арганізацыі? Ці новыя імёны ім не патрэбныя?



Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ

# «...НЕ ОБЧЫМ ЯКИМ ЯЗЫКОМ, АЛЕ СВОИМ ВЛАСНЫМ»

«У той час калі Вялікаросія трапіла пад мангольскае іга, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да гэтак званага Літоўскага княства. Гэтае княства пазней добраахвотна аб'ядналася з Польшчаю».

У гэтых словах Фрыдрыха Энгельса — ключ да правільнага разумення нашай гісторыі. Па-першае, адзін з заснавальнікаў навуковага камунізму паказвае, што беларускія землі не былі заваяваны літоўскімі феадаламі. Па-другое, у словах «гэтак званага Літоўскага княства» ўказваецца на тое, што новая дзяржава не была чыста літоўскаю. Яна была літоўска-славянскаю.

Літоўска-славянскі характар дзяржавы знайшоў сваё адлюстраванне і ў складзе галоўнага органа кіравання — паноў рады. З канца XV ст. прадстаўніцтва беларускіх і ўкраінскіх феадалаў у радзе няспынна ўзрастае, у першай палавіне XVI ст. колькасць беларусаў і ўкраінцаў у ёй зраўнялася з колькасцю літоўцаў, а да сярэдзіны XVI ст. іх у складзе паноў рады было ўжо амаль дзве трэці. Калі ж улічыць, што значная частка літоўскіх феадалаў, у тым ліку і сям'я вялікага князя, карысталася старабеларускаю моваю, а сама мова стала дзяржаўнаю, дык літоўска-славянскі характар дзяржавы стане відавочны кожнаму. Мала таго, мова выйшла за межы Вялікага княства Літоўскага. У 1386 г. вялікі князь Ягайла стаў каралём Польшчы. Паколькі, прыехаўшы ў Польшчу, ён умеў размаўляць толькі па-старабеларуску, кракаўскі двор, каб паразумецца з ім, мусіў засвойваць мову нашых продкаў.

Ф. Энгельс піша пра тое, што Вялікае княства Літоўскае добраахвотна аб'ядналася з Польшчаю. Гэтая падзея адбылася ў 1569 г. Была ўтворана фэдэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая. Словы «Рэч Паспалітая» — гэта дакладны пераклад лацінскага «res publica», што азначае «рэч агульная». Улада ў новай дзяржавы належала магнатам і шляхце. Узначальваў Рэч Паспалітую кароль, якога пажыццёва выбіраў сейм (сойм), што складаўся з дзвюх палат: верхняй — сената, дзе засядалі прадстаўнікі цэнтральнай і правінцыйнай адміністрацыі Кароны (Польшчы) і Вялікага княства Літоўскага, і ніжняй — пасольскай (дэпутацкай) ізбы, куды на павятовых сейміках выбіралі двух паслоў (дэпутатаў) ад кожнага павета.

Вялікае княства Літоўскае аб'ядналася з Польшчаю ў час Лівонскай вайны, якая пачалася ў 1558 г. На тэрыторыю Беларусі у 1562 г. ўступілі войскі Івана Грознага. Іван, які не меў літасці да сваіх падданых, на тэрыторыі Княства паводзіў сябе не менш жорстка. Дробная і сярэдняя шляхта была напалохана. Калі ж у Масковіі пачалася апрычніна, гэта яшчэ больш напалохала шляхту. Нягледзячы на супраціўленне магнатаў, Вялікае княства аб'ядналася з Польшчаю.

Хоць на польскім троне сядзеў вялікі князь Жыгімонт Аўгуст (пра яго вы чыталі ў нарысе С. Кавалёва «Прадчуванне мінулага» — «Крыніца», № 6), літоўска-беларускія феадалы не паспяшалі, аднак, цалкам развітацца з самастойнасцю Вялікага княства. І ў Польшчы, і ў Літве захоўваліся асобныя дзяржаўныя адміністрацыі, свае судовыя сістэмы, свае войскі, фінансы, свае мытні (таможні) і свае законы. Сейм Рэчы Паспалітай прымаў асобныя законы для абедзвюх частак федэрацыі. У кожнай з іх была свая дзяржаўная мова: у Польшчы — лацінская, у Вялікім княстве — старабеларуская.

Паводле акту Люблінскай уніі 1569 г. Вялікае княства з часам павінна было прыстасаваць свае законы да прававых нормаў Польшчы. Гэта азначала, што Вялікае княства павінна было адмовіцца ад свае самабытнасці.

Першы збор законаў Вялікага княства Літоўскага (праўда, невялікі) быў зацверджаны сынам Ягайлы і дзедам Жыгімонта Аўгуста вялікім князем Казімірам у 1468 г. Называўся гэты кодэкс Судзебнікам. У 1529 г., пры сыне Казіміра Жыгімонце Старым, быў прыняты Статут Вялікага княства Літоўскага, або Першы Статут. Складзены на старабеларускай мове, ён быў адным з першых у Еўропе сістэматызаваных збораў законаў па ўсіх галінах тагачаснага права. Статут паслужыў асновай для далейшай распрацоўкі і ўдасканалення юрыдычных нормаў. За тры гады да Люблінскай уніі, у 1566 г., вялікі князь Жыгімонт Аўгуст зацвердзіў Другі Статут, таксама складзены на мове нашых продкаў.

Другі Статут Вялікага княства Літоўскага ўлічваў Уставу на валокі 1557 г., у выніку якое ў вялікакняскіх маёнтках захаду і цэнтра Беларусі была ўстаноўлена фальваначна-паншчынная гаспадарка, а таксама судовую і адміністрацыйную рэформы. Статут 1566 г. даў феадалам поўнае права распараджацца сваімі маёнткамі. Ен зацвярджаў таксама самакіраванне шляхты на павятовых сейміках і ў судах. Вось чаму яна баялася Івана Грознага: у Масковіі феадалы такое свабоды ад вярхоўнай улады не мелі.

Аднак і Другі Статут не лічыўся дасканалым. Таму і шляхта на сеймах, і прадстаўнікі цэнтральнай улады Вялікага княства Літоўскага пачалі паляпшаць яго. Ужо на Брэсцкім сейме 1566 г. было папраўлена некалькі артыкулаў. Праз два гады Гродзенскі сейм паправіў яшчэ колькі артыкулаў і стварыў камісію для дапрацоўкі Статута.

У 1569 г. пытанне аб дапрацоўцы Статута паўстала на Люблінскім сейме. Была створана камісія, якая павінна была дастасаваць законы Вялікага княства да польскіх. Аднак вынікаў работа гэтай камісіі не мела: кіруючая вярхушка Вялікага княства Літоўскага не паддалася націску польскіх феадалаў. Бачачы ўпартасць беларуска-літоўскіх магнатаў і хочучы ўратаваць Рэч Паспалітую ад распаду, польскія феадалы згадзіліся з тым, што ў Вялікім княстве павінна быць захавана сваё заканадаўства. Пасля гэтага праца над удасканаленнем Другога Статута пачалася нанова. Камісія, у якую ўвайшлі найбольш адукаваныя юрысты Беларусі і Літвы, вывучыла не толькі розныя юрыдычныя крыніцы, але і ўлічыла заўвагі і прапановы, выказаныя на сейміках і сеймах. Пра гэта гаворыцца ў прадмове да Трэцяга Статута, напісанай выдатным дзяржаўным дзеячам Львом Іванавічам Сапегам (1557—1633), які з 1581 да 1585 г. займаў пасаду пісара вялікага літоўскага, з 1585 да 1589 г. быў падканцлерам, а ў 1589—1623 гг.— канцлерам вялікім літоўскім. Пра тое ж гаворыцца і ў лісце Л. Сапегі да караля і вялікага князя Жыгімонта Вазы: «...Статут новый, а на многих местцах от людей мудрых, а в правах беглых, з народу нашого на то обраных, поправленый...» Тое ж сцвярджае ў сваім прывілеі і сам Жыгімонт Ваза: «...Статут, то ест порядок отправованья судов, через депутаты от станов Великого Князьства Литовского и на соймиках поветовых на то обраных и высажоных поправленый».

У камісіі, якая складала новы Статут, вялікую ролю адыгралі Астафі Багданавіч Валовіч (памёр у 1587 г.), які з 1566 г. быў падканцлерам, а з 1579 г.— канцлерам вялікім літоўскім і кашталянам віленскім, і ўжо цытаваны тут Леў Сапега. Валовіч ў 1569 г. быў адным з лідэраў магнацкай групоўкі, якая супраціўлялася прыняццю Люблінскай уніі. І пазней ён застаўся гарачым прыхільнікам самабытнасці Вялікага княства. Сапега таксама вылучаўся сваёй патрыятычнай пазіцыяй. Нашчадак полацкіх баяраў, ён у прадмове да Статута, маючы на ўвазе беларускую мову, пісаў: «А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем».

Распрацоўка новага Статута была завершана да канца 1584 г., але адразу ён прыняты не быў: гэты збор законаў ігнараваў акт Люблінскай уніі, паводле Статута Вялікае княства Літоўскае магло існаваць самастойна. Паколькі сеймы Вялікага княства і Польшчы збіраліся разам і разам прымалі законы, паслы і сенатары, якія прадстаўлялі Польшчу, адмаўляліся галасаваць за Трэці Статут. Зацвердзіць гэты кодэкс удалося пазней, калі разгарнулася барацьба вакол вакантнага трона.

У 1572 г., не пакінуўшы нашчадкаў, памёр Жыгімонт Аўгуст. Скончылася дынастыя Гедымінавічаў, якая займала троны ў Каралеўстве Польскім і Вялікім княстве Літоўскім. Пэўны час каралём і вялікім князем быў Генрых Валуа. Але як толькі стаў вакантны трон у Парыжы, ён аднае ночы ўцёк з Кракава і стаў у Францыі Генрыхам Трэцім. Потым каралём і вялікім князем быў абраны князь Трансільваніі Іштван Баторы, або Стэфан Баторы (Сцяпан Батура). У 1587 г. на трон караля Рэчы Паспалітай быў запрошаны сын дачкі Жыгімонта Старога, каралевіч шведскі Жыгімонт Ваза, які ў 1592 г. стане адначасна і каралём Швецыі. Стала так, што Жыгімонт Ваза быў выбраны каралём амаль без удзелу прадстаўнікоў Вялікага княства Літоўскага. Яго маглі пазбавіць вялікакняскай кароны. А ў гэты час частка польскай шляхты падтрымлівала іншага кандыдата на польскі трон — аўстрыйскага эрцгерцага Максіміліяна Габсбурга, будучага вялікага магістра рэшткаў Тэўтонскага ордэна (у Германіі). Імкнучыся атрымаць падтрымку літоўска-беларускіх магнатаў і шляхты, Жыгімонт Ваза 28 студзеня 1588 г. выдаў у Кракаве прывілей, якім зацвярджаў Трэці Статут Вялікага княства Літоўскага.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. захаваў усе юрыдычныя нормы, якія падкрэслівалі самастойнасць Княства. У гэтым дакуменце яно названа «панствам», г. зн. дзяржавай, як і да Люблінскай уніі. Польшча ў Статуце прызнавалася як замежная дзяржава, а польская шляхта — як «суседзі», «чужаземцы». Гэта асабліва падкрэслівалася ў 3-м раздзеле Статута «О вольностях шляхецких и о размноженью Великого Князства Литовского». У артыкуле 12-м забаранялася даваць пасады ў дзяржаве і маёнткі чужаземцам і суседзям (г. зн. палякам). Гэты артыкул развіваў адпаведнае палажэнне яшчэ Першага Статута, дзе было запісана: «Тэж шлюбуем и обецуем, иж в землях наших того Великого Князьства Литовского земль и городов, и мест, и которых-колве дедицств, и держаня, и тэж которых-колве врадов наших або честей и достойности жадному обчому, але толко прырожоным и тубылцом тых земль наших Великого Князьства и вышей мененого не будем давати, и потомки не будуть давати в держане и в поживане». У Трэцім Статуце палажэнні гэтага артыкула растлумачаны больш дэталёва: «...в том паньстве Великом Князстве Литовском и во всих землях, ему прислухаючих, достойностей духовных и светских, городов, дворов, кгрунтов, староств, держав, врядов земских и дворных, посесый, або в держанье и поживанье, и вечностей жадных чужоземцом и заграничником ани суседом того паньства давати не маем, але то все мы и потомки наши великие князи Литовские давати будем повинни только Литве, Руси, Жомойти, родичом старожитным и уроженцом Великого Князства Литовского и иных земль, тому Великому Князству належачих». Гэты артыкул цалкам скасоўваў адзін з пунктаў Люблінскай уніі 1569 г., паводле якога шляхта Польшчы і Вялікага княства Літоўскага мела ўзаемнае права набываць маёнткі ў абедзвюх частках федэрацыі: «Але як паляк у Літве, гэтак літовец у Польшчы вольныя набываць сумленным чынам маёнткі і валодаць імі...» Кароль, ён жа вялікі князь, паводле Статута меў права даваць маёнткі ці здаваць у арэнду свае маёнткі на тэрыторыі Вялікага княства толькі тым, хто нарадзіўся на тэрыторыі гэтага «панства». Толькі «родичом старожитным и уроженцом» Вялікага княства можна было займаць адміністрацыйныя і судовыя, вайсковыя і іншыя пасады.

Польскія феадалы зрэдку перасяляліся ў Княства, уступаючы ў шлюб. Іх дзеці, якія нарадзіліся ў Беларусі і Літве, ужо мелі права атрымаць у спадчыну ад маці маёнткі, стаць іх уладальнікамі. Таму можна сцвярджаць, што абсалютная большасць тых мясцовых жыхароў, якія ў XIX — пачатку XX ст. пісаліся палякамі,— гэта нашчадкі літоўцаў і беларусаў, якія прынялі ў XVI—XVIII стст. каталіцкую веру, засвоілі польскую культуру і праз яе апалячыліся.

Статут 1588 г. меў 14 раздзелаў і 487 артыкулаў, у якіх выкладзены нормы дзяржаўнага, грамадзянскага, сямейна-шлюбнага, зямельнага і крымінальнага права, а таксама судовага ладу. У цэлым Статут не толькі абараняў інтарэсы буйных і сярэдніх феадалаў, узмацніў іх прывілеяванае становішча ў дзяржаве — у ім былі зафіксаваны саслоўныя правы ўсёй шляхты, уключаючы і дробную. Трэці Статут не толькі канчаткова запрыгоніў вялікія масы сялян — ён прадугледжваў крымінальную адказнасць шляхты за забойства простага чалавека, забараняў перадачу вольнага чалавека за даўгі або злачынствы ў няволю. Статут абвяшчаў ідэю верацярпімасці, абмяжоўваў пакаранне непаўналетніх да 16 гадоў...

Пад наглядам Л. Сапегі Статут Вялікага княства Літоўскага быў надрукаваны на старабеларускай мове ў 1588 г. у віленскай друкарні Мамонічаў. Пасля гэтага яму наканавана была шырокая вядомасць. У XVII—XIX стст. Статут шэсць разоў быў выдадзены на польскай мове; у 1811 г. яго надрукавалі ў Санкт-Пецярбурзе на рускай і польскай мове адначасна. Статут 1588 г. быў выкарыстаны для кадыфікацыі прускага права. Пры падрыхтоўцы Саборнага ўлажэння 1649 г. ён быў перакладзены ў Маскве на тагачасную рускую мову, а шмат якія яго артыкулы цалкам або часткова ўвайшлі ў гэты звод законаў Расійскай дзяржавы. Статут быў дапаможнай крыніцай права ў заканадаўстве Польшчы. У XVII ст. яго пераклалі на нямецкую мову і карысталіся ім у судах Латвіі ды Эстоніі. Выкарыстоўвалі яго і на Украіне. Дзеля гэтага ў 1735—1738 гг. ён быў перакладзены на мову нашых паўднёвых братоў і суседзяў. Перакладалі Статут таксама на французскую і лацінскую мовы.

Дзейнічаў Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. і пасля таго, як Беларусь і Літва былі далучаны да Расійскай імперыі. У канцы XVIII — першай трэці XIX ст. царызм усяляк імкнуўся паказаць, што ён не мае намеру рабіць замах на прававыя нормы, якія здавён усталяваліся на гэтай зямлі. Ва ўказах падкрэслівалася, што «суд и расправа внутренние тех провинций в личных делах имеет производиться по тамошним обычаям» і «их языком».

Такая палітыка царызму была накіравана перш за ўсё на ўмацаванне сувязей з памешчыкамі Беларусі і Літвы. Нягледзячы на гэта, беларуская і літоўская шляхта ў 1830—1831 гг. падтрымала польскіх паўстанцаў. У 1831 г. дзеянне нормаў Трэцяга Статута было спынена ў Віцебскай і Магілёўскай губернях. Указам Мікалая І ад 25 чэрвеня 1840 г. расійскае заканадаўства ўводзілася і на тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў, Беластоцкай вобласці, а таксама на ўкраінскіх землях — у Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губернях. Цар Мікалай І загадваў ад гэтага часу «все вообще акты и документы какого бы рода и наименования оные ни были, писать только на русском языке...». А праз тры тыдні (18 ліпеня 1840 г.) быў абвешчаны яшчэ адзін указ. Паводле яго забаранялася ўжываць афіцыйна назвы Беларусь і Літва. Цяпер замест паняццяў «беларускія губерні» і «літоўскія губерні» ўводзілася паняцце «Паўночна-Заходні край». Раней, у 1839 г., была скасавана царкоўная унія, большасць беларускага народа прымусам была пераведзена ў праваслаўе і на гэтай падставе занесена ў разрад «рускіх».



ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

# ОРДЭН, ПРЭМІЯ І ЗВАННЕ

Анатоль СІДАРЭВІЧ

Усе гавораць, а чаму я павінен маўчаць? «Огонёк» разгарнуў ледзь не дыскусію. У «Литературной газете» спрачаюцца, у іншых выданнях таксама. Праўда, і я пісаў. Летась у «Літаратуры і мастацтве». Заклікаў чытачоў пільна зірнуць, за што і як у нас даюць літаратурныя прэміі. І называў факты. Крытыкаваў. Але крытыка крытыкай, а практыка застаецца практыкай.

Ордэн, прэмія і званне. Колькі страсцей кіпіць вакол іх, колькі энергіі трацiцца дзеля лаўрэацкага значка, дзеля ордэнскай кніжкі, дзеля граматы аб прысваенні звання!

Гадоў колькі назад я купіў кнігу з цікавай назвай і спадзяваўся знайсці ў ёй цікавыя думкі, назіранні. І вось што я прачытаў ужо на трэцяй старонцы: «Сучасная беларуская літаратура адзін з перадавых атрадаў шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Аб гэтым сведчыць перш за ўсё творчасць П. Броўкі, А. Куляшова, І. Мележа, К. Крапівы, М. Танка, В. Быкава, П. Панчанкі, І. Шамякіна, І. Навуменкі, Я. Брыля, А. Макаёнка і рада іншых нашых паэтаў, празаікаў, драматургаў». Не будзем зважаць на вайсковы стыль, на жаданне паставіць усіх у строй, згрупаваць у атрады. Пастраенне дык пастраенне! І вось перад намі шыхт. У ім, як заўважыў чытач, прозвішчы падабраны паводле пэўнага прынцыпу: амаль усе названыя паэты, празаікі і драматургі маюць званне народнага паэта ці то народнага пісьменніка Беларусі. Чытач заўважыў, пэўна, што хтосьці ў гэтым пераліку не згаданы, а хтосьці занесены туды памылкова. На «паверку» не з'явіўся народны пісьменнік Міхась Лынькоў, а ягонае месца ў «шарэнзе» заняў Іван Навуменка.

Каб не інтрыгаваць чытачоў, назаву таго «камандзіра», які аб'явіў «пастраенне» і правёў «паверку». Гэта доктар філалагічных навук Павел Дзюбайла, рэдактар і аўтар «Уступу» (гучыць як «у ступу», але што зробіш) да цытаванае тут кнігі «Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў». Гэта ён, Павел Дзюбайла, загадчык аддзела ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР, «уплішчыў» у шэраг народных паэтаў і пісьменнікаў свайго шэфа — віцэ-прэзідэнта Акадэміі Івана Навуменку.

Кніга, пра якую тут гаворка, убачыла свет у 1985 годзе. Здалі яе ў набор 25 студзеня. А 15 лютага таго ж самага года членкарэспандэнт АН БССР Іван Шамякін змясціў у газеце «Літаратура і мастацтва» артыкул пад красамоўнай назвай «Народны вучоны і пісьменнік». Як вы здагадаліся, артыкул быў прысвечаны Івану Навуменку.

Што гэта? Лёстачкі? Кампліменты? Вядома ж, і лёстачкі, і кампліменты. Але яшчэ і намёк каму трэба, таму, ад каго залежыць прыняцце адпаведных рашэнняў.

Сумняваюся, што гэта ініцыятыва падначаленых. Трохі раней пад рэдакцыяй Івана Навуменкі, Паўла Дзюбайлы і Дзмітрыя Бугаёва выйшла двухтомная «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» для філалагічных факультэтаў універсітэтаў. У гэтым дапаможніку няма манаграфічнага раздзела пра класіка нашай літаратуры Максіма Гарэцкага, але затое пасля раздзелаў, прысвечаных народным пісьменнікам і паэтам, ідзе спецыяльны раздзел пра жыццё і творчасць аднаго з рэдактараў дапаможніка. Як вы здагадаліся, рэдактар гэты — Іван Навуменка.

Народны паэт, народны пісьменнік... Першапачаткова годнасць народных паэтаў была нададзена Янку Купалу (у 1925 годзе) і Якубу Коласу (у 1926-м) спецыяльнымі пастановамі Савета Народных Камісараў БССР дзеля ўшанавання выключных заслуг гэтых карыфеяў перад народам, мовай, культурай. Здавалася б, каго можна паставіць побач з імі? Трыццаць гадоў ніхто не асмельваўся падумаць пра гэта. І вось 27 сакавіка 1956 года былі ўстаноўлены званні «народны паэт» і «народны пісьменнік». За 25 гадоў адзінаццаць чалавек былі аб'яўлены роўнавялікімі (прынамсі юрыдычна) з Янкам Купалам ды Якубам Коласам. Нашы Кірыла і Мяфодзій сталі не выключнымі постацямі, а ў лепшым разе першымі сярод роўных.

У 1962 годзе, праз дваццаць гадоў пасля смерці Янкі Купалы і праз шэсць гадоў пасля смерці Якуба Коласа, мы даведаліся, што ў нас ёсць трэці народны паэт — Пятрусь Броўка. Той самы Броўка, які не даваў ходу кнізе крытыка Рыгора Бярозкіна «Паэзія праўды». Бярозкін, вярнуўшыся са сталінскага лагера, напісаў творчыя партрэты Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі ды Максіма Танка і вырашыў выдаць іх асобнаю кнігаю. Уведаўшы пра гэта, старшыня Саюза пісьменнікаў БССР П. Броўка затрымаў зборнік і запатрабаваў ад крытыка ўставіць у кнігу нарыс і пра ягоную творчасць. У памяці Бярозкіна яшчэ свежыя былі сібірскія ўспаміны, яго двойчы (да і пасля вайны) арыштоўвалі... Карацей кажучы, ён напісаў творчы партрэт П. Броўкі — і кніга ўбачыла свет. Пасля гэтага наіўна гучыць пытанне: няўжо П. Броўка не мог адмовіцца ад высокага гонару быць роўняй Купалу ды Коласу? Званне народнага паэта было патрэбна яму, каб хоць гэткім чынам сцвердзіць перавагу над калегамі.

Калі П. Броўка стаў народным паэтам, дык само сабой паўстала пытанне: а чаму Куляшоў, Панчанка і Танк не народныя? Заўважце, як памяняліся крытэрыі: ужо не да Купалы і Коласа «прымервалі» іншых паэтаў, а да Броўкі. Калі ў народныя пісьменнікі пасля Кандрата Крапівы і Міхася Лынькова рыхтавалі Івана Шамякіна, дык высокія інстанцыі адчулі, што несправядліва было б забыць пра аўтара «Людзей на балоце» Івана Мележа. Гэтае званне было прысвоена ім адначасна. Пасля таго як паспрыялі Андрэю Макаёнку, зноў залунала пытанне: а Янка Брыль, а Васіль Быкаў?

Здаецца, спіс вычарпаны. З 1973 года нікому не прысвоена званне народнага паэта, з 1981 года — званне народнага пісьменніка. Хацелася б верыць, што практыка мінулых гадоў дала нам урокі. Настала пара ўзяць прыклад з братніх усходнеславянскіх літаратур, дзе ні Аляксандр Твардоўскі, ні Міхаіл Шолахаў, ні Леанід Лявонаў, ні Паўло Тычына, ні Максім Рыльскі, ні Алесь Ганчар не мелі і не маюць званняў народных паэтаў і пісьменнікаў. Працягваючы прысваенне гэтых высокіх званняў, мы можам паўтарыць вопыт асобных паволжскіх і ўсходніх літаратур СССР, дзе лік народных паэтаў і пісьменнікаў такі высокі, што гэта нічога, апроч паблажлівай усмешкі, не выклікае.

Калі б сёння годнасць народнага пісьменніка была нададзена каму-небудзь з жывых беларускіх літаратараў, паўтарылася б гістарычная несправядлівасць. У 20—30-я гады званне народных не атрымалі Максім Гарэцкі і Кузьма Чорны — два класікі, два пакутнікі. У 70-я — пачатку 80-х званне народнага пісьменніка не атрымаў выдатны паэт, празаік, драматург і публіцыст Уладзімір Караткевіч, чые заслугі перад народам і літаратурай аніяк нельга перабольшыць.

У снежні 1987 г. вялікая група маладых і сталых беларускіх літаратараў, якая была тады ў Маскве, напісала ліст у Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР з просьбай прысвоіць У. Караткевічу званне народнага пісьменніка Беларусі пасмяротна. Дакумент гэты, апрача літаратараў з Беларусі, падпісалі Ігар Дзядкоў, Тамара Каламіец, іншыя рускія і ўкраінскія пісьменнікі. Копію ліста накіравалі ў прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР — каб там просьбу падтрымалі. У пісьме было сказана, што прэцэдэнт пасмяротнага надання годнасці народнага паэта ёсць у Латвіі. І вось рашэнне прэзідыума праўлення СП БССР: прысвойваць званне народнага пісьменніка пасмяротна не мае сэнсу, але добра было б, калі б была ўстаноўлена Літаратурная прэмія імя У. Караткевіча за творы на гістарычную тэму.

Прэміі — гэта спецыфічны пункцік у свядомасці нашых літаратараў. Нават на леташнім пленуме праўлення СП БССР, дзе абмяркоўваліся пытанні існавання нашай мовы, літаратуры, культуры, нават на гэтым пленуме даўмеліся ўключыць у рэзалюцыю прапанову аб устанаўленні новых прэмій — аж пяці. Нібыта дзякуючы прэміям будзе жыць мова, развівацца літаратура. Калі не прысвойваць У. Караткевічу званне, дык не трэба ўстанаўліваць і прэмію яго імя. Такая мая думка. Ведаю, якія інтрыгі вядуцца вакол гэтых узнагарод. Дык давайце не будзем ублытваць у гэтыя інтрыгі імя Уладзіміра Сямёнавіча.

Але вернемся да галоўнага пытання. Прэзідыум праўлення СП БССР адмовіўся падтрымаць прапанову аб наданні годнасці народнага пісьменніка Беларусі Уладзіміру Караткевічу. Ці можна лічыць гэты акт прэцэдэнтам? Ці значыць гэта, што званне народнага пісьменніка (паэта) больш не будзе прысвойвацца, што ніхто з цяпер жывых і здаровых літаратараў не будзе прэтэндаваць на права стаяць побач з Купалам і Коласам? Калі так, дык нас трэба павіншаваць з выдатным дасягненнем: нарэшце-такі мы ўзялі прыклад з рускіх і ўкраінцаў! Засталося адно: увайсці ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі з прапановай скасаваць Указы ад 27 сакавіка 1956 года. Гэта ж колькі здароўя зберажэцца, колькі энергіі на новыя творы! А калі яшчэ і прэміі ліквідаваць? Дый ордэны пісьменніку навошта? Багушэвіч, Багдановіч, Гарэцкі, Платонаў, Булгакаў, Ахматава нічога гэтага не мелі...



РОК-АРХІЎ




Уладзіслаў АХРАМЕНКА

# «ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ «РОЛІНГ СТОЎНЗ»

Не палохайцеся, яны не памёрлі. Фізічна. Амаль усе яны і сёння яшчэ пішуць музыку, выступаюць у самых прэстыжных залах, запісваюць дыскі. Размножаныя ў тысячах асобнікаў, Джагер, Рычард, Джонс, Уотс і Уаймэн жывыя ў рэкламных плакатах і відэакліпах, на старонках спецыяльных музычных часопісаў і ў сваіх лепшых кампазіцыях. Жывыя, нарэшце, у памяці цэлага пакалення — пакалення шасцідзесятых. Пяць куміраў. Пяць рок-ідалаў. Мік, Кіт, Браян, Чарлі і Біл. Біл, Чарлі, Браян, Кіт і Мік. Аднак смерць «Ролінг Стоўнз» як арыгінальнай творчай адзінкі наступіла ўжо даўно. А нядаўняя заява пастаяннага лідэра Міка Джагера аб тым, што ён выходзіць са складу «Ролінгаў»,— усяго толькі запозненая канстатацыя гэтае смерці.

А пачыналася ўсё ў Рычмандзе ў 1962 годзе, калі ў адным з маленькіх гарадскіх клубаў з'явіліся новыя музыканты. Яны называлі свой гурт «Ролінг Стоўнз» («Камяні, якія коцяцца»), адштурхоўваючыся, напэўна, ад вядомага афарызму: «Камень, які коціцца, мохам не абрастае».

Безумоўны лідэр, вакаліст Мік Джагер быў выхадцам з буржуазнай сям'і сярэдняга дастатку. Яму было дзевятнаццаць, вучыўся ён у Лонданскай школе эканомікі, рыхтуючы сябе да прафесіі клерка. Адным з нямногіх аўтарытэтаў Джагер лічыў Джымі Хендрыкса, чыю выканаўчую манеру будучы канторскі службовец капіраваў з гітараю ў руках увесь вольны ад заняткаў час.

Кіт Рычард — лідэр-гітарыст, піяніст і вакаліст групы, быў тыповы хуліганісты маладзён, просты хлопец з рабочай ускраіны, які дагэтуль багата часу прабавіў у рычмандскіх піўных.

Чарлі Уотс па натуры быў бліжэйшы да Рычарда, чым да Джагера,— асоба без сталага месца жыхарства і пэўнага занятку (апошняя праца перад «Ролінгамі» — нейкае рэкламнае агенцтва). Зрэшты, ён быў добры ўдарнік, а Уотсава мінулае нікога з музыкантаў не хвалявала.

Як нейкая светлая пляма на агульным фоне выглядаў Браян Джонс — гітарыст і саксафаніст. Ён быў падобны да хлопчыка з добрай сям'і, які выпадкова трапіў у «благую вулічную кампанію». Удзел у «Ролінг Стоўнз» вабіў яго магчымасцю практыкавацца «ў знак пратэсту супраць бацькоў» на «рытм-энд-блюзе», які проста палохаў старэйшых людзей — стаўленне іх да яго ў той час было прыкладна такое ж, як сёння да «хэві-мэтал». Але жыццё Джонса трагічна абарвалася.

Бас-гітарыст Білі Уаймэн быў самы сур'ёзны з усіх. У сузор'і астатніх «Ролінгаў» ён лічыўся своеасаблівым невядомым, бо быў жанаты, маўклівы і досыць сарамлівы.

«Ролінг Стоўнз» ігралі ў сваім клубе вельмі папулярны ў той час «рытм-энд-блюз», не думаючы ні пра сусветную вядомасць, ні пра званне «жывых класікаў». І хто яго ведае, ці стала б група тым, чым стала праз колькі гадоў, калі б не сустрэўся на яе шляху прадпрымальны менеджэр Эндру Олдхэм, які адыграў у лёсе музыкантаў такую ж ролю, як Эпштэйн у «Бітлз». Олдхэм да непазнавальнасці раздзьмуў і абвастрыў якасці «Ролінг Стоўнз», якія заўсёды так і выпіралі з іх: імкненне да тэатралізаванага эпатажу публікі, наўмысную «непрыгожасць» музыкі і «амаральнасць» тэкстаў. І калі ў сваіх ранніх песнях «Ролінгі» былі схільныя пераважна да «тынэйджэрскага» «Далоў свет дарослых!», то ў лепшых сваіх кампазіцыях сталі цяпер падымацца да сапраўднага сацыяльнага гучання. Сплаў розуму і жыццёвай мудрасці даў выдатныя вынікі.

У сярэдзіне шасцідзесятых група пераехала ў Лондан, тагачасную Меку еўрапейскага року. За гэты час «Ролінг Стоўнз» далі мноства канцэртаў і інтэнсіўна працавалі ў студыі: з 1963 па 1969 год музыканты запісалі чатырнаццаць (!) альбомаў. Найбольш цікавыя ў мастацкіх адносінах — «Ролінг-Стоўнз-1» (1964), «Не ў нашых галовах» (1967), «Кветкі» (1967), якія заслужана лічацца класікай сусветнай рок-культуры.

У 1965 годзе музыкантаў «з-за драбязы» (захоўванне наркотыкаў) пасадзілі на кароткі тэрмін у турму, адкуль, праўда, іх неўзабаве выпусцілі дзякуючы таму, што за іх заступіўся рэдактар аднаго буйнога лонданскага выдання, які ўнёс пад заклад грошы. Удзячныя «Ролінгі» ў сваім альбоме «Дзеці снежня» * прысвяцілі добраму і бескарысліваму мецэнату адну з кампазіцый.

У канцы шасцідзесятых на змену сузіральнасці і абыякавасці хіпі прыходзяць агрэсіўнасць і актыўнае бунтарства іншых формаў маладзёжнага пратэсту. Лондан, буйнейшыя гарады Брытаніі і многія еўрапейскія сталіцы ператвараюцца ў арэну сутыкненняў прыхільнікаў розных груповак. Хіпізму з яго лозунгам «Любіце, а не ваюйце!» як мага лепей адпавядала музыка «Бітлз». Іх апаненты — больш агрэсіўныя «Ролінг Стоўнз». Відавочна, гэтая акалічнасць дый сам факт адначасовага існавання дзвюх супер-груп спарадзіў своеасаблівую канкурэнцыю, зазвычай нязлосную, аднак часам яна пераходзіла ў адкрытыя выпады. (Згадайце вокладку «бітлаўскага» альбома «Клуб адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера», дзе побач з выявамі вялікіх людзей з васковага музея мадам Цюсо і парадна-дэкаратыўным партрэтам «ліверпульскай чацвёркі» змешчана мурзатая, ускудлачаная лялька з плакатам «Сардэчна запрашаем, «Ролінг Стоўнз»!»

Супастаўляючы сцэнічны імідж групы з мадэллю штодзённых паводзін, міжволі дзівішся іх поўнай ідэнтычнасці. Калі Элвіс Прэслі ўяўляўся разбэшчаным толькі на сцэне, а за яе межамі быў паслухмяным сынам сваіх бацькоў і добрым хрысціянінам, то «Ролінг Стоўнз», паводле характарыстыкі англійскага журналіста Ніколаса Кона, і ў жыцці, і ў промнях пражэктараў выглядалі «гнюсна, размаўлялі гнюсна і былі гнюсныя». Гэта сёння, пасля скандальных канцэртаў «Секс пісталз» ці выступленняў Эліса Купера з ягоным «пякельным шоу», падобныя выпады супраць агульнапрынятай маралі здаюцца адносна прыстойнымі і нават мілымі. У шасцідзесятыя такі імідж выглядаў досыць незвычайна і таму выклікаў агульнае асуджэнне. Блізкай да сцэнічнага вобраза была і музыка — на першы погляд вуглаватая і непрыемная, але па-свойму прывабная. Зрэшты, музыкантаў гэта амаль што не хвалявала. Джагер часта казаў: «Вам не падабаецца наша музыка — каціцеся к чорту!» Дзеля справядлівасці адзначу, што такі эпатаж часцей за ўсё быў не самамэтаю, а толькі дапаўняў мастацкі вобраз — як у вядомай вострасацыяльнай песні «Вулічны баец».

Прыблізна ў пачатку — сярэдзіне сямідзесятых «Камяні» насуперак афарызму спыняюць свой рух, «абрастаюць мохам». Музыка набывае рысы адкрытай камерцыі. «Ролінгі» інтэнсіўна рэкламуюць сваю музычную прадукцыю. У мінулым выдатнай рэкламаю былі скандалы — накшталт апісанага вышэй з наркотыкамі. У час гастроляў 1967 года Джагера знайшоў беспрацоўны журналіст Джон Вінер і, заручыўшыся падтрымкаю Міка, заснаваў аднайменны з групаю часопіс. Нейкі час каля яго групаваліся сілы музычнай «контркультуры».

Хаця мастацкі застой быў відавочны, любыя канцэрты рок-групы праходзілі пры перапоўненых залах і з неадменным поспехам. Ці то гэта было данінаю фанатычнай адданасці кумірам, ці то вынаходлівасць і талент «Ролінг Стоўнз» былі такія вялікія, але так ці інакш музычная крытыка назвала іх «асуджанымі на поспех». Такое становішча працягвалася досыць доўга: альбомы «Чорнае і блакітнае» (1976), «Рок-н-рол Ролінг Стоўнз» (1976) сведчаць пра яўны ўпадак і поўную адсутнасць свежых музычных ідэй, аднак канцэрты 1976 года прайшлі з небывалым трыумфам.

Прыкметы мастацкай дэградацыі адно павялічваліся, калі выйшаў апошні альбом — «Брудная праца» (1986) — безумоўна, адзін з лепшых дыскаў групы за ўсю яе гісторыю. Падкупляе сур'ёзнасць тэкстаў:

Хіба важна апынуцца раней за ўсіх ля кармушкі!
Паказаць, што ў цябе стальныя біцэпсы
і ты дужы хлопец!..
Падумай, дзе праўда, а дзе хлусня...
Гэтак жа праходзіць жыццё!
Разумееш, жыццё!..

(З песні «Бар'ер»)

Але нават «Брудная праца» не змагла паправіць становішча. Адчуваючы, што творчы патэнцыял групы даўно расходаваны, Джагер заявіў пра сваё жаданне выступаць самастойна. І хоць ён бадзёра запэўніў журналістаў, што збіраецца яшчэ папрацаваць з «Ролінгамі», ясна, што з яго выхадам з групы абарвалася апошняя наша сувязь з рок-культурай шасцідзесятых.

* Назва, напэўна, запазычана ў айчыннага «Акварыума», які запісаў аднайменны альбом у 1985 годзе.

THE ROLLING STONES

Нікалас ГІЛЬЕН

# САБАЧЫЯ СПРАВЫ

Нікалас Гільен (нар. у 1902 годзе) — выдатны кубінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, аўтар кніг паэзіі, прозы, эсэ. Творы Н. Гільена перакладзены на шмат якія мовы народаў свету, у тым ліку і на беларускую. У 1978 г. у Мінску выйшла кніга яго паэзіі «Падарожжа да сябе самога» ў перакладзе Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова і Карласа Шэрмана.

«Сабачыя справы» — першы празаічны твор Н. Гільена, перакладзены на беларускую мову.

Безумоўна, вы ведаеце,— сабака сабаку не роўня, і не толькі таму, што яны чорныя і белыя, станістыя і прысадзістыя, тоўстыя і кашчавыя, пяшчотныя і злыя; існуюць два вялізныя блокі, якія зусім выключаюць усякія іншыя асаблівасці: вулічныя сабакі і сабакі пародзістыя. Гэта значыць, дэмакраты, сабакі з натоўпу, і неўрастэнікі, арыстакраты з уласным радавым гербам, ліўрэйным лёкаем і нават шыкоўным аўто каля дзвярэй.

Змалку нас пераконваюць: падобная дыскрымінацыя ўрэшце жыццёвая з'ява. Зразумела, спачатку мы ўспрымаем інакш,— сабакі аднолькавыя, бо ўсе брэшуць, маюць чатыры лапы і круцяць хвастом, будзь яны рыжыя або шэрыя. У тым малечым узросце і людзі аднолькавыя,— маюць на дзве лапы менш за сабак і бавяць час амаль заўжды гарызантальна.

Менавіта грамадства, нашы родныя і сябры, калі хочаце, вучаць нас адрозніваць, падзяляць, і да такой ступені, што неўзабаве мы добра засвойваем, што такое пародзісты сабака, а што вульгарны дварняк. Апрача таго, наўрад ці можна меркаваць, што ў сабачым асяроддзі не існуе сваіх падзелаў, што гэта толькі сумнае рэха чыста людскіх спраў. Нават дапускаю, што сабакі, калі б даведаліся, як іх раздзяляе люд, учынілі б жудасны пратэст, бо ўцямілі б нават сабачым розумам: гэтая махінацыя — частка макіявеліеўскай палітыкі, здаўна сфармуляванай як «падзяляй і пануй».

Што датычыцца нервова-гуллівага дварняка, гэтак распаўсюджанага на белым свеце, дык яго наогул лічаць істотай беспароднай або — у лепшым разе — невядомай пароды, а ягоную суку — чамусьці задужа юрлівай.

З гадамі малапрыемныя агульныя меркаванні адвялі людскую ўвагу і спагаду ад дварнякоў. Са свайго боку магу сказаць: мяне амаль не займае і ўвогуле не турбуе, што вулічны сабака — благой пароды або беспародны, як кажуць. У маіх вачах ён сімвал народнага ў сабачай суполцы, сімвал самаахвярнай працаздольнай масы, якую складаюць мільёны невядомых асоб, а якраз яны паступова і цвёрда ствараюць хоць і сабачую, але гісторыю. І наадварот, пародзісты сабака ўвасабляе сабачую арыстакратыю, якая прывілеямі ўзвысілася над прыгнечанай большасцю.

Тут я хачу акрэсліць дзіўную акалічнасць, якая вымушае задумацца. У мяне сябра — аматар сабак, але толькі дарагіх, пародзістых. Гэта чалавек шырокае натуры, дужа ліберальных крытэрыяў у адносінах да людскіх спраў. Ён няздольны адрозніваць чорнага чалавека ад белага або двараніна ад плебея, бо лічыць — і можа прывесці шматлікія доказы гэтага,— што ўсякі чалавек — прадстаўнік чалавецтва. Аднак мой сябар не пераносіць вулічных сабак, яго гідзіць шумны дэмас, якім з'яўляецца, скажам так, сабачы народ.

Часцяком я задумваўся над гэтым і прызнаю: я не знайшоў задавальняючага тлумачэння факту. Нашто абсурдны падзел жывёлін, якіх мы не прызнаём сярод падобных да сябе, упэўненыя ў навуковай фальшывасці падзелу? Чаму мы сцвярджаем, што ў сілу сваёй расавай прыналежнасці бульдог ці фокстэр'ер разумнейшы за наіўнага гаўкалу, які сустракае нас на кожным кроку? З якой нагоды мы мяркуем, што сярод сабак ёсць асобы накшталт чыстакроўных арыйцаў, калі мы, людзі, пралілі кроў мільёнаў, каб раздавіць Гітлера? Адно з двух: або расавая перавага існуе, або гэта лухта, і не толькі для людзей.

Ясна, што апошняе якраз справядліва, пра гэта сведчыць навука, таму нельга згаджацца з тым, што пародзісты сабака выключна дзякуючы пародзе лепшы за вулічнага ў агульным балансе сваіх здольнасцей і магчымасцей. Гэта азначала б прымаць за ісціну, што кароль ці імператар з моманту нараджэння абавязкова лепшы ў сэнсе здароўя і розуму, мускулаў і здольнасцей у параўнанні з чалавекам «з вуліцы», непрыкметным сярод сціплых, як ён, грамадзян. Больш таго: калі няма ніводнага навуковага доказу супраць, трэба прызнаць заўсёды і без ваганняў, што прадстаўнікі «вуліцы» — лепшыя, бо, да таго ж, яны пазбаўленыя дэфектаў, праз якія героі з уласным гербам, як правіла,— істоты кволыя і хваравітыя, схільныя да гемафіліі і паралічу.

Думаю, што гэта таксама датычыцца і сабак, сабачых ганарлівых каралёў і самых сціплых «падданых» сабачай суполкі.

Перш за ўсё вулічны сабака фізічна і духоўна заўсёды больш натуральна існуе ў прыродзе, чым любы сабака з «імяністай сям'і». Характарам дварняк сціплы, непераборлівы, ён прыносіць хоць якія радасці беднаму люду. Яго падбіраюць недзе на вуліцы або, калі беспародная (!), непрэтэнцыёзная сучка ашчанілася ў хаце, гаспадары раздаюць сябрам шчанюкоў: маўляў, не тапіць жа іх. І не трэба тлумачыць, што такі сабака падбіраецца ці прымаецца толькі тады, калі ён маленькі, бо менавіта тады новы гаспадар і прыкіпіць да яго душой. Нікому не прыйдзе ў галаву падарыць дарослага дварняка, а вось пародзістага сабаку можна, і гэта здараецца даволі часта. Наша сучаснае выхаванне дапускае, што ў любы момант бульдог — цудоўны падарунак, а дварняка прымаюць,— і то неахвотна,— калі грацыёзнасць яшчэ ратуе яго ад пагардлівых адносін, якія ўласцівыя людзям з расавымі перажыткамі нават у дачыненні да жывёлін.

Гэтак дварняк трапляе шчанюком у сям'ю, якая падвярнулася выпадкова, а гэта значыць, трапляе ў рукі хлопчыкам ці жанчынам. Але ставіцца да яго без асаблівае ласкі: усё ж ён не пародзісты. Так ці інакш, ласка працягваецца нядоўга, першыя месяцы жыцця, пакуль яму наліваюць малако ў бляшанку і ён яшчэ бездапаможны, коціцца, як мячык, у спробах тупаць самастойна.

Як толькі дварняк нажыў мускулы і навучыўся валодаць хвастом, каб пакруціць ім перад кім спатрэбіцца, яму даюць волю, прадстаўць адкрыццё вуліцы, якая да скону будзе арэнай дварняковых подзвігаў і дзе, зразумела, дварняк расце дужы, універсальна ўмелы.

З самай раніцы і да глыбокае ночы гойсае ён сюды-туды, заняты жывымі праявамі сваёй існасці ў шалёным пошуку прыгод і заманлівых перспектыў, у прадбачанні будучыні, нерэалізаваных магчымасцей.

Вядома, падобнае прыгожае існаванне таксама небяспечнае, бо чалавек — не тая жывёла, побач з якой можна жыць бяскарна. Першая перашкода, якая чакае дварняка,— гэта хлапчукоўская агрэсіўнасць, бо хлапчукі, як і дварняк, дзеці вуліцы, іх шкоднасць непасрэдна залежыць ад жыццёвых абставін, якія прапануе ім асяроддзе. Дварняку ў Гаване ці Мантэвідэо, напрыклад, лягчэй уцякаць ад дзіцячых камянёў, чым сабрату-правінцыялу, бо ў глыбінцы ўсе вуліцы яшчэ без асфальтабетоннай апраткі і забяспечваюць дзятву снарадамі ўдосталь, тады нельга дварняку разлічваць на літасць: там б'юць дакладна і насмерць.

А другая перашкода найцяжэйшая,— за лета дварняк можа загінуць ганебна. Ужо на пачатку вясны хоць адна нізкапробная газеціна ды заводзіць гаворку пра гідрафобію. Як па ўзмаху чарадзейнае рукі, узнікае жудасная статыстыка пра людзей, якія сканалі ад сапраўды жахлівай хваробы, «сур'ёзны» друк спасылаецца на вопыт Злучаных Штатаў у галіне антыгідрафобнай прафілактыкі шляхам бязлітаснага, масавага забойства сабак, пакуль аднаго разу не выдаецца санітарны ўказ пра вышук і захоп у с і х вулічных сабак з мэтаю канчатковага знішчэння.

У пачатку стагоддзя, калі я быў хлапчуком, забівалі сяброў чалавека дужа проста. Санітарныя служыцелі выходзілі на паляванне, але без стрэльбаў,— яны везлі посуд з вавалкамі атручанага стрыхнінам мяса. Як толькі бачылі сабаку, кідалі яму д'ябальскую ежу, і няшчасны канаў сярод вуліцы ў жорсткіх канвульсіях пад дзікі і азартны гвалт дзятвы. Сапраўды мярзотнае відовішча.

І сёння сабакам не даруюць жыцця, але «збавіцелі» дзейнічаюць куды больш тэхнічна. Яны збіраюць іх у спецыяльных грузавіках і імгненна душаць ахвяр газам. Відавочна, гэта гітлераўскі спосаб.

А вось і іншая праблема: ці прымальныя для сабакі вулічныя ўмовы, для нас ганебныя і прыніжальныя, у якіх ён вымушаны любіць і працягваць род, без пяшчотнай інтымнасці, патрэбнай усім істотам на свеце дзеля шанавання вечнага і універсальнага прынцыпу жыцця? Хто ведае! Мусібыць, сабака і не думае пра гэта. Але вы можаце прызнаць са мною, што ў яго вачах любоў таксама мае асабісты сэнс, яго ны сэнс, які ён шукае, і ў такім разе дварняк не абмежаваны, як пародзісты сабака, любоўю лабараторнай, дазіраванай капрызамі самнамбулічнага гаспадара, які імкнецца захаваць тое, што ён называе чысцінёю расы, бычам бо ён мае справу не з сабакам, а са звычайным немцам часоў трэцяга рэйха.

Мне прыгадваецца выпадак, пра які чуў ад добра знаёмай жанчыны, жанчыны дужа шчодрай натуры, але ў галіне сабачых спраў з пэўнымі арыстакратычнымі адхіленнямі. Тая дама мела грацыёзную пародзістую сучку, пекінку, як яна абсалютна сур'ёзна сцвярджала. Пекінка дайшла да ўзросту, калі ёй трэба было аддаць сэрца таму, хто яго заслугоўваў, і мая знаёмая прайшла праз такія жорсткія выпрабаванні, што іх цяжка ўявіць. Што яна магла рабіць? Адпусціць сучку на волю, каб на вуліцы яна знайшла мужчыну, гэта значыць, сабаку, якога падкінуў ёй лёс? Ніколі! Гэтак пекінка магла стаць проста шлюхай або без вопыту аддацца першаму кавалеру-прайдзісвету, які, як толькі даб'ецца свайго, абыдзецца з ёю, мярзотнік, без належнай пашаны да высакароднага паходжання выпадковай палюбоўніцы. Гаспадыня ўрэшце вырашыла шукаць ёй такога ж пародзістага мужа, як прынята сярод блакітнакроўных прынцаў і прынцэс, і гаспадыні ўдалося наняць



сабачага прынца, праўда, за тадышняе песа* на тыдзень.

У першыя дні ўзніклі нечаканыя перашкоды, якія маглі звесці шлюб на нішто, бо новаспечаны муж мексіканскай пароды чыўаўа, маленькі і без поўсці, не выклікаў у пекінкі аніякіх эмоцый. І гэтак настойвала мая шаноўная знаёмая, гэтак мудра іх зводзіла,— а дапамагала яна, трэба дужа, цярпліва, бо іншага выйсця яна не бачыла,— што ў рэшце рэшт усё ўладзіла. Яго прыводзілі кожную суботу, ён сумленна выконваў шлюбныя абавязак, і ўсе справы. Праз пэўны час пекінка зацяжарала, але бяда здарылася пазней, калі яна ашчанілася.

Мая знаёмая расказвала, што ад такой гвалтоўнай любові, ад прымусу сэрца, якое марыла пра іншага спадарожніка жыцця, паявіўся на свет боскі такі вырадак, такі непрыгожы і няўклюдны вырадак, што быў ён хутчэй падобны на нейкага маленькага і страшнага вярблюда, толькі не на спрытнага пародзістага шчанюка, аб якім марыла гаспадыня, пакуль ён яшчэ жыў у ласкавай цемры мацярынскага лона. У выніку гаспадыня як мага хутчэй пазбавілася ад яго: шчанюка адправілі ці то ў клініку, ці то ў інтэрнат, дзе за невялікую плату жывуць забытыя богам і людзьмі няшчасныя сабакі.

Падобная перашкода ніколі не пагражае дварняку, яго неабсяжная любоў і шырокая натура добра вядомыя ўсім. Што яму з таго, што шкура ў каханкі не падобная на ягоную шкуру, ці яна крыху бялейшая або чарнейшая, ці ногі карацейшыя або даўжэйшыя? Яму дастаткова, каб уражвала пяшчота ў яе голасе, каб кранаў сэрца асаблівы рытм у рухах яе хваста. Безумоўна, дварняк — мудры сабака. Пазбаўлены бязглуздых перажыткаў. Вось гэта сапраўдны сабака.

І гаварыць не хочацца пра супрацьлегласць дварняка,— гэта дарагі пародзісты сабака, распешчаны арыстакрат. Ён, зразумела, сабака для багатых, у яго розныя маніі і бескарысныя патрэбы ад благога выхавання. Сабаку-бедняка і карміць не трэба,— ён выходзіць з дому і здабывае костку сваю надзённую, а пародзісты сабака патрабуе спецыяльнай дыеты, якую вам неабходна паднесці яму, як кажуць, да самае пысы.

Я чалавек бесстаронні, але калі лёсу будзе да душы і здарыцца народная рэвалюцыя ў сабачай супольнасці, вулічныя сабакі возьмуць уладу ў свае лапы, а пародзістыя арыстакраты страцяць усялякія прывілеі і апынуцца на вуліцы, я ўпэўнены, яны не здохнуць з голаду, яны знойдуць, як здабываць сабе ежу, і сведкі таму — сапраўдныя прынцы ў выгнанні. Гэта і служыць доказам, што пародзістыя сабакі не маюць права атрымліваць пяшчотна ў пысу, не адышоўшы нават ад канапавай падушкі, тое, што сціплы бядняцкі сабака шукае ў вечнай барацьбе і абараняе іклямі ў свяце смеццязборнікаў і калавечых аб'едкаў.

Другая праблема, якая ўзнікае з пародзістымі сабакамі,— гэта іхняя прырода. Яны, як правіла, хваравітыя. Ад аседлага жыцця ў іх частыя колікі, яны схільныя да катараў з-за нязначнай змены тэмпературы, асабліва гарадскія арыстакраты, якія жывуць у шыкоўных кватэрах ці асабняках. Бывае, хварэюць на падагру, артрыт і рэўматызм з прычыны бесклапотнага жыцця.

Калі ў вулічнага сабакі расстройства здароўя, ён, як і ягоны гаспадар, які часцей не мае магчымасці лячыцца, лечыцца сам, па-свойму,— жуе адно яму вядомыя зёлкі, і тае бяды. А пародзістаму сабаку патрэбен спецыяльны догляд, звышскладаная фармакапея, а ўсё гэта, як і людзям, толькі падаўжае хваробы. Колькі ветэрынараў абагаціліся каля вяжлястага прынца ці памеранскага барона!

Ёсць яшчэ адна значная асаблівасць у пародзістых сабак,— ім увачавідкі не стае універсальнасці. Яны духоўна прастралінейныя, поле актыўнае дзейнасці ў іх дужа абмежаванае. Ведаю, вы зараз прыгадаеце знакамітага напалеонаўскага Мусташа, які перахапіў у аўстрыйскага салдата сцяг французскага палка ў Аўстэрліцкай бітве. Дык і што з таго? Мусташ не ведаў, што той кавалак прыгожай матэрыі быў сцягам, а калі б ведаў і ратаваў не адзін, а дзесяць сцягоў у кожнай бітве, будзьце ўпэўнены, нічога іншага ён не ўмеў бы ў жыцці.

Сабака-сышчык, напрыклад, можа ганарыцца дзівосным нюхам, ён знаходзіць і выдае крымінальнікаў, але толькі гэта і ўмее,— дужа мала і надта сумна. На працягу незлічоных пакаленняў яго гадавалі і рыхтавалі да праследавання людзей, ён існуе ў баку ад вялікага народнага рытму, абыякавы да энергічных і прароцкіх сабачых мас з больш шырокім бачаннем жыцця ў нашым агульным доме.

Ці не выклікае адчайнага абурэння цэлы легіён напарфумаваных пакаёвых сабачак, сапраўдных еўнухаў сабачага сямейства, якія валакуцца за прыгожанькім ланцужком рабаўладальніцы, інфантыльна-пыхлівай гаспадыні? Жахліва бачыць цела пародзістага сабакі, дэфармаванае ад ляноты, ад вечнай канапавай падушкі або проста ад дэфектаў з-за адвольных злучак насуперак любові. Яны — як каралеўская сям'я, сабачая каралеўская сям'я. Гэтак, як і прынцы, яны сумна разглядваюць неба, вулічны бруд, дарожных паліцэйскіх, вялікую плошчу, поўную дзяцей, нібы на самотным схіле дзён. У іх не сапраўдны характар, бо залежыць ад дробных абставін, што кідаецца на вока нават самаму сціпламу дварняку. Нібыта зробленыя магнатам паводле свайго вобраза і падабенства, дагледжаныя, вытанчаныя, яны складаюць вядомую гультаяватую праслойку, якая таўсцее і жыве без пакут, пакуль сабачаму народу шанцуе, як таму Каіну, у жахлівай барацьбе з жыццёвымі супярэчнасцямі. Цяжка і тое, што маленькія пародзістыя жывёлы могуць запаліць вялікія страсці ў сэрцы шмат якіх жанчын, чыё прывольнае эканамічнае становішча дазваляе... не мець дзяцей, але ім здраджвае мацярынскі інстынкт, і ўрэшце яны пераносяць няздзейсненую пяшчоту на іншы аб'ект, не здольны прычыніць, як сын ці дачка, значнага клопату.

Летась я прачытаў, што ў Канадзе адна манрэальская дама вярнулася дахаты пасля нядоўгага шпацыру па горадзе. Яна спыталася, як яе сабака, нервовы фокстэр'ер дужа чыстай крыві, і збянтэжаная служанка адказала ёй, што, на вялікі жаль, сабака здох,— на вуліцы наехала на яго аўто. Тады дама зачынілася ў сваім пакоі, і яе дасталі адтуль праз колькі

**Заканчэнне на стар. 42**

* Песа — грашовая адзінка на Кубе.

**Алена САЗАНОВІЧ**

# СКАРОЧАНЫЯ ШТАТЫ

*Іранічны эцюд*

— Вой, яна зусім дзяўчынка!

— Вопыту — аніякага.

— Замуж скора...

— А радзіць калі?

— На кватэры жыве...

Зусім Дзяўчынка дарослым голасам выпаліла (ужо каторы раз):

— У мяне ёсць муж, прапіска, свая кватэра, свае дзіця і радзіць у блізкім часе не збіраюся.

— М-гг, але ж вы разумееце...

— Разумею. Яшчэ, можа, вам зубы паказаць? — Зусім Дзяўчынка вышчарыла зубы.— А ногі? — і яна падсмыкнула спаднічку.— Га-а...

— Вы — хамка!

— А вы радзіць не збіраецеся? Вось вы асабіста радзіць не збіраецеся? — Зусім Дзяўчынка наступала на нагу цётцы, якая ўжо даўно дзяўчынкай не была.— А які ў вас метраж кватэры? А муж да другой не бегае? Ці вы старая дзеўка, пардон, пані? А вечарамі ў пустым метражы халадно, мусіць, га? А той усё не прыходзіць. І радзіць ужо позна... І вы курыце... І часам чарачку таго?..

І Зусім Дзяўчынку шуганулі за дзверы. Яна разгледзелася і зразумела, што ісці больш няма куды. Побач былі толькі дзверы, за якія яе шуганулі. «Сур'ёзныя дзверы. Нават узнатужыліся ад важнасці».

— Паслухайце,— сказала яна дзвярам,— а што такое скарачэнне штатаў?

— Скарачэнне штатаў — гэта скарачэнне непрыдатных да работы адзінак,— сказалі Дзверы Зусім Дзяўчынцы.

— А калі адзінка яшчэ не рабіла, а яе ўжо скарацілі? У памяці. Дык што тады скарачэнне штатаў?

— Не ведаю,— паціснулі плячыма Дзверы.— Спытайся ў Міліцыянера. Вунь ён унізе стаіць, не прапускае чужых. Сама разумееш, ці мала чаго там — бомба, халодная зброя. Ворагаў — процьма. А тут адказныя органы. А Міліцыянер усё ведае. І пра чужых і пра нечужых.

Зусім Дзяўчынка падышла да Міліцыянера і спыталася:

— Скажыце, а куды ідуць скарочаныя штаты?

— Туды, дзе яны прыдатныя.

— Скажыце, а куды ісці адзінцы, пра якую невядома — прыдатная яна ці не? Але ўжо скарочана.





— Не ведаю. Ідзіце вунь за тыя дзверы. Там ведаюць усё.

— Адтуль мяне шуганулі. Ну як я ім удзяўбу, што не збіраюся радзіць. Самі разумееце, справа тонкая — тут не збіраюся, а там...

— Бывайце здаровы,— сказаў Міліцыянер і ветліва паказаў на другія дзверы. Дзверы — на вуліцу. У кожным разе куды больш ветліва, чым за тымі вунь (цс-цсс) дзвярыма.

Зусім Дзяўчынка апынулася на вуліцы. Зрэшты, не першы раз. На двары падаў снег. І дзеці кідаліся снежкамі. Дзеці стралялі снежкамі. Хто цаляў у грудзі. Хто — у вуха. Хто — у галаву. І весела смяяліся, калі каторае пацэльвала. От гарэзы! Зусім Дзяўчынцы снежка трапіла проста ў скроню. Яна азірнулася і ўбачыла, як смяюцца дзеці. «Гэта добра, што смяюцца. Значыцца, у іх шчаслівае маленства. І гора яны не ведаюць. Харошая змена расце»,— з гонарам падумала Зусім Дзяўчынка. І пайшла далей.

— Цётачка, табе баліць? — за ёю бег маленькі хлопчык, які страляў ёй у скроню.

— Я ж яшчэ Зусім Дзяўчынка,— сказала Зусім Дзяўчынка.

— Якая ж ты дзяўчынка. Ты во якая доўгая. І на абцасах ходзіш. Ты — цётка.

— І ўсё ж бо ты ведаеш...

— Я ўсё ведаю. Я — разумны хлопчык. На алімпіяду пасылаюць.

— У Паўднёвую Карэю, аж туды?

— Чаму ў Паўднёвую? — абурыўся Разумны Хлопчык.— Там нашы ворагі жывуць. Мяне пасылаюць на школьную алімпіяду. У школе — сябры. У школе ворагаў не бывае.

— А скажы, калі такі разумны: калі канчаеш універсітэт, а працы няма, што рабіць? Паскарачалі ўсіх, разумееш?

— А-а-а-а. Скарачэнне штатаў — гэта вельмі важны крок нашай дзяржавы.

— Куды крок?

— Як куды? А яшчэ універсітэты канчала. Крок да вызвалення ад непатрэбных адзінак.

— А мне, адукаванай і нявыпрабаванай адзінцы, куды падзецца?

— Куды? — Хлопчык пачасаў у патыліцы.— Разумееш, увогуле я, каб ты ведала, разумны. Але пахіба такая... акуляраў мне яшчэ не прапісалі. Каб гэта акуляры,— Разумны Хлопчык замроена пацмокаў языком,— во, тады б яно — ого. Я б на ўсе пытанні адказаў. А без акуляраў якія адказы? Ідзі лепш да майго брата. Ён — у акулярах. Ён усё ведае. Наскрозь ведае.

Хлопчык даў братаў адрас.

Дзверы адчыніла будка. У цёмных, як у металістаў, акулярах. І ў барадзе. Увогуле — так сабе.

— Я ад вашага брата малодшага,— сказала Зусім Дзяўчынка.— Ён — разумны хлопчык. Даваў галаву на адрэз, што вы паможаце мне з працай.

— Валяй сюды,— акулярысты брат увалок мяне ў свой пакой.— З працай, кажаш? А на фіг табе тая праца, скажы папраўдзе. Кватэра ёсць? Ха. Жыві і радуйся. Мужык ёсць? Ха. Дык во ён няхай і зарабляе. Дзеці ёсць? Ха. І гадуй на здароўе.

— Увогуле я б хацела прыносіць грамадству карысць...

— Ха. І без цябе панапрыносяць, ёсць каму. Нават лішнія паявіліся. Ведаеш, колькі ўжо лішніх выперлі?

— Ведаю. Але ж на маю вучобу столькі грошай пайшло. Я ж закончыла...

— Універ? І файна! Ім грошай не шкада — ты чаго шкадаваць мела? Не будзь дурная. Адукацыя ёсць? Кніжкі чытаць умееш? Чытай. Пісаць навучылі? Пішы. Раніцай — у цырульню. Увечары — у басейн. Прынось карысць сабе, калі грамадства ад цябе адмовілася. Адным словам, лаві кайф. Хочаш, увечары разам злові̇м. Я і пляшачку прыхаплю.

— Ды не. Такі кайф я ўжо ў студэнцтве злавіла. Больш не хачу.

— Ну, тады будзь. Зрэшты, я магу табе работку параіць. Але ты да яе яшчэ не гатова. Зусім дзяўчынка.

Зусім Дзяўчынка цягалася па горадзе. І думала, што жыццё цудоўнае. Гэта было шчаслівае дзяцінства. А цяпер шчаслівая маладосць. А заўтра будзе яшчэ шчаслівейшая старасць. У нас жа няма няшчасных людзей, нават калі яны не могуць прыносіць карысці грамадству.

За Зусім Дзяўчынкай плялося, апусціўшы галаву, шчаня. І скуголіла.

— Чаго ты скуголіш? — спытала Зусім Дзяўчынка.

— Скарацілі,— адказала Шчаня.— У будзе месца ўсім не хапіла.

— Значыцца, ты непрыдатны,— сказала Зусім Дзяўчынка.

— Ды я ж толькі ўчора нарадзіўся. Як можна даведацца — прыдатны я ці непрыдатны.

— Радуйся, што не ўтапілі.

Шчаня падумала, што яму і праўда трэба радавацца. І ўсміхнулася Зусім Дзяўчынцы. Зусім Дзяўчынка таксама ўсміхнулася. Так яны стаялі і ўсміхаліся адно аднаму.

— Ты знаеш, мне вельмі крыўдна, — усміхнулася Шчаня.

— І мне,— усміхнулася Зусім Дзяўчынка.

— Я нікому не патрэбен,— усміхнулася Шчаня.

— І я,— усміхнулася Зусім Дзяўчынка.— Ты пра лішніх людзей чытаў? Пра Пячорына там? Ну, пра Анегіна? Мы ў школе праходзілі.

— Ты хоць людзь. А я лішні, і да таго ж — сабака. І нічога не чытаў.

— А ў мяне ёсць дачка,— сказала Зусім Дзяўчынка,— яна зусім маленькая. І таксама чытаць не ўмее. Хочаш, пазнаёмлю?

— Хачу. А яна не кусаецца?

— Часам. А ты яе не злуй. Яна і не ўкусіць. І, па-мойму, мы ёй вельмі патрэбныя.

— А твая донька — гэта не грамадства?

— Што ты! Мая дачушка добрая. Кучаравенькая. Вясёлая. Любіць, каб многа людзей было ў доме. Так што скарачэння нам баяцца няма чаго. Яна прыбаўленню заўсёды радая. І яшчэ яна ведае ўсіх звяроў.

— І мяне?

— Цябе найсамперш.

Зусім Дзяўчынка і Шчаня ішлі вуліцаю і ўсміхаліся. Зусім Дзяўчынка ўбачыла знаёмыя дзверы. З іх выйшаў натоўп людзей. Яны ішлі пабраўшыся за рукі і спявалі.

— Пра што яны спяваюць? — спытала Шчаня.

— Пра тое, як дрэнна апынуцца на вуліцы. Ды яшчэ зімою.

— Гэта праўда — дрэнна. Можа, возьмем іх з сабою?

— Ай, не. Нам не па дарозе. Іх ужо ўсіх памацалі на непрыдатнасць, а нас не. Хоць я і прасіла.

Зусім Дзяўчынка ўбачыла за шклянымі дзвярыма Міліцыянера. «Усё нескарочаных ахоўвае»,— падумала яна. За міліцыянерам яна ўбачыла другія дзверы. А за тымі дзвярыма...

— Ты звягаць умееш? — спытала Зусім Дзяўчынка у Шчаняці.

— Ай, так сабе.

— Шкада.

«Зайсці мо, крыкнуць ім, што надумалася радзіць? І многа. Што на ўсе будучыя скарачэнні нараджаю»,— падумала Зусім Дзяўчынка.

— Ты ведаеш,— сказала Шчаня,— я, калі ўзлуюся, магу і падзяўгаць, і пазвягаць. Нават уголас.

— Не варта. Міліцыянера шкада. Напалохаецца. А ён ветлівы. Да таго ж яго неўзабаве скароцяць. Ахоўваць жа няма чаго...

Пераклаў з рускай
Васіль СЁМУХА

Мал. Валерыя РУЛЬКОВА



# САБАЧЫЯ СПРАВЫ

Заканчэнне. Пачатак на стар. 37

гадзін нежывую,— яна атруцілася моцнаю дозай мыш'яку.

Другая дама вырашыла купіць сабе аўто. Яна выбірала якое хацела. Аспрэчвала з марудлівым задавальненнем цану, пыталася пра максімальную хуткасць, пра тое, ці ўдасца ёй знайсці шафёра, чый колер вачэй гарманічна стасаваўся б з афарбоўкай машыны. Раптам пакутлівы клопат прымусіў яе загаварыць пра іншае.

— Але, вы людзі, спрактыкаваныя ў гэтых справах, дык скажыце,— спытала яна ўрэшце,— што рэкамендуеце мне для вячэрняга аўтапраменаду: хлопчыка ў касцюмчыку матроса ці сабаку-сышчыка?

Не ведаю, можа, чытач любіць, як і я, тупаць па горадзе без пэўнага кірунку, не шукаць горад, а чакаць, калі горад сам праявіцца і выйдзе насустрач. Гэтая справа павучальная і гігіенічная,— не толькі спальвае тлушч і лашчыць мускулы, але таксама стымулюе працу душы. Гэтак любы хоць крыху назіральны чалавек знаходзіць шмат жывога матэрыялу для разважання, мімаходзь занатоўвае ў памяці кантрасты, бязглуздзіцы, супярэчнасці сярод стракатага натоўпу, які складаюць так званыя п е р с о н ы,— і чаму мы іх так называем, відаць, ніколі ўжо не ўцямлю.

Тады вуліца ўзнікае перад вачыма, як загадкавая кінастужка, у якой геній выдатнага рэжысёра сучаснасці намяшаў розных сітуацый. Жабракі без здароўя і ўдачы, якія зычаць абыякавым прахожым таго, чаго самі не маюць; людзі, замкнёныя на ўсе замкі, вочы якіх гараць ад павышанай тэмпературы нікчэмнага бізнесу; пустыя аўто амаль на суткі каля дзвярэй банкаў з тытуламі на англійскай мове; інваліды без ног у нізкіх, на ўзроўні чужых ног, калясках; і, перш за ўсё, жабракі з дзецьмі. Але гэта не ўсё... Малы абадранец з крыху бо́льшым абадранцам; бруднае, у слязах немаўля на руках у беднага хлопчыка, які глядзіць, але не бачыць, у адчаі прыціскае да сябе камячок жыцця.

Пакуль вы не ўцяклі з вінаватым жэстам забойцы, якога збянтэжыла раптоўная сустрэча з трупам ахвяры, вы не можаце не спыніцца, не паглядзець і не ўцяміць убоства. Аднак некаторыя з прахожых так і не прыпыняюцца, ім перашкаджаюць тыя, хто сваім выглядам псуе стравaванне, тыя, хто неўзабаве прыткнецца дзесьці спаць наогул без свайго стрававання. Прахожыя ўцякаюць, заплюшчваюць вочы, як толькі ўбачаць лахманы, і нават загадзя пераходзяць вуліцу, даюць кругаля, толькі б не ўбачыць жахлівага відовішча.

Папраўдзе, толькі чысты перад імі чалавек можа глядзець у вочы болю і наблізіцца без баязлівай успрымальнасці. Толькі той, хто не здольны на самагубства з-за таго, што здох сабака, можа падысці і весці просты, натуральны дыялог з самой чалавечай пакутай. Дабрачынная дзейнасць, і гэта здаўна вядома,— часцяком дзейнасць пыхліўцаў, дзеля дабрачыннага выгляду, каб умываць рукі дый твар, а яшчэ з асалодай слухаць воплескі грамадства.

Але ўсё ж магчыма наблізіцца без пыхлівасці, ілжывай дабрачыннасці да тых гаротных прывідаў, хоць баюся, што сур'ёзная прапазіцыя прымецца за дурны жарт. Думаю на самай справе, што было б карысна зрабіць падрабязны перапіс, які б высветліў, колькі жанчын мае дзяцей, але не можа іх утрымаць і выхаваць, і колькі іх мае пародзістага сабаку,— ці аднаго!,— якога яны кормяць, захінаюць і шыкоўна апранаюць узімку, купаюць і асвяжаюць улетку, абуваюць і апырскваюць дарагімі парфумамі ўвесь год. Перапіс патрэбны хуткі, без ускладненняў. У ім толькі адно пытанне: «Пані, каго вы лічыце за лепшае мець: дзіця ці сабаку?» І паслухаць адказ. Сабаку? Цудоўна. Запісваем гэта ў належную калонку — у сабачую графу. Дзіця? Тое ж самае, але запісваем у калонку людскую. І нічога болей... Рашэнне напрошвалася б пасля падліку. Таго, хто аддае перавагу сабаку, трэба ўсё ж схіліць да выхавання беднага дзіцяці з вуліцы... ну, а тым, хто палічыў за лепшае дзіця... зразумела, пярэчыць не станем, бо прызванне да мацярынства — найсвятлейшае імкненне душы.

Ведаю, знойдзецца такі, хто ўпікне за вытанчаную жорсткасць да сабак. Тае бяды. Я ўпэўнены ў іншай магчымасці: знойдуцца і досыць гераічныя людзі, яны мужна сустрэнуць удар, страту бяскрыўднай рабалепнай жывёліны, і за тое будуць мець нязручнага чалавечка, патрэбы якога растуць з дня на дзень. Але нават гэтак, жорсткасцю будзе зусім іншае. Трэба ўцяміць нарэшце, што азначала б для тых распешчаных сабак, тых вязняў гаспадаровай ласкі, займець волю, вулічнае шчасце лётаць па горадзе, жыць ад сапраўднай бядняцкай дабрачыннасці, спаць дзе захочацца — ці то ў цёмным завулку, ці то далей, каля склада якога ці стайні. Хто ведае! Не было б дзіўным, урэшце, што так званае «сабачае жыццё» было б для іх здаровым і зайздросным «дзіцячым жыццём». Напэўна, зло — гэта не даваць ім жыць як сабакам, а рабіць ім жыццё нямулкім.

Карысна было б наладзіць невялікі і бяскрыўдны эксперымент, памяняўшы крыху ролі. Чаму не ўладкаваць групу дзяцей у тых дамах, дзе ў прывілеяваных умовах жывуць дарагія і гультаяватыя сабакі-арыстакраты? Безумоўна, я ведаю, няма немаўлят памеранскай ці тэраноўскай пароды, але мо гэта прымусіць нас падумаць і прыгадаць, што шмат чалавечых дзяцей — у адчаі, галодныя, хворыя, проста кінутыя чалавецтвам? У рэшце рэшт, як заўсёды, справа ў тым, каб пачаць. На тым шляху з цягам часу мо і ўспрымецца натуральна самагубства з прычыны скону любага дзіцяці, а мо і ўвойдзе ў моду выйсці на вячэрні аўтапраменад з добра накормленым і апранутым, прыгожым, як кветка надзеі, двухгадовым дзіцем на пярэднім крэсле каля шафёра.

1945

**Пераклаў з іспанскай Карлас ШЭРМАН**

Перакладзена з выдання: Guillén, Nicolás. Perros satos y perros finos.— La Habana, «Unión», 1977, № 4.



## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

Мне 20 гадоў. Захапляюся рок-музыкай і хачу знайсці сяброў, таксама неабыякавых да року. У нашым горадзе адчуваю сябе адзінокім, бо ўсе навокал — прыхільнікі «хвалі». СПІРЫДОНАЎ Вячаслаў, 213500, Магілёўская вобл., г. Крычаў, вул. Ціміразева, 2, кв. 46.

Мне 16 гадоў. У 13 гадоў я ўпершыню села за руль матацыкла і ўжо не ўяўляю сваё жыццё без рызыкі і хуткасці. Хацела б пашырыць кола знаёмстваў, якія маюць такое ж захапленне. ПАЛЯКЕВІЧ Іна, 222611, Мінская вобл., Нясвіжскі р-н, п/а цукровага завода, вул. Церашковай, 7/15.

Мне 23 гады. Нядаўна пасяліўся ў Маладзечне. Горад гэты невялікі, увечары і ў выхадныя моладзі няма чаго рабіць, таму я часта езджу ў Мінск. Хацелася б пазнаёміцца з мінчанкаю, прыемнай дзяўчынаю, з якой можна было б пайсці ў тэатр, у кіно, на выставу і, галоўнае, цікава пагаварыць. КАРАСЬ Вячаслаў, г. Маладзечна-7, а/я 633.

Мне 19 гадоў, вучуся ў педінстытуце. Люблю вясёлыя кампаніі і адзіноту. Цікаўлюся палітыкай і класічнай музыкай. Паважаю разумных людзей (не ў сэнсе «адукаваных»), а яны так рэдка сустракаюцца. Хочацца мець сяброў і асабліва з хлопцаў, якія служылі ці служаць у Афганістане. МІРОНАВА С., г. Мінск, ГСП, вул. Артылерыстаў, 13, інтэрнат 2.

Нядаўна мы прыехалі з Германіі, пасяліліся ў горадзе Гродна. Сяброў у мяне пакуль няма, так што буду рады кожнаму лісту. Захапляюся музыкай і спортам, люблю чытаць. ДЗЕМІДОВІЧ Эдуард, 230027, г. Гродна, вул. Паповіча, 38, кв. 23.

Мне 16 гадоў. Хачу перапісвацца з равеснікамі — аматарамі сабакаводства. Люблю спаніэляў, магу даваць парады па дрэсіроўцы сабак. ХОНІНА Алена, 181300, Пскоўская вобл., г. Остраў-2, вул. Камуністычная, 2, кв. 59.

## КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

Мне 19 гадоў, я скончыла музычнае вучылішча. Вельмі люблю спорт, сучасную і класічную музыку, танец, тэатр. У будучым мару стаць кінаактрысаю. Хацелася б знайсці сябра з тэатральнага асяроддзя, з якім можна пагаварыць на цікавыя мне тэмы. МАРЫКА.

Я раблю ў органах МУС, мне 22 гады. Захапляюся радыёсправаю, фатаграфіяй, эстраднай музыкай. Хацеў бы мець добрых сяброў. ВАСІЛЬ.

Мне 24 гады, я скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум, аддзяленне агранаміі, але працую таваразнаўцам на плодаагароднінная базе. Пішу вершы, захапляюся сучаснай эстрадаю, люблю хадзіць у паходы, збіраць грыбы, разводзіць кветкі. Спадзяюся знайсці сяброў. АНАТОЛЬ.

Мне 22 гады. Сямейнае жыццё не склалася, і мы засталіся ўдваіх з гадавалым сынам. Сёлета заканчваю будаўнічы тэхнікум. Умею трохі шыць і вязаць, цаню хатнюю ўтульнасць. Хачу сустрэць зычлівага, чулага чалавека, які мог бы стаць надзейным спадарожнікам жыцця і клапатлівым бацькам. Алена.

Мне 22 гады, я пішу вершы, добра танцую, люблю гумар, фантастыку, сучасную і класічную музыку, фальклор, жывапіс — усяго не пералічыць. Мару пазнаёміцца з добрай дзяўчынаю. ФРАНЦ.



МЯЧ — НА ЦЭНТР

# ЁСЦЬ У КАМАНДЫ ДЫРЫЖОР...

Анатоль МЯСНІКОЎ

**Пра Сяргея Алейнікава футбольны свет загаварыў шэсць гадоў назад. І хоць дэбютаваў ён у вышэйшай лізе на сезон раней, у чэмпіянаце краіны 1981 года, увагу тады на яго звярнулі адзінкі: хіба што спецыялісты ды самыя дальнабачныя аматары спорту.**

**Першыя ўражанні засталіся добрыя. Мерны бег — ведучы мяч, Сяргей ацэньваў сітуацыю, шукаў працяг атакі, мабыць, разлічваў хады таварышаў па камандзе. А гульцу з шырокім дыяпазонам мыслення заўсёды знаходзіцца справа, як бы ні складваўся той ці іншы матч.**

**На першы самастойны крок ён адважыўся ў дзесяцігадовым узросце. Выхваляліся сябры-аднагодкі: хто на футбол пачаў ужо хадзіць, хто — на хакей, а хто — на плаванне... Прыкінуў, што нявартa адставаць і яму. Прыхапіў кеды, майку, трусы і падаўся не куды-небудзь — у спецыялізаваную футбольную дзіцяча-юнацкую школу.**

**— Форма была ў іх надта ж прыгожая,— тлумачыў пасля Алейнікаў свой выбар.— Уяўляеце: жоўтыя футболкі з дзвюма зялёнымі палоскамі. У нашым двары кожны хлапчук марыў аб ёй.**

**Цяжка сёння меркаваць, што ўмеў тады рабіць Сяргей. У дваровых баталіях вызначаўся, аднак хто з нас не імкнуўся гадоў у дзесяць — дванаццаць атрымаць мянушку «Пеле», «Гарынча», «Блахін»...**

**Валерыю Леанідавічу Кавалеўскаму хлапчуковы смеласць і рашучасць спадабаліся. Прапанаваў паказаць, што ўмее рабіць з мячом. Сяргей, як умеў, пажангліраваў, зрабіў колькі ўдараў. «Прыходзь, будзем працаваць»,— вынес прысуд Кавалеўскі.**

**І сёння ганарыцца Сяргей Алейнікаў тым, што ў спецыялізаваную ДзЮСШ № 5 ён трапіў з першай спробы.**

**Шкада, што невысока цэнім мы яшчэ людзей, якія нейкім шостым пачуццём, інтуіцыяй распазнаюць у дзецях таленты, вялікія патэнцыяльныя магчымасці. Ім жа, як кажуць, цаны няма, гэтым спецыялістам, што адкрываюць свету «зорак» самай першай велічыні.**

**Шмат гадоў мінская футбольная ДзЮСШ рыхтуе высакакласных спартсменаў. Тут выраслі, загартавалі свае характары Юрый Курбыка і Сяргей Бароўскі, Валерый Шавейка і Пётр Васілеўскі, Андрэй Зыгмантовіч і Андрэй Сацункевіч... Аўтарытэт школы прызнаны ва ўсёй краіне.**

**Працаваў Сяргей шмат, з ахвотай, нават з задавальненнем. Ні ў Валерыя Леанідавіча Кавалеўскага, ні ў Алега Міхайлавіча Базарнава, пад кіраўніцтвам якога займаўся пазней, прэтэнзій да юнага футбаліста не было зусім.**

**Скончыўшы ДзЮСШ, Алейнікаў трапіў у шматтысячны калектыў «Гарызонта». Сваёй футбольнай каманды ў аб'яднанні не было (як, дарэчы, няма і цяпер), і для таго каб падтрымліваць высокую спартыўную форму, юнак пачаў гуляць... у хакей. «Ці атрымлівалася!» — спытаўся я аднойчы ў Сяргея.**

**— Што-кольвечы ўмеў,— як заўсёды сціпла адказаў ён.**

**Сёлета, у час падрыхтоўкі дынамаўцаў Мінска да чарговага футбольнага сезону, давялося пабачыць, што ўмее рабіць Алейнікаў у хакеі. Трэніруючыся разам з сябрамі на лёдзе крытага катка ў парку імя Горкага, ён закручваў каля варот «суперніка» такую карусель, што міжволі закрадвалася сумненне: футбалісты гэта займаюцца ці хакеісты! Сказаў аб гэтым Івану Іванавічу Савосцікаву, і ён, пагадзіўшыся з тым, што савецкі хакей мог бы мець у асобе Алейнікава надзейнага іграка зборнай краіны, дадаў:**

**— Толькі футболу ён патрэбен больш...**

**Ёсць штосьці заканамернае ў тым, што менавіта так распарадзіўся і лёс.**

**Вяртанне да футбола адбылося ў 1979 годзе. На гэты раз — назаўсёды. Сяргей паступіў на вучобу ў Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры, а там поле дзейнасці — надзвычай вялікае. Спачатку — інстытуцкая каманда «Буравеснік», якая выступала ў чэмпіянаце рэспублікі, а потым (нарэшце!) і дубль «Дынама».**

**Селекцыянеры галоўнай каманды Беларусі менавіта ў той час вырашылі пайсці на правільны, хоць і адчайны, крок: зрабіць стаўку на сваіх, выхаваных дома, ігракоў. Ваяжоры з іншых гарадоў і рэспублік, якія прыбывалі ў Мінск з мэтай дагуляць свой спартыўны век, памяняць чарговы раз машыну ці набыць без чаргі дарагі імпартны гарнітур, парадкам надакучылі і кіраўнікам спартыўных арганізацый, і шматлікім прыхільнікам «Дынама». Памочнікі галоўнага трэнера мінчан Эдуарда Васільевіча Малафеева шмат ездзілі па Беларусі, праглядаючы матчы з удзелам калектываў другой лігі, гульні першынства БССР. Мэта ставілася адна: знайсці здольную моладзь, папоўніць ёю рады дынамаўцаў.**

**Па чыёйсьці парадзе Эдуард Малафееў прыглядзеўся да Алейнікава. Прыгадваю яго словы ў час адной з сустрэч:**

**— Юнак не без таленту. Прымае нестандартныя рашэнні, умее ўзяць на сябе больш, чым іншыя. У нашай справе гэта надзвычай каштоўна. Хоча расці, шмат працуе. А яшчэ цвяроза ацэньвае як свае здольнасці і ўменні, так і недахопы.**

**Цяпер я ніколькі не сумняваюся, што, знайшоўшы такіх футбалістаў, як Алейнікаў, Эдуард Васільевіч і распрацаваў канцэпцыю «свайго» футбола, які ён назваў шчырым. Крыўдна, вядома, што так і не зразумелі гэтага таленавітага настаўніка на ўзроўні зборнай Савецкага Саюза. Ён будаваў адносіны ігракоў — і ў Мінску, і ў галоўнай камандзе краіны — на прынцыпах чыстасардэчнасці, узаемнага даверу і павагі. Праўда, спачатку ў «Дынама» яго зразумелі, далі папрацаваць, праявіць сябе. Вынік: мінчане сталі чэмпіёнамі СССР, пасля — бронзавымі прызёрамі. І зборная Савецкага Саюза, прынятая ім у надзвычай крытычны момант, з гонарам выйшла з выпрабаванняў: атрымала права ўдзельнічаць у чэмпіянаце свету ў Мексіцы. Але... Закруцілася нечакана інтрыга, калектыў, які заваяваў пуцёўку на сусветнае першынство, проста разагналі, і ў Мексіку паехала іншая каманда з іншым кіраўніцтвам...**

**Але мы, здаецца, некалькі адхіліліся ад тэмы.**

**Той, «залатой» у будучым**

мінскай каманды, якую спакваля фарміраваў Эдуард Малафееў, Сяргей Алейнікаў не толькі падыходзіў — ён быў ёй неабходны. Функцыі дыспетчара, дырыжора атак, якія па задуме галоўнага трэнера павінен быў асвойваць навабранец «Дынама», здольны выконваць не кожны нават высокакласны футбаліст. Менавіта для вырашэння гэтых задач патрэбны і інтуіцыя, і бачанне поля, і адчуванне гульні — яе кірунку, тэмпу, калі хочаце — дыхання.

З'явіўшыся ў асноўным складзе «Дынама», Алейнікаў, як кажуць, трапіў у сваю стыхію. Каб выканаць той аб'ём работы, які належала яму выконваць, трэба было мець выдатную фізічную падрыхтоўку, вынослівасць. Апорны паўабаронца павінен не толькі падтрымліваць атакуючыя парадкі каманды, але і не менш, калі не больш, працаваць у абароне. Прыгадаем: колькі разоў хадзілі ў атаку чэмпіёны краіны 1982 года Юрый Курненін, Віктар Янушэўскі, Юрый Трухан, а Сяргей адразу ж займаў іх месцы, падстрахоўваў таварышаў. Змяняўся рытм гульні, закручвалася каля варот супернікаў славутая мінская віхура — і ўжо сам Алейнікаў выконваў у ёй адну з вядучых роляў. І вось так — ад паядынку да паядынку, як бы ён ні разгортваўся: па сцэнарыю мінчан альбо іх праціўнікаў. А яшчэ — незалежна ад таго, як ты сябе адчуваеш, абсалютна здаровы ці з незалечанай траўмай...

Заваяваўшы залатыя медалі чэмпіёнаў СССР, дынамаўцы Мінска выйшлі на еўрапейскую арэну: атрымалі права выступаць у розыгрышы Кубка чэмпіёнаў кантынента. Большасць ігракоў, у тым ліку і Алейнікаў, разумелі: гэта не толькі ганарова, але і адказна. І дынамаўцы не разгубіліся. Дэбютанты розыгрышу дайшлі да чвэрцьфіналу спаборніцтваў. А потым былі матчы на Кубак УЕФА і ўладальнікаў Кубкаў еўрапейскіх краін.

Сяргей прызнаецца: самы памятны пакуль што дзень у яго спартыўнай біяграфіі — 7 лістапада 1984 года. Дарэчы, гэта дзень нараджэння спартсмена. Толькі не аб святочным застоллі пойдзе размова: мінчане прымалі на сваім полі ў розыгрышы Кубка УЕФА славуты партугальскі клуб «Спортынг».

У першым паядынку — на полі суперніка — партугальцы выйгралі 2:0. Што і казаць: вялікую фору мелі яны. Але... 18 хвілін хапіла дынамаўцам, каб забіць два мячы і аднавіць раўнавагу. Праўда, большага ні ў асноўны час, ні ў дадатковыя паўгадзіны зрабіць не ўдалося. Дайшла чарга да пасляматчавых пенальці. Апошні з пяці ўдараў «Спортынг» не рэалізаваў, а рашаючы ўдар у мінчан выпала нанесці Алейнікаву. Прабіў ён моцна і дакладна.

Нягледзячы на складанасці і супярэчнасці абстаноўкі ў зборнай Савецкага Саюза напярэдадні апошняга чэмпіянату свету, у Мексіку Алейнікава ўзялі. Гэта было справядліва: у сезоне 1985/86 гадоў яго практычна ў адзін голас спецыялісты называлі лепшым у сваім амплуа гульцом. Нават такі строгі і патрабавальны настаўнік, як Валерый Васільевіч Лабаноўскі, ставіцца да мінчаніна вельмі добразычліва. Сяргей расказваў, як у Мексіцы напярэдадні матча зборных СССР і Венгрыі ў прысутнасці кіраўніцтва і ўсіх футбалістаў галоўны трэнер сказаў: «Многія лічаць, што Алейнікаў знаходзіцца ў зборнай незаслужана. А я веру ў гэтага іграка, і ты, Сяргей, павінен сёння даказаць, што па праву носіш форму зборнай Савецкага Саюза».

Цяжка меркаваць, якія ацэнкі раздае Лабаноўскі сваім выхаванцам — спартсменам з кіеўскага «Дынама», якіх у зборнай зазвычай не менш чым дзесяць, а вось заслужыць такое прызнанне футбалісту з іншай каманды — няпроста. Валерый Васільевіч — строгі, прынцыповы, суровы. Значыцца, і сапраўды верыць ён у Алейнікава, разлічвае на яго.

...Той высокі давер Сяргей апраўдаў літаральна праз некалькі хвілін пасля пачатку гульні, калі, атрымаўшы мяч, нанёс дакладны ўдар. Пазней японская фірма «Сэйко» ўручыць яму гадзіннік — прыз за адзін з самых «хуткіх» галоў на сусветным першынстве.

— Сустрэчы ў Мексіцы запомняцца мне надоўга,— гаварыў спартсмен пасля вяртання на Радзіму.— Гэта было сапраўднае спартыўнае свята.

У матчах, праведзеных на чэмпіянаце савецкай зборнай, Алейнікаў выконваў персанальныя заданні. У гульні з венграмі апякаў іх форварда Дэтэры, потым — француза Плаціні і бельгійца Кулеманса. У такіх майстроў сусветнага футбола ён шмат чаму навучыўся. Ды і сам удзел у паядынках на такім высокім узроўні загартаваў характар футбаліста, дазволіў яшчэ больш паверыць у сябе.

Змена кіраўніцтва, унутраныя нелады, якія, на жаль, мелі месца апошнім часам у мінскім «Дынама», не маглі не адбіцца адмоўна на турнірным становішчы каманды. «Не стала ў нас сапраўднага калектыву: як на полі, так і наогул у жыцці,— сказаў мне Сяргей.— А гэта дрэнна. Зніклі тыя шчырасць, даверлівасць, якія вызначалі нас у год чэмпіёнства...»

Ён адчувае: адказнасць за пагаршэнне клімату ў камандзе ляжыць і на ім. Як на адным з лідэраў, урэшце, як на прадстаўніку ў зборнай Савецкага Саюза. З'яўляючыся капітанам «Дынама», членам трэнерскага савета, Алейнікаў ніколі не звальваў віну на іншых, сцвярджаў, што вядучыя ігракі павінны згуртавацца, паказаць прыклад, павесці за сабой моладзь.

Працэс змены пакаленняў, які пачаўся ў «Дынама», вядома, бясследна прайсці не можа. Нават такія гранды айчыннага футбола, як кіеўскае «Дынама» і маскоўскі «Спартак», перажываюць у такія моманты спад. Іншая справа, наколькі ён зацягнецца, як хутка трэнеры і спецыялісты змогуць знайсці, падрыхтаваць паўнацэнную змену, маладое папаўненне. З каманды чэмпіёнаў 1982 года сёння ў радах мінчан засталося менш за палавіну — сем футбалістаў.

— Пускаць моладзь у асноўны склад у нас пачалі, на маю думку, пазнавата,— дзеліцца Алейнікаў сваімі назіраннямі.— Перасядзелі крыху Павел Раднёнак, Сяргей Шырокі. А Аляксандр Мятліцкі і Андрэй Шаліма пачалі нават здаваць. Калі ў мінулым сезоне вядучых гульцоў вывелі са строю траўмы, моладзі была дадзена магчымасць паказаць сябе, паспрачацца за месца «пад сонцам». Толькі ніхто, за выклікам Сяргея Дзеркача, не выкарыстаў як след такі спрыяльны момант.



Спадзяёмся, што з вяртаннем Э. В. Малафеева, мы вырашым многія праблемы. Тым не менш «Дынама» ставіць перад сабой самыя высокія мэты. Пацярпеўшы сёлета няўдачу ў матчы чвэрцьфіналу розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін з бельгійскім клубам «Мехелен», мінчане разлічваюць восенню, зноў уступіўшы ў барацьбу за Кубак УЕФА (а гэтае права яны атрымалі заняўшы ў леташнім чэмпіянаце СССР пятае месца), рэабілітавацца сябе. «Мы яшчэ заявім аб сабе»,— разважліва запэўнівае капітан каманды Сяргей Алейнікаў.

...Я чуў няраз, як пыталіся ў яго — і мае калегі-журналісты, і шматлікія балельшчыкі: ці хацеў бы ён перайсці ў іншую каманду! Скажам, у маскоўскі «Спартак» ці кіеўскае «Дынама»! Сяргей адказвае заўсёды адназначна: такога намеру не мае. «Я лічу,— гаворыць ён,— што гулец заўсёды павінен заставацца патрыётам сваёй каманды. Трэба памятаць, каму кожны з нас абавязаны сваім з'яўленнем на футбольным гарызонце, станаўленнем і прызнаннем».

Рысыкну назваць асноўную рысу характару гэтага спартсмена, з якім знаёмы вось ужо шмат гадоў. Гэта — уменне абдумваць тое, што робіш. У гульні, на трэніроўцы, у адносінах з сябрамі Алейнікаў справядлівы, роўны. Знешне ў вочы гэта не кідаецца, але я бачу, адчуваю: думка ў ім пульсуе няспынна.

Сёння на яго плячах ляжыць вялікі цяжар славы, папулярнасці. Яму апладзіравалі Парыж і Мехіка, Берлін і Хельсінкі, Лісабон і Осла... Тым не менш я прыкмеціў: Сяргей страшэнна не любіць шуму, ажыятажу вакол сябе.

У некаторых дынамаўцаў я пытаўся: што вабіць іх у Алейнікаве! «Шчырасць»,— любімым малафееўскім словам адказвалі адны з іх. «Бескарыслівасць»,— чуў я ад другіх. «Сумленнасць»,— казалі трэція.

Тры словы... А ў іх — поўная і справядлівая характарыстыка капітана, дырыжора каманды, сябра.

Фота Уладзіміра КАЦАПАВА

# Будзьце прыгожыя!

Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ

Як зусім проста і забаўна «прыкрыць» сябе на адпачынку, у пляжнай мясцовасці, паказвае мастак-мадэльер Беларускага цэнтра моды Элеанора ЖВІКОВА.

У чытацкай пошце часта сустракаюцца лісты, аўтары якіх пытаюцца: як пазбавіцца ад вугроў, прышчоў, вяснушак. Сур'ёзныя скураныя захворванні, якімі з'яўляюцца вугры і прышчы, могуць лячыць толькі дактары-дэрматолагі, зыходзячы з індывідуальнага стану пацыента. Што ж датычыць вяснушак, то парады, якія я вам дам, атрыманы ад дактароў-касметолагаў.

Нельга лічыць вяснушкі касметычным недахопам тых дзяўчат, у аблічча, стыль якіх яны гарманічна ўпісваюцца, спрыяюць іх абаяльнасці. Паспрабуйце зірнуць на сябе менавіта з такой пазіцыі, параіцца з людзьмі, густу якіх і добрым адносінам да сябе вы давяраеце. Дарэчы, у сусветнай модзе час ад часу з'яўляецца і такая лінія.

Увечары, ачышчаючы твар ад грыму і пылу, неабходна карыстацца малочнакіслымі прадуктамі, яны адбельваюць і жывяць скуру. На 15—20 хвілін можна нанесці маску з кіслага малака, змяшанага з тварагом. Тлустую скуру перад гэтым можна змазаць лімонным сокам. Пры сухой скуры лімонны сок трэба наносіць толькі на вяснушкі. Можна выкарыстоўваць і іншыя сокі, якія адбельваюць скуру: рэпчатай цыбулі, свежых лістоў пятрушкі, кіслай капусты. Свежым сокам маладога агурка можна змазваць вяснушкі 2—3 разы на дзень. Маска здымаецца ватным тампонам, намочаным кефірам ці сыраквашаю, і на яшчэ вільготную скуру наносіцца крэм, які адпавядае вашаму тыпу скуры: для сухой — пажыўны, для тлустай — увільгатняючы або спецыяльны лячэбны («Лель», «Сорванец», «Пеппи»).

**МОЖНА ЎЖЫВАЦЬ І ТАКІЯ МАСКІ:**

1. Да аднаго ўзбітага бялка дадаць адну чайную лыжачку 3-працэнтнага пéракісу вадароду, нанесці на твар на некалькі хвілін, захоўваючы бровы і вейкі ад адбельвання. Змыць халоднай вадою, нанесці крэм. Для сухой скуры ў бялок неабходна дадаць адну чайную лыжачку тварагу, пасля перакіс вадароду.

2. Працадзіць сок аднаго лімона, дадаць дзве чайныя лыжачкі мёду, намачыць гэтай сумессю марлевую сурвэтку і нанесці на твар, замяняючы яе іншымі 2—3 разы па 15—20 хвілін. Вымыць цёплай вадою. Сумесь можа захоўвацца ў халадзільніку 7 дзён. Зрабіць 15—20 масак з інтэрвалам у некалькі дзён. Сухую скуру папярэдне змазаць тлустым крэмам.

3. Пры тлустай і нармальнай скуры 10 г дражджэй расцерці, дадаць 3-працэнтнага перакісу вадароду да атрымання густой «смятаны». Нанесці на твар на 10—15 хвілін, зняць вільготнай ватаю, намочанай у настоі гарбаты, рамонкаў. Рабіць 10—15 масак з інтэрвалам у некалькі дзён.

4. Нацерці агурок на буйной цёрцы, заліць свежым малаком, дачакацца закісання малака, наносіць на 10—15 хвілін на працягу 2—3-х дзён запар. Пры неабходнасці курс паўтарыць.

5. 15—20 г дражджэй расцерці з адной-паўтара чайнымі лыжачкамі лімоннага соку, соку чырвоных парэчак ці грэйпфрута, трохі нагрэць. Нанесці на 15—20 хвілін, змыць растворам гарбаты, нанесці на твар крэм.

Маскі з мёдам проціпаказаны тым, у каго назіраецца алергічная рэакцыя на гэты прадукт. Пры ўзмоцненым росце валасоў на твары і пашыраных капілярах проціпаказаны маскі, кампанентамі якіх з'яўляюцца дрожджы і мёд.

